Ба 57

Янка Купала.

Бел. аддзел
1994 г.
Инв. 1929 г.
Б 57

# Шляхам жыцьця.

Пецярбург.
1913.

Шчыра Паважанаму

доктару А. П. ЕРЭМІЧУ

гэту кніжку пасьвячаю.

**Аўтор.**

## I. Бацькаўшчыне.

Усяго па крысе знойдзеце вы гэтта,—
Пры сасе пры касе собрана за лета.

Шчырым сэрцэм, душой складана ня-хітра,
Знамо свой, не з якой там «звёздкай», ці мітрай.

Што нібудзь мо' не так—прашу прабачэння;
Трудна ў рыхт—часу брак, мазаліста жменя.

Мо' і радасьць тут—госьць, больш нуды проклятай;
Ось бярыце, што ёсьць, чым хата багата.

Што у думках я меў, кепска даць не браўся,
Хоць, як скованы леў, туды-сюды рваўся...

Людзі мруць, а ўсё ждуць багатшай уроды,
Мо' і к нам прыбягуць шчасьнейшые годы.

О тады сноп у сноп жніво нашэ будзе...
Сотня коп, мільён коп... Дзівуйцеся людзі!

А цяпер, што цяпер?—бывайце здаровы!
Чэсьці дайце прымер для радзімых словаў.

# Песьня мая...

Песьня мая не ўзышла сярод кветак,
Кветак цьвітучаго вечна паўдня...
Поўначы сумнай забыты палетак
Даў ей жыцьцё пасярод палыння.
Пушча і ночка яе гадавалі,
Няньчылі казкамі долі нямой;
Дождж і расіца вясною купалі,
Сьнежные буры тулілі зімой.
Песьня мая не ўсьпінае атласаў,
Выдумкай хітрай у сьвет не ляціць,—
Знацца ей досьць з беларускаю красай—
Лесам шумеці, касою званіць.
З думкамі ходзе забранаго краю,
Служыць і верыць у лепшы усход...
Бо калі гасьне паходня старая,—
Новую заўтра распаліць народ.
Песьні маей не патрэбны сьвятліцы
У княжэскіх хорамах слухаць музык;
Коціцца, ўецца свабоднай крыніцай
К сонцу і зорам, прастор дзе вялік.
Ей не патрэбна ўсесільных прынука,
Службы лекайскай не знае яна:
Воля жывая ей вечнай зарукай,
Волі нязьмеранай—служба адна.
Песьня мая не шукае прывету,
Ласкі ў скурганеным сэрцы чыім,—
Вецер свабодны з далёкаго сьвету
Стрэце, праводзе атпевам сваім.
З небам і ніваю ў дружбу заходзе,
Слухае бору адвечнай жальбы,
Вотклікі лове ў бурлівым разводзьдзі,
У зорках шукае жыцьця варажбы.
Песьня мая не зачэпе сягоння
Думкай сваею ўсіх хат і сяліб,
Зваленых хат і людзей у прыгоне,
Ўсходным зярном неабсеяных скіб...

Час, як крыніца, ідзе, не марудзе...
Кіне стары дзень жыцьцём кіраваць,
Новы дзень прыдзе, і новые людзі
Будуць пачатую думку снаваць.
Песьня мая не шукае чырвонцаў—
Будучнасьць гэткіх ня нойдзе ў ёй плям,—
Жыць хочэ толькі ў радзімай старонцэ,
Пеці па сэрцу ўсім добрым людзям.
Пеці, і с часам у добрую пору
Выклікаць втклік у сонным сяле...
Ўсю Беларусь неабнятну—як морэ,
Ўбачыць у ясным, як сонцэ, сьвятле.

---

## Грайце, песьні.

Ці то позна, ці то рана,
Чую нейкую напасьць;
Дзе ні стану, дзе ні гляну,
Думка ўсюды голас дасьць.
Небо, сонцэ, месяц, зоры,
Людзі, пушча, ўся земля,
Ўсё да сэрца штось гаворэ,
Ўсюды бачу моц жыцьця,
І пагодай, непагодай
Не магу дрэмаць, чэкаць:
Так і хочэцца заўсёды
Песьню вечную снаваць;
Добрай доляй, дзіўнай казкай
Сон палошыць с хат нямых,
Пацешаці сонца ласкай
І старых, і маладых;
Зваці, клікаць на пакосы,
На нязьмераны прастор,
Хай зазвонюць сьмела косы,
Грукне ў лесе хай тапор;
Хай цярэбюць, косюць, звонюць,
Клік пускаюць на ўвесь сьвет,

Аж неўлады ўсе разгонюць,
Ляжэ чысты роўны сьлед.
Гэтак, покі сэрцэ чуе,
Што не час у шапку спаць,
Грайце песьні, хай красуе
Наш загон і сенажаць

---

## Сваякам па гутарцэ.

Шлю вам песьняй, братнім словам
Здароўканне, людзі:
Не гасіце веры, што вам
Жыцца лепей будзе.
Вы ня зломкі, вы ня зноскі,—
Вы народ магучы:
Вашэ панство—вашы вёскі,
Пан ваш—труд жывучы;
Ваша слава не ў палацы,
Ні ў княжацкай мітры,
А на роднай ніве, ў працы
Карыснай няхітрай.
Вашы скарбы не ў едвабнай
Магнацкай саеце,
А ў сермязе непавабнай,
Старшай на ўсім сьвеце.
Вашы рукі хоць абіты—
Пясок на іх значэн,
Але хлеб, імі дабыты;
Для ўсіх бел і смачэн.
Слава вашай гэткай сілы
Вочы ўрагом коле,
Сьведкай сьвежые магілы,
Што сыпе няволя.
Сьведкай прадзедаў шкелеты,
Курганы с кустамі,
Сьведкай—песьні воклік гэты,
Сьведкай вы з сьлезамі.

Дык хай жэ вас не асіле
Зверство непагоды,
Распусьціце свае крыльля,
Як і ўсе народы.
Рухне крыўда, праўда ўстане,
Ворагаў адстрашэ;
Будзе долі панаванне
На зямлі на нашай.

---

## Паляці, мая мысьль...

Паляці, мая мысьль, лётам со́кала,
І праглядзь гэты сьвет кругом-вокала.
Лётам сьветлай зары панад стрэхамі
Сып надзеяй жывой і пацехамі.
Пей аб волі людзям думкі цудные,
Уміляй іх жыцьця сьцежкі трудные.
Залатые сны ім нехай родзюцца,
Нехай жаль на душы супакоіцца.
Гонюць хай ад сябе цьмы нядольные,
І рука у руку пойдуць вольные.
Так ляці, эй, ляці, мысьль свабодная!
А ты міла спаткай, земля родная.

---

## Рвіся, думка!..

Покі старасьць неўдалая
Костак з ног не вале,
Рвіся, думка маладая,
Туды, выжэй, далей!
К таей праўдзе ненапраснай:
К шчасьцію і свабодзе;
Рвіся, покі будзе ясна,
Покі будзе годзе!
Гарапашна, непрасьветна
І ў душы, і ў хаце,
Стане горэй непрыветна,
Калі будзем спаці.

Дык жывуча, скокам-бокам,
Покі сэрцэ точыш,
Рвіся, думка, ненарокам,—
Нойдзеш, чаго хочэш!
Рвіся! рвіся! дый старайся
Нуду адалеці,
Заглушыцца не давайся
Ні за што на сьвеці.

---

## За свабоду сваю...

За свабоду сваю
Ўсей душой пастаю;
У вагонь, у ваду
Я за ёю пайду.
Лепей сам сябе дам
Пахаваці людзям.
Як свабоду хаваць,
Злыбядзе аддаваць.
Ў сэрцы, ў думках сваіх
З самых лет маладых
Я яе ўзгадаваў
І сваею назваў...
Гэй ты, гэй, вецер, пей
А свабодзе маей!
Гэй ты, гэй, бор, шумі,
А свабодзе грымі!
Гэй, ты, сонцэ, гары
Ад зары да зары,
Ланцугі распалі
Па ўсей чыста зямлі!..

---

## На жалейцэ.

1.

З шумам бараў, ясакораў,
Ой, гаю, ой, гаю,
На жалейцэ—дабрадзейцэ
Думку дум зайграю.

Ой, зайграю, запытаю,
За што, за якое
Плачуць песьні, як ня трэсьне
Сэрцэ маладое?
Ці у маці я дзіцяцей
Ня быў, не хаваўся?
Ці замала уздыхала,
Як з ёю прашчаўся?
Ці ніколі ня меў долі
У чужой хаціне,
Ці я ў полі ня меў волі
Пры чужой скаціне?
Ці мо' сілы, Божэ мілы,
Калі не хватала,
Як з сахою, ці с касою
Ваюю, бывала?..
Ці ж то гэта, там, праз леты,
Як умру з надзеяй,
Мае косьці ў дзікай злосьці
Вецер не разьвее?
Не разьвее, не разсее,
Каб і сьлед не ўзьняўся,
Што гаротны і маркотны
Па сьвеце бадзяўся?
Эх, жалейка—дабрадзейка,
За што, за якое
Плачуць песьні, як ня трэсьне
Сэрцэ маладое?

---

2.

Я ня пушчаю сьпеваю
Песьні-казкі аб Дунаю,
Хоць то сэрце с пушчай рвецца,—
А пад грушаю пахілай,
Што над бацькоўскай магілай,
Граю толькі на жалейцы.
Я ня звон, што час нам лічэ
І на вечэ праўду клічэ,

Хоць то сэрцэ звонам бьецца,—
А па шчасьці пахаваным,
Над рэкою, пад туманам
Граю толькі на жалейцы.
Я ня вецер вольны, спраўны,
Што пяе свабодай слаўнай,
Хоць то сэрцэ к славе рвецца,—
А ў цянётах павучыных,
На разстайных пуцявінах
Граю толькі на жалейцы.
Не на гусьлях звонкіх баю
Аб забраным недзе краю,
Хоць то сэрцэ к гусьлям рвецца,—
А на спасьвеным узгорку,
Угледаючыся ў зорку,
Граю толькі на жалейцы.
Я ня гром, што сьветы крышэ,
І людзям законы пішэ,
Хоць то сэрцэ громам бьецца,—
Я паціху, чуць чуваці,
У чужой забыты хаці,
Граю толькі на жалейцы.
Граю, граю і чэкаю
Ўсходу сонца з-за Дунаю,
Калі морэ ўскалыхнецца,
Калі песьню, гымн вясёлы,
Нашым нівам, нашым сёлам
Я зайграю на жалейцы.

---

## Каб я князем быў...

Каб я князем быў уладарным
Гэтых ніў і хат,—
Быў-бы князем гаспадарным,
Вёў-бы добры лад,
На пасадным мейсцы-б селі
Право і закон,
Праўду вечную ўсе-б мелі—
Вечавы свой звон.

Не цягну-бы я с падданых
Крыўдай соль і хлеб,—
Кожны сам сабе ад рана
Малаціў-бы цэп.
Каб я сонцэм залацістым
Плаваў над зямлёй,
Быў-бы сонейкам вячыстым
Летам і зімой.
Не лажыўся-б на разлогі
Непраглядны цень,
Асьветляў-бы ўсе дарогі
Ў ночы і у дзень.
Гадаваў-бы ў вечным цьвеце
Поле і лугі,
Распаліў-бы ўсе на сьвеце
Путы-ланцугі.
Каб я рэчкай быў міжгорнай
На зямлі маей,
Быў-бы рэчкай жыватворнай
Для старонкі ўсей.
Ажыўляючай крыніцай
Быў-бы на яву,
Чыстай шклістаю вадзіцай
Змыў-бы сон-траву.
На засушэные кветкі
Клаўся-бы расой,
І каціўся-б праз палеткі
Сьветлай паласой.
Каб я птушкай быў крылатай,
Пець і лётаць мог,
Быў-бы птушкай незаклятай,
Па расе ня сох,
Груганом-бы я ня крумкаў,
Не наводзіў сьлёз,
А на крыльлях нашу думку
К Богу бы панёс.
Крыўду—ведзьму нашых межаў—
Беднату і цьму,
Ўсё-б па праўдзе, як належэ,
Вылічыў Яму...

---

## Песьня сонцу.

Вольным гоманам хвоек высокіх,
Туманамі санлівых нізін,
Казкай векаў блізкіх і далёкіх
Клічэм, сонце, цябе, як адзін!
Распусьці залацістые косы,
Схаладзелы загон ацяплі,
Аквяці лугавые пакосы,
Ўсходы новые сей на зямлі.
З непатульнай пакорнай зямліцай
Заручыся, шлюб вечны вазьмі,
Разлівайся люстранай крыніцай
Між даламі, гарамі, людзьмі...
Разсыпайся па сёлах, па нівах
Брылянцістай ажыўчай расой;
У вясёлках купайся цьвятлівых,
Ла́скай сэрцэ, душу супакой...
Як у сьвята Купальскае, сонцэ,
Свой жывы абнаўляеш паглёд,
Аднаві славу нашай старонцы,
Аднаві яе сумны народ!
Хай нам явары вечные думы,
Думы-байкі шасьцяць, шэлесьцяць,
І нясуцца хай гэтые шумы,
Па бел-сьвету лецяць, хай лецяць!...
Дык глянь с хорамаў вольных, высокіх
Да Крывіцкіх туманных нізін...
Казкай векаў блізкіх і далёкіх
Клічэм, сонцэ, цябе, як адзін!

---

## Песьня-байка.

З-за далёку, із усходу
Віхар мчыцца ў непагоду,
Байкі сее маладые;
Думка чуе, думка ные...

. . . Ціха—Бачце: штось віднее,
Льецца нейкая надзея,
Штосьці едзе з новым сватам,
З новым шлюбам с хаты ў хату...
Скінь лахманец непазорны.
Пыл згані з ваконцаў чорны,
Пыл змяці хутчэй з ваконца,—
Шэпні—клікні: сонцэ! сонцэ!...
Бытцам с песьняй, бытцам з ласкай,
С чараўніцкай нейкай казкай
З-за далёку, із усходу
Віхар мчыцца ў непагоду...

## Прад сьвітаннем.

Ціха... Бачце: штось варушыцца,
Штось паўстаці хочэ;
Перажытасьць гнецца, крушыцца,
Новы сьвіт шапочэ.
Сонцэ з цемрамі змагаецца;
Мох злетае с хат і пунь;
Даль за далей ажыўляецца;
Ўсходзе ядрэная рунь.
Дрыгацяць напасьці—пошусьці,
Аціхаюць совы,
Разнімаюцца з паношэсьцяй
Крыльля груганові.
На курганішчы спускаюцца
Туманы жывой расой,
І па пустках расплываюцца
Безканечнай паласой.
Долей-мачыхай прыдаўленых
Зоры аклікаюць,
Ля магілішч акрываўленых
Валахі чэкаюць.

# Маладая Беларусь.

Вольны вецер напеў вольных песень табе,
Бор зялёны узняў дружным гоманам,
Сонцэ полымем вызвало к слаўнай сяўбе,
Зоры веру ўлілі сілам зломаным.
І ў час буры, нягод і вялікіх надзей
Зацвіла, расцвіла доўгажданая,
І крыніцай жывой над айчызнай сваей
Паплыла, пацекла неспыняная.
Паплыла, пацекла з светлай казкай жыцьця
Полем, лесам, гарой і далінаю...
З свойскіх кветак-пралесак—карона твая,
Ўся сама – ясната лебядзіная.
Зіхаціш і гусьлярскаю песьняй зьвініш,
Узнімаеш мінуўшчыну даўную;
Час сягоняшні ўперад ісьці не пыніш,
І глядзіш сьмела ў будушнасьць тайную.
Сьмела ў сонцы ідзеш, як жывы агнецвет,
Сееш ла́скава сны залацістые;
Не пужае сумежны дакучны сусед,
Не пужае пуціна цярністая.
Ад мяжы да мяжы, ад капца да капца
Абнаўлення павевы расходзюцца,
Абнімая душу без граніц, без канца
Маці-радасьць, што лепшы дзень родзіцца.
Ўжо не так тапары у зялёным бары
Хвойкі валюць зімой маразяною,
Ўжо не так касары ад зары да зары
Летам звонюць касой атклепаною.
Значэн гарт у руках, чутна песьня бяз слёз,
Грудзі славы надзеяй калышуцца,
Ў кнігі новы закон ёмка пёрамі с кос
Наўсяды людзьмі новымі пішэцца.
Расцвітай жэ, ўзнімай на арліных крылах
Душы, сэрцы і думы заспаные,
Вызывай, выклікай на вялікі прасьцяг
Сілу ведзьмай пятлёй нечэпанаю.

Высылай, разсылай на край сьвет пасланцоў,
Як з гнезда сакалінаго сòкалаў,
Хай лятуць, далятуць да байцоў-удальцоў,
Хай грымяць весткай добраю ўвокала.
Годзе ў полі, ў лясох ты, старонка, і так
Сіратой начэвала забытаю,
Годзе выпіў крыві з сэрца крыўды чэрвяк,
Косьці вецер тачыў непакрытые.
Падымайся з нізін, сакаліна семья,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі!..

---

## Выйдзі...

Ўстань ты, старонка, родная маці.
Годзе зімоваго рабскаго сну,
Годзе табе ўжо слёзна ўздыхаці,—
Выйдзі на поле, на сенажаці,
Выйдзі спаткаці вясну!
Скінь лахманы, што доўгіе векі
Ты валачыла с кастры, с палыну;
Выйдзі с пад дзікай зімняй апекі,
Што над табою строіла здзекі,—
Выйдзі спаткаці вясну!
Вырылі сьцюжы ўюгамі, сьнегам
Яму глыбоку табе не адну;
Сьнежные наспы мела начлегам...
Глянь, сьнягі таюць, рэчкі йдуць бегам...
Выйдзі спаткаці вясну!
С поўначы сівер кідаў табою,
Як абадрану з лісткоў галіну;
З захаду зьверы йшлі чэрадою
Рваць твае грудзі... Вышла жывою,
Выйдзі-ж спаткаці вясну.
Дзетак тваіх скрозь крыўдай сьляпілі,
Мучылі, гналі без часу ў труну,

Казак вучылі, штó ты ў магіле.
Толькі-ж блеск сонца здраду асіліў...
Выйдзі спаткаці вясну.
Ясна, сьвяточна ў красы ўбярыся,
Птушкай свабоднай сягні ў вышыну,
З сонцэм злучыся, зорамі йскрыся,
Песьняй распейся, славай акрыйся,
Выйдзі спаткаці вясну.
Сплецену с церняў маеш карону,
Хором твой—неба і нівы краса,
Царство ў чатыры дрэмле староны,
Слугі—мазольных рук міліёны...
Выйдзі... Чэкае весна!..

---

# Ты, зялёная дубрава...

Ты, зялёная дубрава,
Сон скідай, расцьвітай,
І шумеці добрай славай
Не кідай на ўвесь край.
Гамані, расходзься шумам
Ад мяжы да мяжы,
Ўлій надзею вольным думам,
Аб усім раскажы.
Казку быўшых песнапеваў
Распалі, разагрэй;
Размяці у права, ў лева
Сухацьвет, сухавей.
Маладые загаворы
Ў ход пусьці, сатвары;
Яснаглядам долы, горы,
Асьвяньці, прыбяры.
Кінь разгонна весьці сьвету
Аб сабе, аб сяўбе,
І да неба вестку гэту
Данясі у кляцьбе.

Абніміся з нівай роднай
І душой, і грудзьмі;
Край прыбіты, непагодны
Ўскалыхні, падымі...

---

## Песьня Званара.

В. і М. Ластоўскім.

На высокай гарэ, дзе ніхто не арэ,
Толькі птушка-арол дзе садзіцца,
Там збудую, ўзвяду нізі ўсей на віду
Мураваную вежу-званніцу.
І завешу я звон са ўсіх чутны старон—
Раўня голас і віхру, і грому.
Як пушчу яго ў ход, сазаву харавод,
Ні адзін не заседзіцца дома!
Разгудзіцца мой звон ад вакон да вакон,
Душы збудзіць, па сэрцах ударэ,
Дрогнуць сковы цямніц, блісьнуць іскры зарніц,
Заварушацца яры, папары.
На мой кліч вечавы хто жывы, чучь жывы,
Пад гарою касой загамоне.
Гулам звона скажу, сьцежку-шлях пакажу
На прывольле, на ўродные гоні!
За гарой за другой дам жывы вадапой,
Жыватворнае кожнаму зельле;
На нязлічэны час па нягодах папас
Усім тым, што церпяць і цярпелі.
Гэткі будзе мой клік—і магуч і вялік,
А не трапіць ён к душам прыспаным,—
Вызву гром пяруны—хай памогуць яны
Раз'агніць, затрасьці ўсе паляны.
Стогне бура, грымот. Я свой звон ход у ход,
Размахну як ніхто і ніколі,
Аж ад рук і ад хмур вежы рухне падмур,
Толькі розгалас пойдзе па полі.

Ляжэ крушнею там вежа, звон і я сам.
Арол-птушка ўскрыліцца пад небам.
А навокал гары задымяць сьцежары,
Груганамі ўскалышуцца вербы...

. . . . . . . . . . . . . .

І весна, і зіма. Быў званар і нема.
Ціха, ціха на белым прасторы.
Толькі жыў не жывы звону гул вечэвы,
Аб тым шэпчуць дубы, ясакоры.
Йдзе, сыходзіць лет шмат. Званара помніць брат,
Помніць звон, а сястрыца—званніцу.
Аб высокай гарэ, дзе ніхто не арэ,
Казкі-байкі ліюцца крыніцай.
Як у прошчу па лек, стане йсьці чэлавек
К мохам высланай крушні камення,—
Ад звана чэрапок, цэглы—мура кусок
Будуць несьці падмогу ў цярпенню.
Буду ўсё званаром, хоць даўно пад дзярном
Сьпіць мая галава маладая.
Эх, бо ведае сьвет, што вялікіх дум цвет
Адно толькі на зломе ўзрастае.

---

***

Не ўздыхай, не бядуй, брат, замучэны мой!
І жыцця, не кляні, не кляні!
Думу-несьню запей, стань адважнай ступой,
Ешчэ раз, не засьні, не засьні!
Хоць за хмараю хмара плыве чарадой,
Сільней хмар—гэта сонца агні.
І ты, брат, не бядуй, рвіся к сонцу душой,
Ешчэ раз, не засьні, не засьні!
Болей крыжам адным—гэта цень прад зарой,
А там лепшые новые дні!
Дык не плач жэ, брат мой, запей песьню са мной!
Ешчэ раз, не засьні, не засьні!

---

* * *

Не пужайся, што здрадные хмары
Неба ўслалі с канца да канца,
Што свае цемната ўнесла чары,
Закружыўся груган над папарам:
Ешчэ прыдзе весна!
Не пужайся, што лісць пажаўцелы
Лес скідае с канца да канца,
Дый ня чуць птушак пеўчых дзень цэлы,
Прашмыгне толькі заяц нясьмелы:
Ешчэ прыдзе весна.
Не пужайся, што бедная ніва
Апусьцела с канца да канца,
Што мужыцкай рукой нешчасьлівай
Неужоннае скончэна жніва:
Ешчэ прыдзе весна.
Не пужайся, што вольные сілы
Ў путах дрэмлюць с канца да канца,
Што насільства ўсю праўду здушыла,
Што сьмерць густа капае магілы:
Ешчэ прыдзе весна,
Ешчэ прыдзе!...

---

## Гэй наперад.

Гэй наперад, покі сэрцэ
Бьецца, рвецца на прастор,
Годзі млеці ў паняверцы;
Гэй да сонца! гэй да зор!
Хай бацькі стагналі ўчора,
Йшлі на той сьвет без пары;
Сёння ў нашай моцы горэ,
Мы жыцьця гаспадары!
Думка ў думку, дружна, сьмела
Ўсе наперад грамадой!
Кожны ведай сваё дзела,
Знай, за праўду крэпка стой!

Инв. 1953 г. Б-57
Дзяржаўная бібліятэка БССР імені Леніна

К новай долі шлях нам ляжэ,
Як на небі млечны шлях,
Слова, дум, ніхто не зьвяжэ;
Жыць, цярпець ня будзе страх!
І не стане больш пакуса
Першых лепшых з боку браць
Славяніна-беларуса
Вечна ў лапці абуваць.
Дык наперад, покі сэрцэ
Бьецца, рвецца на прастор,
Годзі млеці ў паняверцы!
Гэй да сонца! гэй да зор!

---

* * *

За праўду, за шчасьце, за лепшую долю
Вазьміся, мой дружэ, пастой!
У крыўду ня дайся, свайго дабівайся,
Адвага хай будзе с табой!
Хай горкіе слёзы, што ў спекі, ў марозы
Ліюцца на беднай зямлі,
Дадуць табе, браце, сіл горэ змагаці
І ў сэрцы распаляць агні.
Хоць віхры шалеюць, хоць песьні нямеюць,
Хоць страшна замучаны ты,
За добрую справу, за шчасьце і славу
Душу вырывай с цемнаты.
Кінь сваркі і звадкі, аднэй дзеці маткі
Мы злучэны мовай аднэй;
Пры згодзе і ладзе ў нас доля засядзе,
Палічаць і нас за людзей.
Дык жыва-ж к пачатку—не час спаць у шапку,
Валяцца, як чэрві ў траве;
Ўжо сонейко ўсходзе, ўжо дух у народзе
Збудзіўся і к праўдзе заве!...

---

## Мая думка.

*Констанцii Буйло.*

Як вецер, як птушка, дзе сонцэ, дзе зоры,
Так рвецца, нясецца ў даль думка мая;
Абоймецца з небам, пакоцiцца ў морэ,
Ў вялiкае морэ людзкога жыцьця.

I ўдарыцца ў сэрцэ так сумна, балесьне,—
Як лiсьцем вiхура, так iм скалыхне,
Так iм закалоцiць аж выклiкне песьню...
Ўжо с песьняй ляцiць зноў да зор к вышыне.

Запеўшы пахвалай нязведанай далi,
К вядомай павернецца долi людзкой;
Атсьвецiцца ў сьлёзах, як сьвечка ў крышталi,
Ды ў сьвет зноў за сонцэм, за новай зарой!...

На небi свабода, сьвятло i прывольле,—
А думцы за мала: нiма там людзей;
Людзей на зямельцы спаткае даволi,
Дык сонцэ i воля на сьвецяць тут ей...

I так без упынку, то к небу—дзе зоры,
Нясецца, як птушка, ў даль думка мая;
То скоцiцца ў морэ, ў вялiкае морэ
Людзкога, забытаго шчасьцем, жыцьця.

---

## Мой дом.

Мой дом—прывольле звёзднай далi,
Арламi мераны абшар,
Гдзе бiтвы точуць ветраў хвалi
З сямьёй глухiх калматых хмар.

БССР ... Ленiна

*

Мой дом—амшалай пушчы сховы,
Сяліба ясеняў, сасон,
Гдзе сьмех русалчын, лясуновы
Палошыць вечна-цяглы сон.

*

Мой дом—пешчаные разлогі—
Пакута сцюжы і сьпякот,
Гдзе ў скібах лад вядуць нарогі,
Аздобай цьвет—чырвоны пот.

*

Мой дом—узьмежных зёлак восьці,
З сухой асінаю курган,
Гдзе тлеюць прадзедавы косьці,
Гдзе плачэ ночка ды туман.

---

* * *

Як я полем іду, гнецца колас ка мне.
З ім маркотнай душой ціха шэпты вяду;
Колас чуе усё ў зачарованым сьне,
Колас гнецца ка мне, як я полем іду.

Як я лугам іду, траўка сьцелецца ў ног,
Апсыпае с сябе жыўчых росак ваду;
Кветкі жаляцца мне поўны дзіўных знямог.
Траўка сьцелецца ў ног, як я лугам іду.

Як я лесам іду, зважна думкі сную,
Аглядаю сьвятую дубоў граманду;
Там, як дома, сабе с пушчай песьні пяю,—
Зважна думкі сную, як я лесам іду.

Як я ў хатку ўвайду, мяне штосьці гняце,
Бледны сум падыходзіць—прыносіць нуду;
У заплесьнелым кутку цень касьцісты цьвіце.
Мяне штосьці гняце, як я ў хатку ўвайду.

---

# Я ад вас далёка...

Я ад вас далёка, бацькаўскіе гоні,—
На чужое небо ўжо гляджу сягоння.
Але думкай, сэрцэм толькі вас я знаю,
Як і жыў, жыву я ў сваім родным краю.

І німа на сьвеце так вялікай меры,
І німа на сьвеце так кованых дзьвераў,
Каб хоць на часіну ў будні, ці ў нядзелі—
Беларусь са мною разлучыць пасьмелі!

*

Я ад вас далёка... скажуць гэтак людзі...
Але хто заглянуў у чужые грудзі,
І спаняў хто шчыра той агонь і морэ,
Што гарыць, бушуе і аб чым гаворэ?

Пойме толькі гэта, хто аж да скanання
Не пазнаў спакою, не пазнаў прыстання;
Каго доля-ведзьма ад самой калыскі
Кідала па сьвеце, як той лісьць вятрыскі.

*

Я ад вас далёка... А дзе ні гляджу я,
Дома толькі думка днюе і начуе;
Знаю толькі пушчы Белавежскай гоман,
Знаю толькі рэчку—с плытнікамі Нёман.

Дзе ў чужыне будзе сад так гадаваны,
Дзе такі там хорам важна збудаваны,—
Што мне замянілі-б хату і бярозкі,
Хату і бярозкі беларускай вёскі?...

*

Я ад вас далёка... Дзеліць нас паўсьвета,—
А жыву-ж я з вамі і зіму і лета;
Чую з вамі ў восень непагоды песьню,
Цешуся с пратaлін вольнага прадвесьня.

І ці сонцэ ўзойдзе, і ці сонцэ зайдзе,—
Вечна з думкай там я, мой спакойны край дзе;
З выраю-ж як толькі сустрэчаю гусі,
Весьці ў іх пытаю з роднай Беларусі.

*

Я ад вас далёка... Жыву меж чужымі.
Чую-ж вашы песьні,—вотклік шлю сваімі;
Дабываю песьні ад душы, ад сэрца,
Аж-бы сам за імі к вам ляцеў, здаецца.

Не зрабіць нікому гэткай дамавіны,
І ня вырыць ямы гэтакай глыбіны,
Каб у іх з вачэй мне Беларусю-маці,
Як людзей хаваюць, гэтак пахаваці.

*

Я ад вас далёка... Божэ, ты мой мілы!
Неразлучны з вамі да самой магілы,—
Не пакіну думаць сьвітам і ў пацёмку:
Як там жывецё вы, як жыве старонка?

А хоць дасьць мне доля ў дамавіне мейсцэ,—
Ўстане цень з зямлі мой, на крыж абапрэцца,
І ў той бок глядзеці будзе век нязводна,
Гдзе лежаць загоны Беларусі роднай.

---

## Мінуты шчасьця.

Сплылі ў душу з высі высокай
І зацьвілі ў ёй яснавока,
Як сьветласьць бледная аблокаў
На дальнім летнім небасхілу.

Цвілі, гулялі пераліўна
Сьвітаннем новым долі дзіўнай;
У казку волі неспажыўнай
Цяклі нявыплаканай сілай.

Вялі па сьцежках нехаджалых,
Арлом узносілі на скалах,
Карону клалі ў міртных хвалах
На ўсей будзеннасьці завілай.

Так асенялі, панавалі,
Як сонца блеск на вод крышталі,
Аж пацягнулі выжэй, далей
Туды, аткуль сышлі так міла.

Вітаю іх і не вітаю,
Стаю, як пільгрым на разстаю
Ў чужым далёкім недзе краю,
Як над пустой стаю магілай.

---

## Вячэрняя малітва.

Як летняе сонцэ свае згасіць косы,
І кветкі нябесны зайграюць нясьмела, —
Ноч сее тады серабрыстые росы,
Над логам звісае туманнай пабелай.

Ад беднага месяца бледные цені
З сялібаў і пушчы кладуцца на гоні;
Як цені мінуўшых даўно пакаленій,
Устануць, пастануць слупамі ў празсонні.

Цікавая думка над сном усплывае,
Вертаецца с цішай і просіцца ў сэрцэ,
Дзе ласкай сьвітае, як байка жывая,
І вогнікам ціхім навокала ўецца.

Малітва вячэрняя ў той час выходзе,
Афярна кладзецца на сьпячые далі,
І пасмай няўгледнай да зорак на ўсходзе
Плыве і меняецца ў кветным крыштале.

О будзь вечна слаўнай, вячэрняя ціша
С планэтнай зарніцай і месяцам бледным!
Хай песьня спакою душу укалышэ
І вынясе чыстай над шумам пабедным!

---

# Зоркі.

Ночкай, як толькі выходзіў я с хаты,
Зоркі на небе стрэчаў я чатыры;
Кожны раз зводзіў іх огнік крылаты,
Хоць к ім з малітвай узносіўся шчырай.

Першая бацькава зорка ясьнела,
Маткі—другая глядзела ў сьвет горка,
Трэцяя мне мігацела нясьмела,
Роднай зямелькі—чацьвёртая зорка.

Першая згасла на векі не ў часе,
Звольна губляе блеск свой другая,
Трэцяя сумною мглой спавілася,
Толькі чацьвёртая лепей міргае.

---

# Шлях мой...

Шлях мой ня сьцеліцца сонцем і кветкамі,
Гладкай, павабнай ня лёг раўнінай,—
Паміж неўдалымі ўецца палеткамі,
Ўецца зімой і вясной.

Вечэр і ночка закрылі мне раніцу,
Ўхуталі плесьняй, сівым туманом,
Даль-жэ нязбытаю казкай туманіцца,
Казкай, негаданым сном.

Вера ў дзень заўтрашні сілай няведамай
Думы гартуе ісьці, не чэкаць,
Хоць бы там злыдні плот ставілі бéдамі,
Бéдамі клікалі спаць.

Зойдзе брат сьцежку мне путамі звонючы,
Пут гэтых толькі не бачучы сам:
«Дзе ты ідзеш?»—запытаецца, гонючы.
«Далей!»—атказ яму дам.

Далей і далей праз выдмы няплодные
Ўсё непакорна, шукаючы ўсё,
Покі не згаснуць прасьветычы зводные,
Покі не згасьне жыцьцё!..

---

*
* *

Дзе ты, шчасьце маё, дзе ты сьветлая доля?
За што сэрцэ гняце жалю дзікая змора?...
Выйду цёмнай парой гэт за вёску на поле,
І падслухаю сьціха, што ночка гаворэ.

Можэ гоман пачую, што жаль і трывогу
Песьней радасьці зглушэ і ўсьпіць на заўсёды,
Можэ ўскажэ нешчасному к долі дарогу
І разгоне ў душы цемнаты, непагоды.

Га! нічога ня чуць, толькі неяк здаецца
Жутка вые, гудзіць сівер с поўначы зімны,
Толькі шум баравы с цёмнай далі нясецца
І пяе у душы пахаронные гымны.

---

*
* *

Легло на сэрцы горэ нядольнае,
Легло і мучыць, гняце,
Ў думках замёрла жальба нявольная,
Боль неспажыты цьвіце.

Дзе я ня кінуся, с песьняй ня вылету,—
Выхаду, сьцежкі німа...
Лёдам гасьцінец мой выбіты, выліты,—
Лёд—як магіла сама.

---

# У чужой старане.

Тут далёка, ў чужой старане,
Ўсякі раз, як зблїжаецца ноч,
Сэрцэ больлю сціскаецца мне,
І спакой недзе коціцца проч.

Думы цяжкіе роем снуюць,
Капашацца шмяльмі ў галаве,
Сноў спазнаць залатых не даюць,
Кожна мучыць, к загубе заве.

Ўсё, што чахне, ня меў долі ў чым
Чорнай пьяўкай сьлізгочэ ў душы...
Аб жыцьці безпраглядным сваім
Развважаю я ў гэтай цішы.

Ах, салодкі ўспамін не адзін
Шэлясьціць, як вяроўкаю кат...
Столькі іх гэтых мілых часін!
А забыці іх сілы не хват.

Гэй, ты, гэй, прамінуўшый мой час!
Гэй, ты, гэй, мой цяперашні дзень!
Што я меў, што я маю ад вас?
Гдзе прасьвету хоць цень—бледны цень?

Роднай песьні вясёлы напеў
Не ўзлунаў над калыскай маей;
Супраціўны скрозь мучыць павеў,
Як за хлебам пайшоў да людзей.

Гонюць, гналі, дзе гнаці маглі,
Як шалёных ганяюць сабак;
На сваей, ах, на роднай зямлі
Сустрэчаўся я з сонейкам так.

На зямлі, што дзед, прадзед сьлязьмі
І гарачай крывёй паліваў,
Ўнук—ужо між чужымі людзьмі—
Тэй зямлі трох аршын не дастаў.

Што-ж? разгулівай сыты чужак
Між забраных, крыжоў, курганоў,
Брат скаваны ня згіне і так:
Ён другіх пашукае братоў.

Гэй, ты, краю халодны, чужы,
Прытулі безхацінца к сабе;—
Ён цябе, як і роднай мяжы,
Не забудзе ў прадсьмертнай кляцьбе.

Ты, дзяўчына чужая, закрый
Па скананні мне зрэнкі мае,
Ты, чужы друг, мне яміну рый,
Віхр чужы хай памінкі сьпяе.

Крыж пастаўце, як ставіце ўсім,—
Мае путы павесьце на ім;—
Мае сьлёзы з магілы расой
Выйдуць путы з'едаці іржой.

---

## Холадна...

Холадна, холадна ў хатцэ маей:
Лёгка на век загавеці;
Сыплюцца сьлёзы, як іскры, з вачэй;
Божэ! як жутка на сьвеці!

Голасна будзючы сонну глушу,
Віхры зусюль завываюць;
Думка за думкаю лезе ў душу,
Сэрцэ нудою сьціскаюць.

Нейкім туманам усё заплыло;
Глуха!.. Ні сілы, ні гарту...
Ўсё пражыванае прахам ішло,
Ўсё, што йдзе, думаць не варта.

З нейкім пракляцьцем прыходзім на сьвет,
З нейкім на той сьвет сыходзім;
Потам, крывёю век сьцеліцца сьлед,
Песьню змучэння заводзім.

Ступіш... і гадзіны ўюцца ля ног,
    Крыкнеш... ня чуюць камення;
Рукі працягнеш ты, повен трывог...
    Ласкі не знаюць палення.

---

## Мая доля.

Што дасі заўтра, доля зьмянлівая,
    Спадзяюся пацехі я мала;
Адно знаю, што ўсё нешчасьлівае
    Ты мне толькі дагэтуль давала.

Сіратой па чужых кутох кідала
    І нудою мне грудзі сушыла;
Не раз так мне была ты абрыдала,
    Што ўсьмехалася шчасьцем магіла.

Ты, калі мне ў вачах разьясьнялася,
    Сэрцэ білося верай, надзеяй,
Хоць незванаю знекуль яўлялася,
    І тады адны сьлёзы я сеяў.

Ты шумела мне песьні магільные,
    Як мяцеліца дзікая ў полі;
Ты несла мне усё непрыхільнае...
    Эх, не знаць-бы цябе мне ніколі!

Мусіць, доля, ты ў цернях радзілася,
    А зіма і слата гадавалі,
Ад няволі ты мучыць навучылася,
    А пасьля мне багі цябе далі...

---

## Прыста́ў я жыць...

Прыста́ў я жыць на белым сьвеце,
Хоць столькі ўвокала жыцьця;
Завялі думкі на расцвеце,
Душа жадае небыцьця.

Нуда гняце з днём кожным болей,
Быт спавівае чэрнатой,—
Як сухавей у чыстым полі
Гуляе з зернем-сіратой.

Пытання злога не пазбыцца,
Як мара бледная стаіць:
Куды ісьці? за што ўчапіцца?
Якім багам паклоны біць?

Мінуў, загінуў час вясёлы,
Калі зрываўся з усіх сіл
Ад родных ніў, ад родных сёлаў,
Ад апаганеных магіл

Туды, туды, ўсё далей, далей,
Да недасьцігнутых вышын,
Каб апыніўшыся ў крыштале
Шчасьлівых сонечных іскрын,

Самое сонцэ ўзяць у рукі,
І як с паходней з ім ісьці,
Сьвятлом ніштожыць нашы мукі,
Увесь плач роднае зямлі.

Ўзнімаць патоптаные душы,
Людзкім названнем акрыляць,
К жыцьцю падняць з магільнай сушы
Усіх, што толькі ешчэ сьпяць.

Служыць, служыць жадаў народу,
Сваім закованым братом...
І сіл не стала з непагодай
Вясьці вайну, вясьці з жыцьцём.

Чырвонай зданню ў цёмных сенцах
Наш Рок сляпы снуе, цвіце;
Зьмяіны хохат атшчэпенцаў
Жывые грудзі рве, гняце.

. . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . .

Ваякі лепшые за славу,
За славу роднай стараны,
Або ляглі ў бітве крывавай,
Або у путах і яны

Ярмо валочуць паніжэння,
Ў кляцьбе бязсільнай гонюць век...
Глядзіш... пытаеш свайго ценю:
Дзе тутка зьвер, дзе чэлавек?

. . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . .

Любіць... Каго, за што любіці?
І ненавідзець сіл не хват.

. . . . . . . . . . . . .

О Божэ Праведны, Ты сілу
Сваю вяліку акажы:
Ня згінуць з бацькаўшчынай мілай
Свайму слузе дапамажы.

Сашлі мне сьветлую падмогу
Астаткі сіл сваім аддаць
І—не зрабіўшы брату злога—
Пад крыжам бацькавым сканаць.

---

# Дзе?..

Дзе ты, хатка, дзе сялібка,
Родны мой куточэк,
Што мне даў-бы скаратаці
Рэшту дзён і ночэк?

Дзе загон зямелькі чорнай,
Дарагая ніва,
Што дала-б мне нацешацца
С залатога жніва?

Дзе ты, конік мой, буланчык,
Хто цябе дзе спасьціў,
Што павёз-бы, што памчаў-бы
Ў сьвет за лес па шчасьце?..

Дзе прыяцелі, дружочкі
Родные, чужые,
Што мне-б крыўдай не сушылі
Леты маладые?

Дзе ты, любая дзяўчынка,
Роўная цьвяточку,
Што закрыла-бы мне вочы
У вапошнюю ночку?..

Што было, што не,—сплыло ўсё,
Як вадзіца ў морэ,
Асталіся толькі думкі
На бяду, на горэ.

Асталіся толькі песьні,
Ды што з імі будзе:
Доля сумам аплетае,
Сьмехам бэсьцюць людзі.

---

# К моладасьці.

Ты скажы, скажы,
Мая моладасьць,
Што дала ты мне,
Сыну хамскаму?
Ой дала ты мне
Скарб нязьмераны:
Сілу моцную,
Неўгамонную.
За труды мяне
Не адхвалюцца,
З мазалёў, крыві
Не аддзівюцца.

Дзе мой капне пот,—
Дзірван, пасека
Шуміць коласам,
Урадлівасьцяй.
Сенажаць-трава
Ляжэ пóкатам,
Стогне зелен бор
Пад рукой маей,
Дый услужнасьцей
І пакорнасьцей
Надарыла ты
Мяне, моладасьць.
Адно, доля дзе,
Скажы, моладасьць?
Чаму волю даць
Ты забылася?

---

## Чэлавеку.

Ці ты чуеш, як стогне віхура,
Як старой хаткі сьцены дрыжаць,
Як у коміне вые панура,
Як сукі ў боры цёмным трэшчаць?..
Ці ты бачыш, як хмара за хмарай,
Як дым, небам плывуць чарадой?
Як кусты, сенажаці, папары
Заліліся магільнаю мглой?...
Ці ты бачыш ноч гэту над намі,
Ноч асеннюю, дзікую ноч,
Засьцілае што сьвет цемнатамі
Непраглядна, хоць ў процьму ты скоч?..
Ці паняў, што мрок гэты гаворэ,
Што аддалены шле яго шум,
Як у гэта бязбрэжнае морэ
Ты глядзіш, гэтых слухаеш дум?..
О, дрыжыш перад шэптамі чараў
Цёмнай ночы, магучы цар дня,
І прыходзіцца ўняці нездару,
Што мудрэйша ёсьць моц, як твая.

Дарма розумам цэлые годы
Ў жыцьця дзівы, як мог, загледаў:
Чарадзейную кнігу прыроды
Не пытаў, атчытаў, скарыстаў.
Што земля на сьвет жыць не пусьціла,
Ты паняў да канца з урода̀;
Табе пара каня адмяніла,
Цябе слухае вецер, вада.
Ты і неба ўсе скрыткі падглєдзіў:
Злічыў, колькі зор, што ёсьць на іх;
І нічому, здаецца, ўжо недзе
Ад вачэй скрыцца зоркіх тваіх.
Ты і ў прышласьць рад глянуць заранне,
Змёў-бы пыл забыцьця з прошлых дней,
Ўсё-ж бязсілен твой розум і знанне
Перад голасам духа начэй.
Ты дрыжыш перад нечымсь, як глянеш
Ў гэту цемь, патслухаеш яе;
Як дзіцё, як матыль, слабым станеш...
А ноч тайна а дзівах пяе.
Ма̀е мір неадкрытые сілы,
Што людзкое ўсезнанне прашлі,
Гэтых сіл не пазнаць да магілы
Табе, думнаму цару зямлі.

---

## Згнаннік.

Выгналі с хаты, выгналі людзі,
Выгналі косьці жывые;
Сівер са сьнегам рынуўся ў грудзі,
Рынуўся зьверам на шыю.

Месяц загінуў, выгасьлі зоры,
Даль залегла безпрасьветам;
Хмары глухіе, хмары—як горы,
Ходзююць, сапуць непрыветам.

Смольлю, заломам сьцежка-дарога,
Ведзьма-мяцеліца стогне,
Жуткіе думы шэпчэ трывога,
Сэрцэ то змоўкне, то дрогне.

Горбюцца плечы, кволые плечы,
Як бы цягнулі камення,
Рукі мароз і сячэ, і калечэ,
Корчуцца ногі ў каленню.

Годзе змагацца з доляй паганай,
Сонца шукаць сярод ночы,
Блудам блудзіць па мёртвых палянах,
Сьлёзьмі крывавіці вочы.

Сыпся, кружыся, бел сьнег, навокал,
Мягкай кладзіся пасьцеляй!..
Ляжэм, як ляжэ ранены сокал,
Знойдзем нарэшце прысельле.

Лес мой, жывая пушча-старуха,
Мы не загінем с табою...
Шумам пальеш мне казкі да вуха,
Важна ўкалышэш спакоем...

Дзе-не-дзе вогнік глянуў скваплiва,
Братняя блізка хаціна:
Гэта с праглядам выбрыў на ніву
Воўк—як і ты—сіраціна.

Голас пачуўся, быццам хто клічэ,
Штось у душы затраслося:
Гэта ў галінах вецер скавычэ,
Оклік магільны разносе.

З дальняго неба зоркі міргнулі...
Якбы не так ужо цёмна...
Зоркі сьвяціці ўсім не мінулі,
Толькі... мінулі бяздольных.

. . . . . . . . . . . .

Полаг гатовы белы, пуховы;
Ляж, не глядзі, не ўслухайся!
Сну у магіле яснай, сьняговай,
Вечнаго сну не пужайся.

Прыдзе весна, распусьцяцца лозы...
Ты ўжо ў пасьцелі зялёнай...
Сьпі, мой гаротнік, годзе ліць сьлёзы
Біці нягодам паклоны...

---

## С песень жыцьця.

Час быў вясенні. На скібіны дно
Пало, ўзышло, зарунело зярно.
Ў курную хату на яве, ці ў сне
Доля-нядоля прынесла мяне.

*

Лето настало. Ўжо колас глядзеў,
Рос, красаваў, наліваўся,—дасьпеў.
Шчасьця, пацехі ня знаўшы ў жыцьцю
Вырас і я на нядолю сваю.

*

Восень на сьвеце. Бор стогне, шуміць;
Колас незжаты на полі стаіць.
Нудна у сэрцы: дзе вокам ня кінь,
І я, як той колас, бядую адзін...

*

Зімка прыйшла; белы вываліў сьнег;
Колас у гурбе знайшоў свой начлег.
З долей змагацца з сіл выбіўся я,
Эх, ты, магілка, эх, дзе ты мая?..

---

## Хмары і думы.

Чорные хмары па небі плывуць,—
Чорные думы заснуць не даюць:
Хмары хацінай, а думкі душой
Рады затрэсьці, заціснуць сабой.
Валіцца з хмараў то сьнег, то вада,—
Чорные думы прыносіць беда;
Так і ваюе бедак-чалавек
З хмарамі, з думамі цэлы свой век...

---

## Зваеваным.

Сьпіце ўсе тые, што праўды па сьвеце шукалі
І, не здабыўшы, ў дамоўкі без часу зышлі.
Гразьзю ў вас кідалі, вольна дыхнуць не давалі...
Хай-жэ пацешацца: ўжо вы спачылі ў зямлі...

Гулка нясецца стогн лесу ў начные пацёмкі,
Плачэ-галосе у коміне вецер глухі...
Сьпіце вы, слаўные гора і працы патомкі,
Хутка над вамі распалім памінкаў агні!

Мала вас, мала было паміж цёмнымі намі;
Сільны ешчэ быў наш блуд і туман кругом нас!
Вы, перамогшы усё, узняліся арламі,
Блескам былі нам, тым блескам, што гас і не згас!

Грозна нясліся магучые вашые клікі;
Нават каменные душы скідалі свой сон;
Радасьцей дзіўнай зьвінеў ваш край бедны, вялікі...
Сіл не хваціло... запеў пахаронны вам звон.

Сьвежые наспы мураўка ешчэ не пакрыла,
Жвір толькі сьвеціцца, змыты сьцюдзёным дажджом...
Сьпіце! мы вашых на век не забудзем магілаў;
Збуджэны вамі, мы ўскрэсьлі, мы больш не засьнём

---

## Вясна за вясною...

К нам весна за вясною ідзе
І бязследна атходзе ад нас...
Ні канца тэй бядзе і нудзе,
Ні пачатку сьветла хоць на час.
Хоцьбы раз заірдзела раса
Жыватворна убогім палям,
Хоцьбы раз зазвінела каса,
І дзень лепшы наклікала нам.

Вянуць кветкі што раз без пары,
Вяне зелень спустошэных ніў,
Шум ня моўкне ў зялёным бары:
Не чэкаць, людзі, вам буйных жніў.

Не напоўніць вам клецяў сваіх,
Пот і сьлёзы лыцё вы здармá;
Ў паднявольнічнай службе ў чужых
Не падняць вам галоў спад ярма.

Вам—пакорным рабам—не вясны,
Рукі на крыж злажыўшы, чэкаць,
А пад песьні паўночнай зімы
Ямы ў полі сабе-ж будаваць.

Будаваць, покі вы чужака
Нівай будзеце роднай карміць,
Будаваць, покі ваша рэка
Чужакову каню дае піць.

Для асьлепленых, здаўленых вас
Не было і німа іншых дум...

. . . . . . . . . . . . .

Так над намі весной кожны раз
Стогне бору зялёнаго шум.

Так весна за вясной к нам ідзе
І бязследна атходзе ад нас...
Ні канца тэй бядзе і нудзе,
Ні пачатку сьветла хоць на час.

---

## Не спадзейся...

Не спадзейся, сын і матка,
Ад жыцьця патолі...
Ні канца, ані пачатку
Вашай чорнай долі.

Ці сягоньня, ці то заўтра—
Як і ўчора, ўсё так;
Стогн гнязьдзіціся спанатрыў,
Жаль пляце свой мо̀так.

Шчасьце ў путах... Звод разьвеяў
Думку маладую,
Асталось крыху надзеі,
Дый паганяць тую.

Вера ў будучыны жніво
Спапялела з гора,
Крыўда-ведзьма незьмянліва
Заліла, як морэ.

Гарт апёрся на кургане,
Як ноч, уздыхае,
І ў кургане уздыханне
Гарту падцінае.

Каня с смагі на пагодзе
«Піць» галосе ў небе,
Ды ў завею воўк заводзе
Па крывавым хлебе.

---

## Не для нас...

Не для нас гэта сонейка майскае
Загуляло на небе высокім
Сеяць думкі вясенніе, райскіе,
Гэт, па сьвеце вялікім, шырокім.
Не для нас ніва намі ўспаханая
Заірдзелася ўсходам пасеваў,
І ўся ветрам, як дым, калыханая
Бье паклоны на права, на лева.
Не для нас упрыгожыліс кветкамі
Сенажаці-лугі над рэкою,
Хараствамі нязьдзіўнымі, рэдкімі
Вабіць вока, шэптацца з душою.
Не для нас, не для нас распускаецца
Гэты сад, гэта вішня, чарэсьня,
Не для нас, не для нас разліваецца
Салавейкава звонкая песьня...

Сонцэ паліць нам грудзі збалелые,
Ніва ласкі над намі не мае,
Пот ліём па лугох мы дні цэлые,
Ціж тут міла і песьня якая?!
З дня на дзень, з года ў год, як пакутнікі,
Бьёмся, гінем і шчасьця не бачым;
Працай жывюцца нашай прыблуднікі,
А мы толькі ўздыхаем і плачэм...

---

***

Чаго хмурыцца
Неба сіняе?
Чаго носяцца
Віхры дзікіе?
Чаго шэрые
Совы ўзгукалісь?
Чаго чорные
Крукі грагаюць?
Чаго гадзіны
Падкалодные
Шыпяць, сыкаюць
На сьвятое ўсё?
Ці то сонейка
Загасілося,
Ці то ўскрылася
Апраметная?
Душы сільные
Абяэсілелі,
Сэрцы добрые
Азвярэліся;
Песьні вольные
Апанурылісь
І магільнымі
Звоняць жальбамі.—
А за песьнямі
Звон кайданавы,
Стогн закованых
Разлегаецца....

Эх, і страшна-ж ты,
Земля родная;
Эх, і страшно-ж ты,
Жыццё людзкае!...

---

## Развейся, туман...

Развейся, туман, расплывіцеся, хмары,
Над хатай пахілай маей!
Хай сонцэ прагляне, хай цяжкіе мары
Ня мучаць душы і грудзей...
Штось клікало рваццa і выжэй, і далей,
На лепшае звало жыцьцё.
Вы, злые туманы, вы, хмары без жалю,
Закрылі, забралі мне ўсё...
Стаю і гляджу я на хату крывую,
На ніву пустую сваю —
I слёз не стрымаю, і ціха бядую,
I нудную песьню пяю;
I к небу малюся, ў жыцьцё загледаю,
Ці моц скуль якая ня йдзе?—
I цёмна, і не́ма ад краю да краю,
Ні сьвету, ні сьледу нідзе...
Ні сьвету, ні сьледу... марнуюцца сілы.
Дух праўды і волі прыгас;
Нядоля і горэ, навокол—магілы,—
Вось роднаго шчасьця абраз....

---

## Сэрца спытай...

Прыгледзься днём яснаму сонцу
I месяцу ночнай парой;
Ў шум цёмнай услухайся пушчы
I ў шумы паводкі вясной;

Кінь вокам на мур пабеляны,
На стрэхі с саломы зірні;
Зайдзі на магілкі с крыжамі
І насып забыты крані;
Пакратай мінуўшчыны попел,
Што ў казках ня кінула жыць;
Сягоняшні дзень паймі добра,
Што ў сьлед нашай долі бяжыць...
І ўсюды—ад краю да краю,
Дзе зьвернецца думка твая,—
Аб роднай старонцы пытайся
Ты неба, зямлі і жыцьця,—
А сэрцэ—калі ня звёў сэрца—
Аткажэ за ўсіх не ў нарай:
У нас ёсць паны і іх слугі,
А людзі... што-ж?... Сэрца спытай..

---

* * *

Бледные будніе дні
Сумна па роднай зямлі
Мутнай плывуць паласой;
Часам калі-некалі
Дзе-недзе бліснуць агні,
Глянуць крывавай расой.
Песьні раздольля маўчаць,
Песьні, што рабскіе сны
З душ паднявольных змялі-б,
Толькі заводзюць званы,
Толькі асіны скрыпяць
Над уміраннем сяліб.
Скрогат нясецца з асін....
Рабству паклоны біў дзед,
Гнуўся пад палкамі ў крук;
Бацька—за дзедам,—у сьлед
З бацькам пляцецца і сын;
Ты-ж кудой пойдзеш, унук?..

---

# „Забраны край“.

*Балканскім Славянам.*

Я ведаю, знаю старонку такую,
Спавітую ў вечны туман,
Пад цёмнымі зорамі днюе, начуе,
Ляжыць на кургане курган.
Хоць сохі, хоць косы гуляюць там ройна,—
Ня поймеш аткуль узялісь;
Людзей запытаеш,—аткажуць спакойна:
«Забраны край» гэты калісь.

Сыны зямлі роднай чужые палеткі
Ў чужую карысьць засяюць,
На родных папарах галодные дзеткі
Чужую жывёлу пасуць...
Кладуцца заломы... Дабро зьмей валочэ...
Цянюе ля хатваўкалак...
Нячысьцікі, ведзьмы рэй водзюць па ночы,
«Забраны край» тузаюць так.

Сьляпы зьнемагаецца бацька ў цямніцы;
На стражы пастаўлен сынок;
У поўных калісьці ад шчасьця сьвятліцах
Чужак зневажае дачок.
Дзяцей сваіх маткі кідаюць у зьдзеку,
За «мамак» к наездцам ідуць,
А тые за іх малако, за апеку
«Забраны край» болей гнятуць.

Мальбішчам чужым бье пакора паклоны;
Упадку вялічыцца сьцяг;
З балотам змешаны старые законы,
Наладжэн нявольнічы шлях.
Купляюць, збываюць, гандлююць чужынцы
Народным дабром, як сваім...
Заплачэ ў пагоду канюх па расінцэ,
«Забраны край» жаліцца з ім.

Наведзены струны у скрыпках па-свойску
Чужая зрывае рука;
Жалейка азвецца з вясны пад бярозкай,—
Ня ўцешыць яна бедака.
Так камень не ляжэ, як змора паддання
Легла ад мяжы да мяжы
З надзеяй, што нават і думку змагання
«Забраны край» вырве з душы.

Жыцьцё лет бяз ліку на шнурык свой ніжэ,
Бяз ліку няволя есьць сіл...
Аж прадзедаў косьці ня ўлежаць пад крыжам,—
Што ночы выходзюць з магіл.
Выходзюць, ідуць ад парогу к парогу;
На стогн жывых грозна глядзяць;
І з ветрамі, з бурамі бьюць на трывогу:
«Забраны край» клічуць устаць.

---

## У ночным царстве.

Скрыпяць трухляцінай асіны,
Над курганамі звярьё вые...
Гасьцінцам, цéрневай пуцінай
У ёрмах, скованы скацінай,
Ідуць нябошчыкі жывые.
Ідуць, ідуць... Сярод пустыні
Хрусьцяць надломаные косьці,
І качанеюць ногі ў ціне,
І чахнуць вочы ў павуціне,
А шлях—як точаные восьці.
Перад вачамі глуш немая,
І плач і скрогат за вачамі;
Прокляцьце ў жылах кроў сьцінае,
Душу безсільле вынімае,
Гняце зьмяінымі клешчамі.
У грудзі, здаўленые здрадай,
Упіўшысь, рабская трывога
Шыпіць хаўтурнаю загладай,
На небе толькі, як прынада,
Бялее млечная дарога.

То там, то сям запаланее
Іскра над скованаю шыяй;
Наскочэ пошусьць трупавея,—
І царство ночнае шалее,
Над курганамі зьвярьё вые.

---

## Беларус.

Сеў, як той крыж на разстаі,
Сярод пушч і поля,
Злажыў рукі і чэкае
Усё нейкай долі.

Ўстане-ж, пойдзе полем, логам,
Будзе дыхту, будзе:
Пачэпаў тупым нарогам
Кургановы грудзі.

Лом с крыжоў магільных звале,
Бульбу падпекае...
Пад'еу, сеў, як крыж, і далей
Долі ўсё чэкае.

А ці-ж прыдзе доля гэта,
Трудна адгадаці,
Пакуль толькі з лета ў лета
Пляце яму лапці.

---

## Ці-ж ня доля мая?!.

І на што-ж мне воля вольная,
Залатая, расхахольная?—
Цемняком пайду сьляпы я
На дорожкі крыжавые!
Эх, ты, доля мая,
Маю волю ўжо я!

І на што школа з настаўнікам,—
Добра быць і неахайнікам:
Калі з кніжкі не даўчуся,—
У вастрозе долаўчуся.
Эх, ты, доля мая,
Маю школу ўжо я!

І на што-ж мне поля гонейкі,
З дабром клеці, коні, волікі?
Я магу жыць і «пашырэ»
У шырокай у Сібіры.
Эх, ты, доля мая,
Зямлю маю ўжо я!

І на што-ж мне хата новая,
Сталы, лавы ўсё дубовые?
Злыдні змогуць маю сілу,—
Як пан, лягу у магілу.
Эх, ты, доля мая,
Хату маю ўжо я!..

## Грай-жэ, музыка...

Цёпла, спакойна, цёпла і сыта
У хорамах ясных вам век векаваць...
Поўны аруды буйнаго жыта;
Хто-ж не захочэ тут жыць, панаваць?..
Грай-жэ, музыка, сэрцэм рві струны...
Не пажалеюць заплаты табе!..
Што?! Хочэшь ладзіць скрыпку ў тон сумны?!.
Весела грай, як віхуры ў кляцьбе...
Шумна, разгульна... Чым не бяседа?!
Пеніцца ў чарках крывава віно...
Кроўю гулялі прадзеды, дзеды,—
Сыну і ўнуку падаўна дано...
Грай-жэ, музыка! Рэж на скрыпулі
Так, як там рэжэ асьлепленых кат...
Проч, прочь, сумленне! Золата ў гулі!..
Чуеш, як звоне па скрыпцы дукат?..

Сьветла, прасторна... Зьяюць брылянты. .
Хто там?.. Цень бледны шмыгнуўся у вакне?..
Вісельнік?! Тут ён?.. Проч яго, франта!
Нашы асіны! Хай толькі чапне...
Грай-жэ, музыка, каб і ў магілах
Голас уцешны пачулі з зямлі,—
Каб аж спад наспаў, плітаў пахілых
Косьці паўсталі і ў танец пашлі.
Гэй-жэ ў тахт ногі!.. Пара за парай!..
Стой!!! Блеск чырвоны шыбае з вакон.
Ах! Гэта вёска сьвеціць пажарам...
Ну, галасі там нябошчыцкі звон!..
Грай-жэ, музыка! Рэж дармажэрца!..
Змоўк?.. Што?.. Галоўку ты клоніш ка сну?..
Глупство!.. Ў мызыкі лопнуло сэрцэ...
Гэй ты, другі там! рві сэрцэм струну!..

---

## Брату.

Мой ты ўбогі, мой ты цёмны,
Родны мой,
Ты пытаеш, хто такіе
Мы с табой?
Ці мы людзі, ці скаціна,
Запытай
Гэту коску, гэту сошку,
Гэты гай;
Гэта поле, на каторым
Млееш, млеў;
Гэту сгніўшую хацінку,
Гэты хлеў.
Запытайся сваей долі,
Сваіх пут,
Ці мы людзі, ці скаціна,
Хто мы тут?

---

## Як спытаюцца нас.

Прыдуць людзі з Усходу,
Прыдуць с Захаду людзі
І спытаюцца нас:
Скуль, якога вы роду?
Дзе зямля ваша будзе,
Дзе айчызна у вас.?
Мы ля плота, пад плотам
Паглядзім, пашукаем,
Які даць тут атказ,
І атказжэм: Э, што там...
Мусіць бабскім звычаем
Зьбегла ў прочкі на час.

---

## Дзе вы?..

Дзе вы, хлопцы непакорные,
Дзе вы з песьняй удалою,
Як на поле, на прасторнае
Вы хадзілі грамадою?
Ці пашлі вы у далёкую
У старонку, у чужую;
Ці ляглі вы, адзінокіе
У магілку, у сырую?
Дзе вы, песьні, дзе свабодные?
Дзе ваш одгалас магучы,
Як вы звалі сыны родные
Да тэй працы, да кіпучай?
Ці замёрлі вы нячутымі
Серад лесу, серад поля;
Ці і вас скавалі путамі,
Ці і вас змагла няволя?
Гэй, ня відна друга сільнаго,
— Сьпіць. Хто-ж сон яго ўстрывожэ?
Гэй, ад енку, ад магільнаго
Песьня вырвацца ня можэ!..

---

# Вялікдзень.

Два сьвяты на сьвеце—ад нівы да нівы:
Хрыстос уваскрос! наступае весна!
Глянь сьмела, глянь вольна, шчасьліў, нешчасьлівы
І далей к жыцьцю с паніжэння і сна!

Гэй, гэй, на спатканне вялікіх двух сьвятаў
Сьпяшыце супольна, хто ў путах ня згніў!
Хай льюцца-зыльюцца ад хаты да хаты
Ў вадно ўсе грамады, ўсе людзі ўсіх ніў!

*

Вялікдзень! Вялікдзень! ад нівы да нівы.
Забыў не адзін з нас недаўные дні,
А ўспомні—прыпомні шчасьліў, нешчасьлівы,
Аб тых, што ў сьвітанні на век адыйшлі,—

Усе костачкі тые на гонях папарных,—
Жывых, што ў бязпуцьці акуцьцем зьвіняць...
Прыпомні, дай слова ня счэзнуці марна,
Пачатую справу шырыць, расшыраць!

*

Вялікдзень! Вялікдзень! ад нівы да нівы
Заводзе бацькоў сваіх песеньку сын.
Зірні-ж, азірніся, шчасьліў, нешчасьлівы,
І заўтра на поле да сох, як адзін!

Дагэтуль мы плачэм, дагэтуль мы стогнем,
Адвечных ня можэм пазбыціся сьлёз...
Наперад па шчасьце! Хай злое ўсё дрогне,
Весна ўжо на сьвеце,—Хрыстос уваскрос!

---

# Хрыстос васкрос!..

Хрыстос васкрос!.. Усюды радасьць,
Усё глядзіць сьмялей, сьвятлей;
Вялікі Мучэльнік, здаецца,
Абняў усіх ласкаю сваей.

Хрыстос васкрос!.. Неугамонна
Плыве па нівах, пушчах клік,
Плыве одна сьвятая думка
С канца ў канец, як сьвет вялік.
Хрыстос васкрос! пяе селянін
З сваей убогаю раднёй,
Забыўшы песьні аб прадвесьні,
Забыўшы ўсё усей душой.
Хрыстос васкрос! пяе сіротка,
Слуга таптаная людзьмі;
Пяе ў чужыне падарожны
Забыты бліжнімі сваймі.
Хрыстос васкрос! пяюць і тые
Хрыста згубіўшые сыны,
Што ў ціхамоўку ладзюць сеткі
Для нашай беднай стараны.
Хрыстос васкрос!.. К Табе, о Божэ,
І я ў дзень гэты думку шлю:
Хай Беларусь, мая старонка,
Ускрэсьне к лепшаму жыцьцю!

---

## Навагодніе жадання.

Як ідзе Новы Год, на ўсім сьвеце народ
Да жычэння сабе штосьці мае;
Дык і ты, як усе, спаткай году прыход,
Беларусаў сямейка худая.

Кожны год, што мінаў, штосьці нам не дадаў,
Аж сабраўся так доўг не маленькі.
Хай жэ Новы наш Год, што прыйшоў, завітаў,
Зверне ўсё нам, як ёсць, да капейкі!

Хай ня будзе круцель, дасць нам просценькі цэль
К лепшай долі, і волі, і славе;
Мы ня знали жыцьця, ні вясёлых нядзель,
Хай Год Новы ўсё гэта паправе!

Сваркі, звадкі не раз былі згубай для нас,
Разлучалі са шчасьцем, з свабодай.!.
Хай жэ з Новым Гадком новы бліжыцца час,
Брацтво, роўнасць, супольнасць і згода!

Во жычэння усе, Новы Год, да цябе;
Іх ня вельмі і многа, здаецца.
Так і песьня пяе, так, людцы вы мае,
Знаю, ў думках усім вам снуецца!

---

## Мая малітва.

Ва ўсяку мінуту, ва ўсякай патрэбі,
І ў полі шырокім, і ў вузенькай хатцы
Малюся я гэтаму сонцу на небі
І зоркам, што ночкай мігцяцца.

Малюся свабоднаму ветру—віхуры,
Што лётае птушкай ад края да края,
І пасьвіць у высях панурые буры,
І ў комінах песьні іграе.

Малюся агню я, што сее пажары,
Як стане пара, па нязьмераным сьвеці,
Наводзячы жудасьць вялікаю карай,
Пужаючы старцаў і дзеці.

Малюся жывучай вадзіцы—разводзьдзю,
Ў дзень ясны бліскучай, а страшнай у ночы,
Што нівы палошчучы йдзе, не праходзе
І хаты і чоўны друзгочэ.

Малюся я небу, зямлі і прастору,
Магучаму Богу — Ўсесвету малюся,
Ва ўсякай прыгодзе, ва ўсякую пору
За родны загон Беларусі.

---

## Пад крыжам.

З балеснаю ў сэрцы пакорай
Пад крыжам збуцьвеўшым стаю,
І ўвокал—ад гораў да гораў
Зямлю агледаю сваю.
Навокала сьцеліцца столькі
Багацьця, красы і сьветла!
Хоць болькі, старые ўсё болькі,
Адна за аднэю легла.
Плакучые стогнуць бярозы,
Скідаючы лісьць залаты;
Хістаюцца дзікіе лозы,
Глухіе, сухіе кусты.
Звод нейкі гамоне, шапочэ:
— Калодаю, дружэ, ты будзь!
Душа толькі верыць ня хочэ,
Ня хочэ паняць і заснуць.
Упаўшые грудзі калышэ
Жальбой непрыхільнаю сум,
І тысячы ў памяці пішэ
Гаротных, нявыжытых дум.
Бязсільна народ свой пытаю,
Абняўшы пахілены крыж:
— За што ты ад краю да краю
Магілай жывою ляжыш?
Ці коні твае патрупелі,
Цягаючы ў поце плугі?
Ці косы твае прытупелі
С крывавай на лузе смугі?..
Пытаю жывых назаліста,
Чэкаю, атказ ці бяжыць...
Маўчыць, як дамоўка, ўсё чыста...
Пракляцьце і тое маўчыць.



4*

# Суды́.

На суды павялі яе звязанай,
Сэрцэ вырваўшы з белых грудзей,
І судзіці давай—як там сказана
Ў гэтым хітрым законе людзей.
Абіралі судзьдзёй ночку цёмную,
Ночку-мачыху сумнай зямлі,
Сьведкай крыўда была векапомная,
Сон і за́ламы стражай былі.
Прыгавор прачыталі над беднаю,
Не спытаўшыся грэху, віны.
Гэй, хаўтурную песьню пабедную
Над ёй сьпелі праметнай сыны...
С плеч зрывалі уборы злацістые,
Разрывали карону-вянок,
Разьбівалі пасад ей нячыстые
Й пад жалезны хавалі замок.
Накладалі ей сковы сталёвые,
Надзевалі жэбрачы убор,
У намітку ўбіралі цярнёвую
Яе коску сатканую з зор.
Вочы вырвалі ей, сонцу роўные,
С-пад хмурліва навісшых павек,
Дый пусьцілі яе супакойную,
На бадзянне пусьцілі, на зьдзек.
З лета ў лета ідзе, кроўю зьлітая,
На сустрэчу крыжам і капцам,
Чуць жывая жыве пазабытая,
Ў сне зьяўляючысь родным сынам.
К волі йдзе з дня на дзень; разгледаецца
Па бел-свету калі-некалі;
Толькі Дух-Яснасьвет пацешаецца,
Што ўсё-ж крыўды яе не змаглі.
Як была, будзе так непакорнаю
Атпраўляць вечнабыту імшу...
Не здалеюць суды цемнатворные
Ей спаганіць і вырваць душу.

---

## С кутка жаданняў.

С цэлым народам гутарку весьці,
Сэрца мільёнаў патслухаць біцьця—
Гэткай шукаю цэлы век чэсьці,
Гэта адно мне патпорай жыцьця.
Песьню стварыці ясну, як неба,
Ў кожнай з ёй хаці быць мілым гасьцём—
Гэтакіх толькі скарбаў мне трэба,
Гэткім я толькі жыву пачуцьцём.
Што не загубюць крыўды жывую
Душу народа, што ўстане са сну—
Гэткай надзеяй толькі жыву я,
Гэткую толькі чэкаю вясну.
К яснаму сонцу с цьмы, з беспрасьвецьця,
К славе з безслаўя ўсім нашым людзям—
Гэткай шукаю сьцежкі на сьвеце,
Гэткаму богу і душу аддам.
За лепшу долю роднаго краю,
За сваіх брацьцеў ў сьвятой барацьбе—
Гэтакай толькі сьмерці жадаю,
Памяткі гэткай чекаю сабе.

---

## Для зямлі прадзедаў маіх...

Я табе, зямля мая прадзедаў маіх,
Не патраплю нічога жалець на сьвеце;
На сьвет цэлы гатоў твой прыгон апеці
І ўзнясьці пасад на магілішчах тваіх.
Я цябе душой рад-бы сваей сагрэці
І карону сьплесьці з сонца, зор залатых,—
На цябе карону ўзлажыць, каб хоць на міг
Заясьнела ты ў цяжка дабытым цвеце.
За цябе загінуць гатоў я ў барацьбе
С крыўдай тэй, што цярпіш ад людзей і Бога,
Ад чужынца і ад сына свайго сьляпога...

Буду ў вечнай мучыцца жа́льбе і кляцьбе...
І за гэта, толькі прашу, малю цябе:
Не гані ты мяне ад свайго парога.

---

## На вялікім сьвеце...

На вялікім сьвеце бье жыцьцё крыніцай,
Барацьба за волю і за долю рдзее,
Маюць панаванне вера і надзея,
Асьвяціць народы лепшы быт маніцца.
    На вялікім сьвеце небо сьлёз ня сее,
    Ёрмаў не майструе крыўда-чараўніца,
    Не галубіць думак цемра-асьляпніца
    І ня водзіць душаў пагібення кнеяй.
На вялікім сьвеце бьюць званы на славу,
Людзі с плеч скідаюць ланцуговы скруты,
К сонцу йдуць браточна з рабскае пакуты.
    На вялікім сьвеце ўсё ідзе па праву,
    Па законе божым з яснатой яскравай...
    А у нас, у нас што?.. Толькі звонюць путы...

---

## Я люблю...

Я люблю ўсходы нашых палеткаў,
І спавітые ў зелень лугі,
І шум бору пануры, глухі,
І шэптанне крынічнае ў летку...
    Я люблю упрыгожэну ў мхі
    Нашу вёску—сваей крыўды сьведку,
    Свой народ—гэту зьвяўшую кветку,
    Цэлы край—родны мне й дарагі.
Я люблю ясны вочы і грудзі
І стан гібкі дзяўчыны-красы;
Аб ей брэджу на яве і ў сьне.
    Я люблю і заву, бы ў нялюдзьдзі—
    Чуюць кліч мой сухіе лясы,
    Кліч: Хто-ж любіць, хто любіць мяне?

---

## II. Па межах родных...

Па межах родных і разорах,
Пад небам зводна-неспагадным,
Спакоем воджэны век здрадным,
Сную, і нейкі са мной шорах.

Са мной, за мною ў сьлед сум-вораг
С глухім нашэптам непрынадным:—
Як ты ня хочэш быць праглядным,—
Сягоньня ўсё тут—як і ўчора-х!

Усё жыве тым самым богам,—
Так сама шумнае прадвесьне
Усей ня зводзе з гонеў плесьні...

Араты ўсход нясе адлогам:—
Курган чапаючы нарогам,
Ня ўспомне прадзедавай песьні.

## Мой край.

Лежаць твае гоні-загоны
Сто-мільна на сьвеце на белым,
І жалюцца руняй зялёнай,
І коласам жалюцца сьпелым.
Лес-ноч гаманіста, шумліва
З мінуўшчыны казкі складае
І шле іх далёка па нівах,
Плакуча, ад края да края...
Паводкаю коцяцца воды
Руч'ёу паміж долаў і гораў,
У фалях пагодай-нягодай
Купаючы нівы-разоры.
Спавітые плесьнею вёскі
Між пустак заселі бяссільна,
Ўтуліўшыся ў цені бярозкі
На вечным кургане бадыльным.
А люд?.. Ён сагнуўшыся ходзе
Пад ношкай знямогі-пакуты
І, роючы сны а свабодзе,
З дня ў дзень сам сабе куе путы.
Так сьпіш, так жывеш мімаходам,
Мой край, як сьцепная магіла,
С сваім незавідным народам,
С патухшай і славай, і сілай.

---

## Над Нёманам.

Ціха і плаўна ў даль коцюцца воды
Вольнаго Нёмана, ў цёмную даль,
Толькі у часе глухой непагоды
З берэгу Нёман ня выйдзе амáль.
Вербы і вольхі калышуцца глуха,
Сініе фалі шумяць і бурляць.
Чуткай душою ў такі час паслухай,—
Здасца там гэтакі голас чуваць:

«Гэй, не дзівуйся, мой дружэ недбалы,
Што я сягоньня так злосна шумлю:
Грудзі здавілі мне хмары навалай,
Пошусьць уелася ў матку-зямлю.
    «Сумна мне, сумна, што ўсё тут іначэй
    Некалі бераг мой бачыў і знаў;
    Іншы меў выгляд—ня гэткі жэбрачы,
    Іншы я плыт на плечах сваіх гнаў.
«Край, дзе жыцьцё я сваё пачынаю,
Шмат весялей прыгледаўся на сьвет,
Песьні і казкі інакшые баіў,
Шчасьце цьвіло ў ім, як макавы цьвет.
    Буйным жыцьцём усё чыста кіпела,
    Слава далёка за морэ ішла,
    Ворога кожны за плечы браў сьмела,
    Цемра чужынцаў не страшнай была.
«Панам быў дома і слаўным за домам
Мой патаптаны сягоньня народ;
Змог ён ня толькі знаць штукі з заломам,—
Роднаму слову ўмеў кніжны даць ход.
    «З вольнай дружынаю князь на пасадзе
    Вольнаму люду законы пісаў;
    Слухалі князя, а князь што не ўладзіў—
    Слухаў, што веча яму звон казаў.
Чую, ах, чую цяпер ешчэ ясна
Той неўгамонны, расходзістьі звон...
Сьціх, занямеў, аглушылі напрасна;
Ці адазвецца калі болей ён?..
    «Так, так, мой дружэ, іначэй бывала,—
    Не называўся забытым мой край;
    «Поўнач» не раз у ім схову шукала,
    «Захад» знаў сілу яго не ў нарай.
«Га, а цяперака што гаварыці?..
Усе мае скарбы на марна ідуць:
Жыта учора вывозілі віці,
Родные хвойкі сягоньня плывуць.
    «Людзі чужые змагаюць мне грудзі
    З новым парадкам, з адменным жыцьцём,—
    Роднаго-ж краю тутэйшые людзі
    Ў скуру чужацкую лезуць жыўцом,

«Я іх не ваблю сваею ўжо красай:
Вецер інакшы ім дзьме ў галаве,—
Вісла адным усьміхаецца ласа,
Тые заплюшчыўшысь пруцца к Неве.
«Скора сын бацьку, а бацька сыночка
Не распазнаюць адзін аднаго;
Дзеці чужацкіе корме ўжо дочка,
Маці працуе на злыдню свайго.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прадзедаў слава лазой зарастае,
Памяць мінуўшчыны дрэме ў зямлі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

«Га! ты ня слухаеш, бачу, ўжо болей.
Ой, чэлавечэ змярцьвелы у сьне!...
Доўга йшчэ будзеш глухім ты, саколе?..
Камень і вольха перш поймуць мяне!...»

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэтакі ў часе глухой непагоды
Чуецца ў Нёмнавай гутарцэ жаль.
Сьціхне, і плаўна зноў коцюцца воды
Вольнаго Нёману ў цёмную даль.

---

## Над Свіслочай.

(У Корзюках).

Плаўна Свіслач-рэчка
Ў даль плыве, бяжыць;
Над крутым абрывам
Панскі дом стаіць;
Зелянеюць вольхі,
Па краёх рэкі,
Высяцца над імі
Сумна Корзюкі.
Відзен горад здаля,
Горад Мінск стары,

Пнуцца важна к небу
Коміны, муры.
Гулка далетае
Дзікі свіст машын,
Ды прыпеўкі жабаў
З рэчкі і лагчын.
Між прысад гасьцінцам,
Між палёў селян,
Едзе, пераходзе
То мужык, то пан.
Ўсюж гэту мясьціну
Небо абняло,
Залацістым сонцэм
Хараство ўпляло.
Рэчка, луг, гасьцінец,
Горад, Корзюкі
Разрываюць думкі
На усе бакі.
Сам сабой не знаеш,
Што рабіць, як жыць:
Ці ляцець у горад,
Ці ў Корзюках сьніць?
Ці пайсці гасьцінцам
Долі ў сьвет шукаць,
Ці рэцэ, русалкам
Галаву аддаць?...

---

## Над Іматрай.

На поўначы сумнай, у Фіншчыне дзіўнай
Рэкой з вадаспадам заліўся пакат;
Вуоксаю рэчка завецца у фіннаў,
Іматрай завуць вадаспад.
Клакочуць, рагочуць іматрыны хвалі,
На цэлые вёрсты шум-гоман стаіць,
Нем толечы каменны берэг, як с сталі,
І зарасьнік хвойны маўчыць.
Шалее Іматра меж каменных глыбаў,
За хваляю хвалю імчыць к нізіне;
Як хмар недаступных махнатые скібы,

Адна адну схопіць, піргне.
Адна з аднэй рынуцца ў глыб, як магілу,
Там скруцяцца, знімуцца клубам, дугой,
Рассыплюцца пухам, рассеюцца пылам,
Зноў выскачаць к небу гарой.
Зірнуць, ззіхануцца, сыпнуцца на скалы,
Ўсім дантаўскім процьмам на здзіў,
І люнуць на волю, забыўшыся шалаў,
Плывуць памеж пустак і ніў.
Другіе іх зменяць і пеняцца ў зломе,
Адвечністым шумам калышуць прастор;
Свабодай сваею і роднай Суомі *)
Сягнуць бытцам хочуць да зор.
Стаіш і глядзіш на бунтоўные воды,
І сэрцэ ляленцца ў сьцішнай жальбе,
Ўсё слухаеш нема, як стогнуць нягодай,
Ды як-бы ўсё клічуць цябе:
«Хадзі к нам, бязпутнік, кінь долю на сьвеці,
«Спачын векавечны дамо ў забыцьці;
«Нязведанай волею будзем шумеці
«І гутарку с сонцэм вясьці.
«Хадзі ў нашы хвалі, спаўём твае грудзі
«Вадзіцай сьцюдзёнай, кіпучай, як вар;
«Народ аб нас казку злажыць не забудзе,
«І песьню нам зложыць песьняр».
Так сумна на поўначы ў Фіншчыне дзіўнай,
Рэкой з вадаспадам заліўся пакат;
Вуоксаю рэчка завецца у фіннаў,
Іматрай завуць вадаспад.

*Imatra*, 20/VI—1910.

---

# Вёска.

За хатай хата у парадак
Сядзіць адна каля адной;
Залегла вуліца сяродкам,
Будынкі з боку чарадой.

---

*) Суомі—Фінляндзія—бацькаўшчына фіннаў.

Ня год, не два зняла с плеч вёска,—
Дзянькоў уцёкшых знак відаць:
Мох у салому паўпіваўся,
Патпора час спяшыць стрымаць.
Жыцьцё у лапці абувае
Сваяк, чужынец-прайдзісьвет,
Беда багацтву бье паклоны,
Цямнота к знанню зводзе сьлед.
Вядзе вайну сьлеза са сьмехам,
Дзярэцца той, а той дрыжыць,
З грэхамі важыцца пакута,
У па́ры ноч і дзень бяжыць.
Не знаю: шчасьце, ці нешчасьце
Ўе тут спакойнае гнязло...
У вёскі гэтаго спытайся,—
Маўчыць і вёска пакуль што.

---

# Сад.

Гальлё панадна разлапушыў
За хатай прадзедавай сад;
Чарэшні, яблыні і грушы
Зыйшліся згодліва у рад.
Ківаюць макоўкамі ўдала,
Плывуць напевы ад галін,
Якбы з іх кожная ўзывала:
«Хадзі, бяспутнік, атпачынь!
«Хадзі, усядзься каля нас ты,
«Жыцьця прыгод забудзь напасьць,
«Паслухай музыкі лісьцястай:
«Яна табе гарт новы дасьць.
«Ты многа йшоў, блудзіў ты многа,—
«Жадання крыж ты нёс і нёс,
«Аж на растайных стаў дарогах;
«Цяпер—да нас ад бур і сьлёз!..»
Так бытцым вабіць сад лісткамі
Пад цень свой думку многа лет;
А думка што? яна з ветрамі,
Ня знай за чым, ляціць у сьвет...

---

## Рэчка.

Між гор—далінаю—за вёску,
Не агледаючыся ўзвыш,
Суважна, папрасту, пасвойску
Бяжыш ты, рэчка, і бяжыш.

Падгоніш каменьчык жвіровы,
Травінку водную трасеш,
Чэпаеш корэньчык альховы,
Па верху кветачку нясеш.

І лёд зімой табе ня шкодзе—
Ўсё коцішся; а цёплым днём
На бераг выглянеш разводзьдзем,
Дый посьле—зноў сваім сьлядком.

Нясецца весела вадзіца,
Мая з ёй думка сьлед у сьлед,—
То рвецца ў даль, то зноў баіцца:
І міл і страшэн думцэ сьвет.

А рэчка як бы мне гаворэ:
«Аб долі хочэш знаць маей?
Я—капля ў моры; толькі-ж морэ
Маё ад дум тваіх сьвятлей»!..

---

## Сельскіе могілкі.

Люблю я мóгілкі с каплічкай,
Прысельле насыпаў і пліт,
Дзе крыж і страшэ і галубе,
Сьлязой дзе кожын дол абмыт.

Сваё дзе Радаўніца сьвята
Сьпяшыць у год абходзіць раз,—
Селян склікаючы сямейку,
Спраўляе с сьветам тым папас.

Жывые душы успамінаюць
Сваей успаўшэйся радні,
Над імі жаляцца галінкі,
Нясуць былые думцэ дні...

Агул жыцьця ўсяго абыймеш,
Друзы пагод і непагод,
Зямлю і небо ў рукі возьмеш,—
І ў гэты край зляціць паглёд.
І як-жэ міл дзірванчык цішы,
Спакою дзіўнаго узгор,
Дзе не чапіў селянства пушчы
Навейшай мудрасьці тапор!..

---

## Явар і каліна.

Песьняй вясны лебядзінаю
Скінуўшы зімніе чары,
Шэпчэцца Явар с Калінаю
Ў сумнай даліне над ярам.
Лісьцікі зеленяй хваляцца
Небу панятлівай мовай;
Росамі мыюцца раніцай,
Песьцяцца сонцэм паўднёвым.
Захадам модлы пакорные
З маткай-зямлёй атпраўляюць;
Тайна у ночэньку чорную
Месяца, зор выгледаюць.
Слухаюць сьмехаў русалчыных,
Лопату крыльлёў начніцы,
Ветру павеваў апьянчэных,
Плюскату шклістай крыніцы.
Чуецца музыка дзіўная
У повесьцях сонных імшараў...
Цешыцца Явар с Калінаю,
Скінуўшы зімніе чары.

---

## √Я в а р.

За пакутнай за гарою
Ўзнёсся явар адзінокі,
Іківае галавою,
Ўсё ківае ў сьвет далёкі.

Колькі бедны крыўды мае?
Колькі жалю ў гальным шуме:
Хто падгледзе, ўсё згадае,
Ўсё прачуе ў соннай думе?

Смуцен явар. Змагаць—біцца
Сіл за мала з непагодай—
Па лісточку, па галінцэ
Ўсё губляе с кожным годам.

Гэй, і явар жыў на дзіва,
Паглядаў у сьвет з адвагай,
Быў ён князям гэтых ніваў,
На ўсім сьвеце меў павагу.

Ад узгорка, да узгорка
Ці там сонейка, ці вейка,
Ці то соладка, ці горка
Помне явара жалейка.

І ў дзень будні і ў нядзелю
Ён з людзямі са сваімі.
Колькі песень аб ім сьпелі?
Колькі ў песьнях яго імя?

Зьбеглі леты за летамі.—
Як не нашы, нашы песьні;
І мы самі, як не самі.
А наш явар? Аж балесьне...

За пакутнай за гарою
Плачэ хмурны адзінокі,
І ківае галавою,
Ўсё ківае ў сьвет далёкі...

---

## Дуб.

Распусьціўшы суччэ
У глухім прывольлі,
Сам адзін расьце ён
На далёкім полі.

Як цар, у кароні
Аб нічым не дбае,
Ці то стогне бура,
Ці віхор гуляе.

На адным ён мейсцы
Днюе і начуе;
Многа казак знае,
Многа песень чуе.
Дождж падмыў карэння;
Ў ім дупло—як хата...
Ён стаіць і дрэмле—
Грозны, расахаты.

---

## Верба.

Стаіць верба сухая
У полі на мяжы,
Кару́ з галін сьпіхае—
Галіны—як крыжы.
Ці непагадзь іх мые,
Ці сьпеката пячэ,—
Ў гару глядзяць нямые,
Што год нямей ешчэ.
Шчабетлівая птушка
Папеці не ляціць,
І мятлічэк, і мушка
Гняздо баяцца віць.
Адно птах несьвянцоны
Спраўляе свой папас...
Падбітые вароны,
Ды груганы пад час...
А ўсесьвято́чнай ночай,
Як ляжэ цемната,
Ў сухой вярбе ляскочэ
Асенняя слата.
Галодны вецер сьвішчэ,
Шалее ў злыбядзе,
Цемняцкае ігрышчэ
З сухотніцай вядзе.
Праклённы хохат-рогат,
Выклічыны жуды,
І жальны ціхі ёкат
Там чуецца тады.

Ў такі час кажуць людзі
Аб тэй вярбе сухой:
Хай Бог судзёю будзе
Над грэшнаю душой.

---

## Груша.

Калышыцца сталетняя,
Шуміць на ўсе староны,
На ёй галінаў тысячы,
Лісткоў на ёй мільёны.
Шпакі на ёй чырыкаюць,
І белкі часам скачуць,
І сонцэ дарыць сьпекамі,
І хмары дажджом плачуць.
Яна, загартаваная
Сталетняю парою,
Шуміць, заходзе ў гутарку
То з небам, то з зямлёю.
Дый дзіўнай мовы грушынай
Людзям не зразумеці,
Хоць мо' аб чым і радасным
Захочэ ім шумеці.
Хоць будзе мо' разсказываць
А долі, а багацьці,
З даўнейшаго, прайшоўшаго
Пыл забыцьця зметаці...
О груша, о сталетняя,
Навучы, што мне зрабіці,
Каб мову тваю дзіўную
Людзям перэлажыці?..

---

## Дзьве таполі.

Там, за вёскай, у полі дзьве стаялі таполі,
Як адна, дзьве таполі стаялі,
І стагналі у полі сухавейна таполі,
Як адна, дзьве таполі стагналі.

Аб Усходзе у полі ўсё шумелі таполі,
Як адна, дзьве таполі шумелі,
І аб Зáхадзе ў полі лісьцьмі пелі таполі,
Як адна, дзьве таполі ўсё пелі.

Што пануюць у полі над дубамі таполі,
Як адна, дзьве таполі пануюць.
Што начуюць у полі самаўладна таполі,
Як адна, дзьве таполі начуюць...

Неба помсту у полі тут пачулі таполі,
Як адна, дзьве таполі пачулі,
І на векі у полі дзьве заснулі таполі,
Як адна, дзьве таполі заснулі.

---

## Лес.

Ці знаеш ты, дзяцюк недбалы,
І ты, дзяўчынка дарагая,
Лес гэты цёмны, лес падгалы,
Што з века ў век нам байкі бае?
Цікавым вокам і душою
Шмат перэняць чаго там можна,
Як там усё само сабою
Жыве паважна, асьцярожна.
Там зьвер туды-сюды шнуруе,
На ветцэ птушка там трасецца,
Там хвойка з хвойкаю талкуе,
Як дзе кума с кумой на рэчцэ.
Зімой сапе сьцюдзёнай думай,
У летку песьнямі упьешся,
А ў восень там, ах, шумы, шумы,
Ня чуй—слязою абліешся!
Ніхай жэ сьвісьне ў ім сякера:
Застогне бедны ён, застогне...
О, пушча цёмная няўмеру,
Чыя душа с табой ня дрогне?!.

---

# Бор.

Цёмна і хмарна, хмарна і цёмна,
Як ночь, пустынна раскінууўся бор;
Горда над нівай высіцца соннай,
З небам вядзе патайны разгавор.
Глуха нясуцца вольные шумы,
Веткі касматые гнуцца, трашчаць;
Родзяцца ў сэрцы дзіўные думы,
Хочэцца пушчу падслухаць, паняць.
Што ты, аб чым ты, бор неспакойны,
Гэткую гутарку ў шуме завёў?
Ці сваей долей ты недавольны,
Ці што не так ты на сьвеце знайшоў?
Можэ ты ўбачыў сьлёзы нядолі?
Можэ дзяцей тваіх недруг пацяў?
Можэ пачуў ты звон путаў няволі?
Можэ нешчасных жыцьцё ты паняў?
А можэ вецер, што скрось гуляе,
Што-небудзь новае збаяў табе?..
Эй, гавары ты, пушча глухая!
Слухаць прышоў я здалёку цябе.
Цёмна і хмарна, хмарна і цёмна,
Як ноч, пустынна раскінууўся бор;
Горда над нівай высіцца соннай,
З небам ён толькі вядзе разгавор!

---

# Воўк.

Топчучы верас і мох
Цёмных імшараў і лоз,
Выбрыў на сонны разлог,
На аплясьнелы пакос.
Зубам ляскочэ а зуб,
Вочы пылаюць агнём;
Стаў, як калода, як слуп,
Стаў і азваўся выцьцём.

Выў сярод дрэмлючых ніў,
Як-бы на суд каго зваў,
Хто сатварыў, спарадзіў,
Хто узрасьціў, гадаваў.
Ноч—ён на вырай, на жыр;
Дзень—у бярлогу, як смоўж...
Пустка удоўжкі і ўшыр,
Пустка ушыркі і ўдоўж...
Выў ён, а рэха ўсё ў даль
З рогатам дзікім плыло,
Толькі ня віўся ў ім жаль...
Рэха пракляцьце нясло.

---

## Воўкалак.

Як зьмеркне, як ноч дзень зваюе,
І зораў паявіцца знак,
Па нівах, па сёлах шнуруе
Туды і сюды Воўкалак.
У поўнач на пні і на сталі
Зьнімае, ўздзевае свой від;
Ня кеміць ні крыўды, ні жалю,
Ні наспаў магільных, ні пліт.
На веры людзкой і павазе
Хаваны між яраў і лоз,
У кожны надворак залазе
І водзе трусьлівасць за нос.
Паношыцца ў кожнай прыгодзе,
Сьмеяцца ня дасць над сабой,
Малітвы на губы наводзе,
Як лістам, трасе цемнатой.
Ці з ласкай яго, ці неласкай
Рахунак вядзе забабон;
Складаецца казка за казкай,
Падданых з'ярміў ён мільён.
Лет тысячы зьела непамяць;
За богам узводзіцца бог.
Сто ўсьпелі праўд новых спаганіць,
Ніхто Воўкалакі ня змог.

Як толькі земля заначуе,
І зорак абойдуць рады,
Па нівах па сёлах шнуруе,
Шнуруе туды і сюды.

---

## Ў вечным боры...

Ў вечным боры цемнатворы
Скачуць, плачуць, веселяцца;
Жнуць, зьбіраюць дзіво-жніво
Ў сонным полі, ў горкай долі.
Ночай ходзюць, днём заводзюць,
Творуць, моруць ясногляды;
Веюць, сеюць плесьні ў песьні
На палаці ў кволай хаці.
Як начніцы-чэрналіцы,
Скрыпам, шыпам маладзяцца:
— Кінем, плюнем чары-мары
На паляны нечэпаны;
Над курганам незабраным
Скруты-путы разасьцелем,
Сном-травою станем, глянем
На неўлады, на пасады...
С Чорным Богам прад парогам
Сталі ў хвалі, як кароны,
І пануюць—скачуць, плачуць
Цемнатворы ў вечным боры.

---

## Хохлік.

Як зайграе ў лесе хохлік,—
Замірае песень воклік;
Як зачэпе мох і лозы,—
Аджываюць сьмех і сьлёзы...
Ў цёмным яры скачуць чары,
Кветка чахне на папары,
Лісьць трасецца на асіне,
Вогнік блукаецца сіні.

Бародой Лясун ківае,
Шалы нетрай спавівае;
Ваўкалак за дамавінай
Выпаўзае на пуціну.
Ад загона да загона
Хохлік царскаю каронай
Карануе у сусьветы
Сухалесы, пустацветы.
Хохлік грае, ведзьма скачэ,
Ноч сьмяецца, сонцэ плачэ,
Толькі песень не чуваці
На стаптанай сенажаці.

## Чорны Бог.

У караўніцах амшалых
З галавы до ног,
З дзікіх багнаў, перэвалаў
Выбрыў Чорны Бог.
Вызваў пошусьці, начніцы,
Цемрай зазіяў;
Тушыць новые мглавіцы,
Тушыць новы зьяў.
Ногці смольлю разлапушыў,
Ногці— верады,
З гікам пудлівые душы
Гоніць дзе, куды.
Цемравіца, суталока
Зверзлася ў вадно,
Лезе звага, ненарока
Ўсё на дно, на дно.
С каршунамі, с курганамі
Занялася прыць,—
Чорны Бог заняўся пламям,
Чорны Бог гарыць.
Паланейся, развугляйся,
Зьмейны Чорны Бог,—
Ты йшчэ з Белым не зраўняўся,
Ты яго ня змог!..

## Ноч за ночкай...

Ноч за ночкай ідзе, сьцішна, тайна брыдзе,
Разсевае трывогу-знямогу;
Цені густа кладзе на пяску, на вадзе,
Ацемрае гасьцінец-дарогу.

І урок, і залом абыймае крылом,
Друганowым крылом спавівае;
Водзіць рэй з ведзьмаком, жэніць ведзьму з ваўком,
Кажана́ і саву заручае.

З ям вылазіць, як лунь, Вадзянік і Лясун,
Выпраўляюць русалкі бяседу,
Зьмей дабро цягне с пунь, пакуль крыкне пявун,
Пакуль поўнач ня зробіць прагледу.

Небо свой нямы сход: месяц, зор харавод,
Над зямлю то выводзіць, то зводзіць;
Сьпіць сяло, дрэмле кот, вецер цісьнецца ў плот,
Як на дудках, у шчэпках заводзіць.

Так ноч ночку вядзе, сьцішна, тайна брыдзе,
Разсевае трывогу-знямогу;
Цені густа кладзе на пяску, на вадзе,
Ацемрае гасьцінец-дарогу.

---

## Запушчэны палац.

Твой кволы валадар, забыўшыся навук
Вялічыны Зыгмунтавай і лет цярпення,
«Раздзел» узаканяе ў загранічным цені
І лічэ, колькі дома кінаў хвоек штук...

А дома, роскашы і працы многіх рук,
Папас магнацкіх перацвіўшых пакаленняў,
Стаіш,—і цэгла валіцца з гнілых скляпенняў,
І ў шчэліне гняздо ўе ўслужлівы павук,

Жывёлу гоне ў парк галодны «сэрвітут»,
Ля сьцен цянюе забабон із лета ў лета:
Нячысьцік з ведзьмамі гуляе ў пустцэ гэтай.

Так зністажэньне ў кожын гзымс паўзе і кут
І зубы скаліць: «моц мая і права тут!
На ўход жыцьця сюды ўжо я кладу тут «Veto».»

---

# Палац.

Стогнуць пад мурам халодным таполі;
Крыліцца ў ветках начніца;
Молюцца совы па днеўным прывольлі;
Вецер калышэ званіцай.
Сьцелюцца мжакі асенняй валокны;
Вечэр нялюдзен, трывожэн;
Шыбамі звонюць палацавы вокны,
Ценямі мур упрыгожэн!
Вы́сакі, бледны адвечные сьцены,
Мары—слупы чарадою;
Важны дзядзінец, трава па калена;
Сад з агародай жывою.
Дымна замглелі, як блудные во́гні,
Ў вёсцэ далёкай лучыны...
Весела, ярка ў палацы сягоння,
Хвіляй-мінутай—гадзіна.
Шыбы зардзелі блысканнем неўхватным;
Кружацца пары, мігаюць;
Душы, да славы ўсебратней нездатны,
Вокліка суму не знаюць.
Бел, як астрог сярод пусткавай пашы,
Думку палац неспакое:
Штось да яго парывае і страшэ;
Зводны аздобай пакоі.
Не-ўглядзь за поўнач насьпела часіна,
Сон на пакоі паў ройма...
Досьвета ў вёсцэ далёкай лучыны
Далей мігцяцца па свойму.

---

# Тае сьнег...

Тае сьнег, таюць сковы зімы ледзяністые,
Сонцэ з ласкай ажыўчай гуляе ў прывольлі;
Хутка жаўранак песьняй своей галасістаю
Прывітае аратых на полі.
Ўзніме чорную скібу саха працавітая,
Ляжэ ўсходнае зерне у пахань сырую,
Закалосіцца поле, сьлязой, потам злітае,
Зашуміць сваю думу старую.
Гаспадар той суважна свой шнур па сьвяточнаму
Абыходзіці будзе, красой любавацца,
Прыслуховацца шэлесту нівы няўрочнаму
І маліцца к сваей зямлі матцэ.
Сьмела гляне на сьвет і на долю зьмянлівую,
Як дагэтуль, яму не дадуцца ўжо ў знакі
Тые сілы з усходу і захаду мсьцівые,
Што даймаюць цяпер, як вужакі.

---

# Паводка.

Крэпкі магучы аковы зімовые—
Льдзяные брылы на захад і ўсход.
Бліснула сонцэ, сонцэ вясно́вае—
Топіцца гурбіна, топіцца лёд!
З грохатам, з лоскатам крыга за крыгаю
Прэцца, нясецца ў незнаную даль;
Хваля за хвалею коціцца, мігае,
Ломе прашкоды, як молатам сталь.
Дарма запорыну людзі бяздольные
Выбегуць ставіці сіле такой:
Скрышэ паводка ўсесільная, вольная,
Скрышэ і пойдзе сваей пуціно́й!
Эх, ты, разводзейка! Эх, ты, бурлівае!
Ты аднаўляеш, купаеш зямлю;
Вынясі-ж, вынясі хваляй жычліваю
К лепшаму шчасьцю людзкую сямью!

---

## З песень аб вясьне.

I зелень, і кветкі, і песьні,
I неба вясёлая яснасьць...
Ні цьмы тэй, ні сьнегавай плесьні,—
Дзе глянешь,—адна, братка, шчаснасьць!
Сьвет цэлы зіяе каберцам,
Шум нейкі ад пушчаў нясецца,
З грудзей як ня выскачэ сэрцэ,
Душа кудысь рвецца... ўсё рвецца...
Прачнуліся нівы і хаты:
Уся ў полі людзкая сямейка;
За сошкай шнуруе араты,
Ля статку іграе жалейка;
З сяўнёю сявец пахаджае,
На скібіны валіцца зерне;
Знаць, сіла ў сеўца не малая...
Захочэ—і сьвет пераверне!
Гэй, гэй, хлебаробе мазольны,
Пан сошкі і коскі, і поля!
Кінь выгляд сьлязлівы, нявольны:
Ў тваіх руках слава і доля!

---

## Сёмуха.

Нарэшце па віхрах, па сцюжы
Заглянуў вясеньні прасьвет;
Ці чуеш, ці бачыш, мой дружэ,
Як іншы, як лепшы стаў сьвет?
Ці бачыш, як небо міргае,
Як траўкай сьмяецца зямля?
Ці чуеш, што кум-лес нам бае?
Паймі, колькі ў рэчцы жыцьця.
А глянь ты на вёску на нашу,
На брацёў забытых у ей,
Я знаю, як доля іх страшэ,
I колькі ім зводзе надзей.

Вот Сёмуху вышлі—спаткалі,
Надзелі сьвяточны убор,
Зялёнай галінкай уткалі
Святлічку і ганак, і двор.
І цешацца людзі, як дзеці;
Сягоньня труд скінуўся з рук,
Хоць заўтра на белым на сьвеці
Ах, колькі чэкае іх мук!..

---

## З летніх малюнкаў.

Коціцца, ўецца далінкай крыніца,
Бьецца, плюскочэ ў каменнях вадзіца,
Далей плыве і плюскочэ.
Белымі грудкамі лёгшы на траўцы,
Хочэ дзяўчынка к вадзіцы дастацца,
Губкамі чэрпнуці хочэ;
Вольха лісткамі ёй шыю шчакочэ,
Плюскатам рэчка сьмяецца у вочы,
Сонейко ўсіх абнімае.
Сонейко, рэчка, вольха, дзяўчына
Думцы ўсьмехаюцца соладка, дзіўна,
Думка іх шчыра вітае...

---

## Летняя раса.

Як брылянты, разсевае
Ночка летняя расіцу,
Туманамі спавівае
Луг зялёны над крыніцай.
А як раніца настане,
Блескі сонца загуляюць,—
Рос прыходзіць адцьвітанне,
Туманы у рэчцы таюць.
Як брылянты, гінуць росы
На зелёнай сенажаці;
Сонца косы, нашы косы
Не даюць паўдня ім знаці!

---

## Лета.

Эх, ты, лета гарачае, бурнае!
Ажыўляеш ты поле і луг.
Люба, думкі пакінуўшы хмурные,
На сьвет выйсьці ды глянуць вакруг.
Шум стаіць над лясістай дубровaю,
Быццам рада аб нечым ідзе;
Рэчка, ў прысадзь схаваўшысь альховую,
Бурліць; рыбка плюскочэ ў вадзе.
Ў збожэ ўсякае ніва прыбралася—
Хораства там якога німа!—
Як залёны дыван, распласталася;
Шопат нейкі плыве ат жытца.
Колас с коласам гутарку дзіўную
Завялі, бы на хмары злуюць;
Песьні жаваранкаў пераліўные
Замаркоціцца, спаць не даюць.
А лагі, а гумнішчы, аселіцы?..
Вось абняў, прытуліўся, ляжы...
Хто з вас, хто не любіці асьмеліцца
Ў летку сьвет ат мяжы да мяжы?..
Дай-жэ лета мне веру магучую,
Што калісь сваю долю найду,
Дай мне песьні пець сілу жывучую,
Дай працівіцца крыўдзе і злу!

---

## Сьпека.

Прыскам палае і жарам,
Жарам дрыжыць, зіхаціць,
Як-бы сьвет вечным пажарам
Хочэ абняць і спаліць.
Звугліла высі—загоны,
Звугліла долы—лагі,
Завалакла лес зялёны
Ў чорные дыму кругі.

Сьцежкі заслала агніцай—
Белым пякучым пяском,
Выссала рэчкі-крыніцы,
Ў дно іх зірнула агнём.
Саванам бледна-замглёным
Сьвета душу спавіла,
Потам крывава-чырвоным
Вочы зямлі заліла.
Крык-жальба вырвецца з губаў
К сонцу с плакучых грудзей,—
Сонцэ зіяе загубай,
Сонце сьмяецца, як зьмей.

---

# Заклятая кветка.

Чуць толькі Купальскае сьвята
Надбліжыцца з ночкай сваей,
Як папараць кветкай заклятай
Чаруе нешчасных людзей...
З надзеяй, і верай, і сілай
Зусюль, куды-б дзе не зірнуць,
Праз высі, даліны, магілы
Па кветку бягуць і бягуць!
... Сава пяе песьню разлукі,
Лапочэ крыламі кажан,—
Мільённые цягнуцца рукі,
Дзе дрэмле купальскі курган:
Тых радасьцю вочы сьмяюцца,
Тым зрэнкі крывёй заліло;
Піхаюцца, корчацца, бьюцца,
Мешаецца праўда і зло.
Пачнуцца галінкі хіліцца,
Шасьцяць верасы пад нагой.
Туж-туж ужо кветку схапіці!
Сьцікаецца гэты і той—
Тыц—стой!.. Гледзяць зорніці-сьведкі,
Пявун адгукнуўся ў сяле—
Ні ночкі Купальскай, ні кветкі!
Усё затаілася ў мгле...

Залыпалі блудные вочы,
Мільёны уздохаў ляціць,
Сава не заціхне—рагочэ,
Крыламі кажан шапаціць...
Сьлед костачкі сьцелюць—услалі,
Здаецца, ўжо час аддыхнуць,
Надойдзе-ж хай толькі Купальле—
Мільёны па кветку бягуць!..

## На Купальле.

На Купальле на святое
Рвій, матуля, зельле тое,
Што ў нас папараць завецца!
І шчасьлівым быць здаецца!
Як нарвеш яго даволі
Ў цёмным лесе, ў чыстым полі,—
Палажы за абразамі,
Пасьвянці сваймі сьлезамі...
Двойчы, тройчы—а крапліста—
Злій сьлязою брылянцістай
І чэкай з яго прыплоду
Ад усходу да заходу...
Як із зельля глянуць кветкі,—
Будуць шчасьце меці дзеткі,
Будзем, маці, меці ў хаце
Долю, згоду і багацьце!..

## Жніво.

Насьпелая постаць шчасьлівых пасеваў
За вёскай, на сонным лясоў рубяжы,
Зсівелы ўжо колас схінула к мяжы
У сумным шэптанні: «дзе, жнеі мае, вы?»

І жнеі зыйшліся.—На-права, на-лева,
Кладучы ў снапы каласы-старажы,
Зашасталі глуха сярпы, як нажы,
Пад жніўные вечна-старые напевы.

Спагадная-нудная песьня плыве,
Губляючы ў пушчы свае пералівы,
У шэлестах белаго коласа нівы.

Плыве гэта песьня ка мне і заве,
І ў сэрцы звініць, як каса у траве:
«Ты так-жэ, брат, сееш... а дзе тваё жніво?»

---

## Адцвітанне.

Не шасьцяць каласы,
Звон не валіцца с касы,
Не кладуцца ў стог пласты,
Толькі сыплюцца лісты
На яловые кусты,
На сухіе верасы.

Не іскрыцца небазор,
Не цвіце трава-чабор,
Не цыгліць птушыны стан,
Толькі поўзае туман,
Вецер бье ў нямы курган,
Шэпаціць імглісты бор.

Змога вольная снуе,
Очы ўставіўшы свае,
То галубне, то пужне.
Сэрцэ бьецца у паўсьне,
Думка сэрцу аб вясьне
Здрадны голас падае.

---

## На склоне лета.

Пусьцее поле, моўкне птушка,
Скідае жоўты лісьць бяроза,
Нямее песьня—весялушка,
Ліюцца з неба каплі—сьлёзы.

У полі глуха вецер сьвішчэ
І ў комін з шумам далетае.
Ні то жыцьцё, ні пажарышчэ,
Ні то пагібельнасьць якая!
А ў сэрцы, сэрцы неспакойным
Жаль так і ўеўся с пусткай гэтай;
Снуюцца думы роем ройным.
О, як ты страшэн мне, склон лета!
Была весна, і ўсё на сьвеце
Жыло, цьвіло і вось не стала...
Німа вясны, заплач па леце;
Нуда ва ўсім запанавала.
Такая-ж доля наша, людзі:
Жыві ды пекайся ўсей сілай;
Праходзюць годы, чахнуць грудзі,
Бач, і дапекаўся магілы.

---

## З асенніх напеваў.

1.

Кончыцца лета гарачае,
Кончыцца воля—раздолле;
Кветкамі лог не харошыцца,
Збожэм не хваліцца поле.
Косы ня сьвішчуць сталёвые
Ў соннай траве сенажацяў,
Серп на вайну ня йдзе с коласам,
Песень, і тых не чуваці.
Сонна адна адзінокаю
Груша стаіць над мяжою,—
Лісьце скідае пажоўклае,
Сыпе асенняй нудою.
Неба што дзень пахмурнейшае,
Сонца што дзень на ім меней,
Птушак заціхла чырыканне,
Нейкае ўкруг знемажэнне.
Вецер заводзе у коміне,
Быццам жыцьцё сваё гане;
Думы старые, халодные
Сэрцэ пужаюць, як здання.

Так і ўцекаў-бы ад гэтаго
Там гэт! за горы, за рэкі,
Каб чэлавек ды мог скрыціся
Ад сваей долі на векі.

2.

Сьцелюцца цэлы дзень росы,
Вечны цень сьпіць на зямлі,
Бледные сонцавы косы
Выглянуць рэдка калі.

Здаля даносюцца шумы,
Ў коміне шумы пяюць;
Ціснуцца будніе думы,
Сноў забыцьця не даюць.

Нейкая зводная сіла
З выглядом вечна старым
Вабіць здалёку магілай,
Крыжам міргае сваім.

3.

Змоўклі лісьцястые шэлесты,
Галля худые тарчаць,
Мёртвые дзе-не-дзе ве́расты
Зеленяй зводнай блішчаць.

Цягнуцца дрэвы расхутаны
К небу з балотных нізін,—
Корэнь, у жвіры заплутаны,
Не адпускае галін.

Рогат зьвярыны пакоціцца
Дзікім жаданнем бяз слоў,—
Пушча замрэ, закалоціцца,
К во́блакам цягнецца зноў.

4.

З гальных ліп і бяроз
Лісты валюцца,
Між павалаў і лоз
Разсыпаюцца.

Шэпацяць, шэлясьцяць
Залацістые,
Веткі ў неба глядзяць
Пусталістые.
Дачэкаўшы вясны,
Зноў ажыўлюцца;
Не паўстануць лісты,
Што асыплюцца.

5.

Небо поўно сівых хмараў,
Сьвет палошчэ дождж сьцюдзёны,
Чорнай кучай на папары
Чахнуць каўкі і вароны.
Сонца ўжо ніхто не бачэ,
Вецер вые, завывае;
Восень стогне, восень плачэ,
Думы сумам спавівае.
Ў маей хаце у пахілай—
І ня цёпла, і ня відна,
Выгледае, як магіла,
Выгледае неяк крыўдна.
І ў душы, хоць плач, як нудна,
Гэтак цёмна, як і ў хаце;
Ой, як нудна! сказаць трудна...
Галасіў-бы, слаў пракляцьця.
Галасіў-бы, як галосе
Вецер гэты, восень гета,
Каб аж рэха разляглося,
Гэт, на цэлаго паўсьвета!
Каб ляцело, не сьціхало
Па шырокаму па полю,
І ўсім чыста апевало
Маю горкую нядолю.

6.

Ў думах нявесела,
Сэрцэ сжымаецца;
Цёмная, золкая
Восень зближаецца.

Небо пакрылося
Мглою, туманамі,
Галкі узносюцца
Панад курганамі.
Поле шырокае
Пусткай абселося,
Дуброва шумная
З лісьцеў раздзелася.
Імжыць сьцюдзёністы
Дождж над зямелькаю,
Сьвет пакрываючы
Жаласьцей нейкаю.
Людзі у курные
Хаткі пакрыліся,—
Радасьць мінулася,
Песьні забыліся.
Бабка старэнькая,
Зможэна му́камі,
Казкі даўнейшыя
Шэпчэ з унукамі.
Віхар у коміне
Жутка заносіцца,
То якбы жаліцца,
То ў хату просіцца.
Ў думах ня-весела,
Сэрцэ зжымаецца,
Цёмная, золкая
Восень зьбліжаецца.

---

## Восень.

Ось і па леце... Німа яснай гожэсьці;
Восень запела пагудку сваю;
Нудна, жаль нейкі атцвіўшай прыгожэсьці;
Гіне ахвота к пацехам, к жыцьцю.
Вока не пасьвіцца зеленей, коласам,
Сэрцу роздольля, прывольля німа;
Вецер заводзе нябошчыцкім голасам,
Вые, рагочэ, як ведзьма сама.

Лісьце струпеўшае с дрэў асыпаецца,
Веткі шкелетамі сталі бяз іх,
Воўчые зрэнкі між пнёў палыскаюцца,
Птушчын і лопат, і шчэбет заціх.
    Небо адзелося цёмнымі хмарамі,
    Сыпе сьцюдзёнай слатою, дажджом;
    Жбравы, гусі лятуць над папарамі...
    Цёмна, пагібельна, сьлёзна кругом.
Штосьці трывожнае, зло-непрыхільное
Сунецца з гэтай мертвячай глушы...
Восень панурая, восень магільная!
Страшна ты чуткаму сэрцу, душы.

---

## Зіма.

Было цёпла. У ваконцы
Загледало ясна сонцэ.
Аж, ні села і ні пала,
Зіма з сьнегам загуляла!
    Усю нашую старонку
    Спавіла, як у пялёнку,—
    Німа траўкі, німа кветак,
    Пуста гэтак, мёртва гэтак!
Сьціхла рэчка, як забіта,
Пад шкляною лёду плітай;
Лес пашумам не гамоне,
Птушак песьнямі ня звоне.
    Век халодны без адмены
    Мароз стукае у сьцены,
    А ад сьнегу днём і ночай
    Іскры сыплюцца у вочы.
Скрыпяць санкі на марозе
Па выслізганай дарозе...
Эй, каб шчаснай больш часінкі,
Вось-бы злётаў да дзяўчынкі!..

---

# Сьнег.

*(Па Пшыбышэўскім).*

Залегла, як пасьцель,
Лебедзіная бель
На загон, на курган.
І кажан, і груган
Занямеў не на сьмех:
    Гэта сьнег, толькі сьнег...
За старухой зямлёй
Ты пасьцель, дружэ мой,
Узваліў на душу,
Якбы крыж на мяжу,
І ўжо рад не на сьмех:
    Гэта сьнег, толькі сьнег...
Думкі, сэрцэ, паглёд
Абліў лёд, скаваў лёд.
Так спавіў, спавіў сам,
Каб лягчэй было там,
Дзе жыцьцё не на сьмех:
    Гэта сьнег, толькі сьнег...
Ты і жыў, і любіў,
Ты ня ўмёр і забыў,
Каб нічога не дбаць,
Сьмела ў даль пагледаць,
Быць самым не на сьмех...
    Гэта сьнег, толькі сьнег...
Хтось—сваяк, не сваяк—
Як жыў, скончыўся так.
Прагудзеў поп і звон,
Ідзі з памяці вон:
Бой за хлеб не на сьмех!
    Гэта сьнег, толькі сьнег...
Мо' і лёгкіе дні...
Не зачэпяць ані
Ні беда, ні нуда,
Ні агонь, ні вада...
Само счасьце, сам сьмех!
    Гэта сьнег, толькі сьнег...

---

## III. Для Яе.

З зорак усходніх, заходніх, з блыскучай
маланкі выткаў-бы шаты,
З сонца і кветак-пралесак карону—
вяночэк зьвіў-бы Табе я.

С пальмаў, с цыпрысаў сьвятліцу ў цьвітучай,
цяністай строіў-бы кнеі;
Воблачак зняў-бы на трон з небасклону,
с-пад сонца пышны, багаты.

Шоў-бы ў палац панаваць с каралеўнай,
царэўнай яснай тады я,—
Славіць, шчасьліваць сваю маладую,
сьвятую песьняй няпетай.

Сэрцавы струны зьвінелі-б нязвеўна,
павеўна гымны жывые;
Казку тварыў-бы с табой залатую
такую, як думка гэта.

## ✓ Не прасьпі...

Сьпі, дзяўчына, пóкуль сонцэ
Не зайграло над хацінай;
А як сонцэ на ваконцэ
Блескі кіне—ўстань, дзяўчына!
        Ўстань, зніміся, схамяніся,
        Ўмыйся сочнаю расою,
        Сэрцам к сонцу прытуліся,
        Ветру дай гуляць с касою!
Ў сонцы війся далей, выжэй,—
Паланей, красуй дзянінай,
Не пужаючыся крыжа,
Сонцу роўная дзяўчына!
        Заіскрыся кветкай белай
        На зялёнай сенажаці;
        Кінь патолю думцы сьмелай,
        Пасмы радасьці снаваці...
Негаданай песьняй-казкай
Разыграецца часіна...
З сонцам, з сэрцам, з вечнай ласкай
Не прасьпі вясны, дзяўчына!..

---

## Як у лесе зацьвіталі.

Як у лесе зацьвіталі
        Ліпа ды каліна,—
Залатые сны снавалі
        Мы с табой, дзяўчына.
Калыхаліся, шумелі
        Вольные бярозы,
Шэпацелі, шэлясьцелі
        Трысьнягі ды лозы.

*

Як у жыце наліліся
Каласкі нагінна,—
Сустрэліся, абняліся
Мы с табой, дзяўчына.
Мігацелі, зігацелі
У пракосах косы,
Замiралі кветкі, зельле,
Замiралі росы.

*

Як дасьпела, шчырванела
Ягада—рабіна,—
Ўвакруг глянулі нясьмела
Мы с табой, дзяўчына.
Верасы пад лісьцям спалі,
Бор зялёны гнуўся,
Недзе пелі ў цёмнай далі
Журавы ды гусі...

---

## Песьня.

Зайшло ўжо сонейка, цень лёг на гонейка,
Ўецца туман сенажацяй;
Выйдзі, дзяўчынка, выйдзі, галубка,
Ў садзік ка мне пагуляці.

Хвілямі шыбкімі ў цені пад ліпкамі
Час нам праходзіці будзе;
Бачыці будуць зоры і месяц,
Бачыць ня будуць нас людзі.

Казкамі дзіўнымі будуць галінамі
Ліпкі шумеці, дзівіцца,
Будзе прыветліва пець салавейка,
Буду—слугой, ты—царыцай.

Радасьцю, ўцехамі пад ліпак стрэхамі
Будзе нам доля ў ноч гэту,
Сэрцавы струны ўдарым каханнем
На зайздрасьць цэламу сьвету.

Выйдзі-ж, дзяўчынка, выйдзі, галубка,
У садзік ка мне пагуляці;
Ўжо зайшло сонейка, цень лёг на гонейка,
Уецца туман сенажацяй.

---

# Людка.

Як Людкі не бачу,—
Ня міла мне жыць:
І сохну, і плачу,
І сон не бяжыць!
І хатка—ня міла,
Ўрагамі—дружкі,
І сьвет—як магіла,
І ночкай дзянькі!
Як Людку угледзеў,
Забыўся на ўсё!—
І плач уцёк недзе,
І раем жыцьцё!
Хоць поўна хмар небо,—
Сьвет—яснасць адна!
Сам сыты бяз хлеба,
Вясёлай душа!
Забыты ўсе болькі,
Што ходзяць са мной,—
Ўсё хочыцца толькі
Быць з Людкай-красой...
К ружовіенькім шчочкам
Губамі прыльнуць
І песьню аб Людцэ
На ўвесь сьвет грымнуць!
Грымнуць,—прытуліцца
Да белых грудзей,
Упіцца,—забыцца
На сьвет, на людзей!

---

# Мая дзяучынка.

У дзяўчынкі, у княгіні,
Што пад-час мне вочкам кіне,—
Каласісты вянок жыта—
Коска жычкаю павіта;
Пара пасымкоў мятлічкі—
Броўкі мілые ў сястрычкі;
Дзьве пралескі—яе вочкі,
Ці два ў збожы васілёчкі;
Яе шчочкі—роўны ў сонцы
Цвету-рожы ля ваконца;
Яе губкі—не калінкі,—
Проста сьпелые малінкі!
Цвет-лілія із крыніцы—
Шыйка гэтай чараўніцы;
Два букеты з незабудкі—
Маладые ея грудкі;
Як хмялёчэк небадыльны—
Стан прытульны, перахільны;
Ручкі—хто зраўняўся з імі!
Так і шчасьце не абыме;
Сэрцэ... Ўсюды за ім пойдзеш,
Пекла, неба,—ўсё там знойдзеш...
У дзяўчынкі, у княгіні,
Што пад-час мне вочкам кіне.

---

# Жнея.

*М. Шышко.*

Як сама парыца
Ў залатой кароне,
Йдзе яна ў вяночку
Паміж сьпелых гоні.
З каласкоў вяночэк—
Моладасьці сьведка—
На ёй зіхаціцца,
Як у садзе кветка.

На грудзях шчасьлівых
Кафтанок ружовы,
У руцэ сярпочэк
Точэны, сталёвы.
Вецер абнімае
Стан яе дзявочы,
Сонцэ ей цалуе
Шыю, твар і вочы.
Каласкі хінуцца
Перад ёй паклонна,
Дзівіцца ігруша
На мяжы зялёнай.
А яна—царыца
Вéсела, шчасьліва
Карануе песьняй
Залатое жніва.
Сьмела йдзе у сонцы,
Ўся сама—як сонцэ,
Гэта жнейка наша
Ў нашаей старонцэ.

---

## Я хацеў-бы...

*Насьледаванне з Асныка.*

Я хацеў-бы душу атшукаці такую
І такое хацеў-бы я сэрцэ найці,
Што са мной праз жыцёвую сьцежку блудную
Захацела-бы спольна і згодна ісьці.

Вочак пару хацеў-бы я мець прад сабою,—
Як у ясные зоры, ў якіе-б глядзеў
І забыўся-б, што ходзе маркотнасьць за мною,
І забыўся-б, што крыўды цярплю ад людзей.

Адных губак хацеў-бы, што мне-б саладзілі
Пацалункамі горкую долю маю,
Што с-пад сэрца, з душы галасок-бы дабылі,
І ўсяму патцінали, што ў жальбах пяю.

ацеў-бы найці ручак беленькіх двое,

Што к сабе прыгарнулі-б, пясьцілі мяне,
Памаглі-бы змагаціся с чорнай нудою,
А па сьмерці павекі закрылі-бы мне.

Я хацеў-бы сабе прыгалубіць дзяўчынку,
Маю долю-нядолю дзяліці са мной,
З сэрцэм чыстым якую-б усякай часінкай
Я любіў-бы, туліў і служыў-бы якой.

Аднаго толькі сэрца мне трэба, хачу я,
І аднэй, што мяне-б зразумела душы...
Хачу мала, так мала, а доля ня чуе:
Сіратой сам адзін я гібею ў глушы.

---

# Мая жонка.

Не хачу я жонкі
Не з сваей старонкі,
Як я—багацейшай,
І як я—мудрэйшай.
А вазьму такую,
К якой любасьць чую,
Што мяне палюбя,
Як сябе самую.

*

Будзем з ёю жыці
І долю хваліці,
Весьці лад у хаце,
Дзетак гадаваці.
І так жыць па праве
Ў добрай будзем славе,
Пóкуль хаўтуроў нам
Злая сьмерць не справе.

---

# Да дзяўчынкі.

Не чурайся, дзяўчынка-галубка, мяне!
Пажалей, прыгалуб бедака-сірату:
Збудзі сэрцэ, збудзі,—хай на век не засьне,
Дабудзь песьню з душы, разгані цемнату.

Не было мне пацех ад людзей, ад жыцьця,
Не заглянула сонцэ у хату маю,—
Выхры гналі-гулі без канца, без пуцьця,
Ажно долю паганую кляў я сваю...

Ой, так шоў—так зыходзе мне год за гадком,—
А ёсьць шчасьце, ах, ёсьць на бязпутнай зямлі!
Гэта шчасьце ў каханні, ў змаганні са злом—
Дык хадзі-ж, не ўцекай—душу, сэрцэ вазьмі!

Ты і я у дваём станем сьмелай ступой
Змагаць горэ-бяду, паніжэнне і блуд,
Жыць, любіць і цярпець, ненаглядка, с табой
За нявольны свой край, за свой змучэны люд!

---

*
* *

Абнімі ты мяне, маладая,
Абніманнем гарачым, агністым,
Дый памчымся ад края да края
Вольнай думкай па сьвеце цярністым.
Ў дзень вясёлы мы сонцэм пякучым
Заіскрымся ў нябесным прасторы,
З ветрам сокалам душы заручым,
Ў пушчу-лес упляцём загаворы.
Ў ночы сумнаю зоркаю глянем
На сады, на амшалые хаты;
Чары-сон навядзём заклінаннем,
Вышлем росы брылянтные ў сваты.
Узалоцімся ў сьветлые сьлёзы,
Ў сьлезы-іскры забраных загонаў;
Сьнегам-пухам зардзімся ў марозы,
Ў летку кветкай зайграем чырвонай.
Адну песьню дзень, ночка хай грае
Нам сіротам на сьвеце цярністым...
Абнімі ты мяне, маладая,
Абніманнем гарачым, агністым.

---

## Перад ночкай.

Зьмеркла. Цёмнасьць агні пале
 Ў зорак грамадзе:
Тайнасьць жуткая—гэт, здаля
 Ў сьвет ідзе, ідзе.

Дагарэла ўжо лучынка,
 Спачываці час!
«Добрай ночы» сьпей, дзяўчынка,
 Сьпей хоць раз, хоць раз!

Запей нотай сэрцу блізкай
 А долі маей,
Быццам маці над калыскай,
 Ты запей, запей!

Пей пацехай, пей разгульна,
 Душы не скупі;
Мае думкі, жаль няўтульны
 Ты прысьпі, прысьпі!

Сьпеўшы песьню, ў ціхамоўку
 Без трывог ані
На плячо мне звесь галоўку
 І засьні, засьні!

Цемнатой нас ночка скрые
 Ад злосьці людзкой;
Будзем сьніці залатые
 Сны с табой, с табой!..

---

## Па за́хадзе...

Мой міленькі прышоў ка мне
Па захадзе ўжо сонца,
І ціха ў цёмнай цішыне
Пастукаўся ў ваконцэ.

Заныло сэрцэйка маё,
Як гэтае пачуло;
Сваё зняла я акрыцьцё,
І на зямлю ступнула.
Ў кашулі вышла я на двор
Да любаго з сьвятліцы,
А небо рдзело ўжо ад зор,
Шумеў лес над крыніцай.
Шлі ветры: пелі пра красу,
Хісталі стан, любые,
І расплеталі мне касу,
І шчэкаталі шыю.
На прызьбе селі мы ўдваіх
І моўчкі пагледалі,
Як цені с хат і пунь сівых
То ніклі, то ўставалі.
Мяне к сабе ён прыціскаў,
К грудзі туліўся белай,
Глядзеў у вочы, уздыхаў,
І штось шэптаў нясьмела.
Сьлеза жывая за сьлязой
З маіх зрэніц сплывала,
Ў вадно мешалася з расой,
Што на пяску лежала.
А ночка пела з блескам зор
Нам сьмелы гымн кахання,
Сьмеяўся, плакаў сіні бор
Да самаго сьвітання.
І мілы выйшаў ад мяне,
Адзін пашоў к пагонцэ,
А ў сьлед за ім у цішыне
Ўзыходзіло ўжо сонцэ...

---

## З недацьветаў.

Зелянелі лагі,
Зацьвіталі сады,—
З маладою сваей
Я спаткаўся тады.

Вецер косы яе
Расплетаў, спавіваў,
Прыпадаў да грудзей,
Калыхаў, напеваў...
Абняліся мы з ёй,
Божым сном паплылі
Ў даль да сонца ў дваіх
Па зялёнай зямлі,
По квяцістым пуці
Паласой залатой
Ў даль да сонца ў дваіх
За адно з яснатой...
Пад агністай зарой,
Над сівым курганом
Заручаліся з ёй
Туманом і агнём...
Аж нязьменная ноч
Наплыла, аплела,
Непраходнай сьцяной
Паміж намі легла:
Маладую маю
Разлучылі са мной...
. . . . . . . . . .
Так разстаўся на век
Я с сваею Вясной.

---

## Ці ты чуеш?.

Ці ты чуеш, дзяўчынка,
Як трасецца хацінка,
Як ветрыска скаголе,
Шум нясе нейкі с поля?
Ці пачуўшы пазнала,
Што ўсё гэта нагнала
Табе ў сэрцэ су сьвета, —
Ці атчула ўсё гэта?..
Гэта восень заводзе,
Сьлёзы лье ў непагодзе

Над табой, нада мною,
Над нешчаснай зямлёю.
Не пужайся-ж ты крыкаў
Непагоды вялікай...
Нас Бог крыўдзе з людзямі,—
Восень плачэ над намі.

---

## С табою...

С табою спаткаліся ў лесе:
Багун і чарнобель к нам слаўся,
Сьмеяўся пушчар, а у сьмесе
За ценем цень новы снаваўся.

За намі, прад намі снавалі
Павучные, бледные цені,—
Мяне у палац зазывалі,
Цябе у сьвятые прадсені.

Сьвятая пасьцель небасхілу
Крывавай імглой заплывала,
Пасад заручальны магілай
Пуціна сьлепая хавала.

Пуціна была, мы і тую
Згубілі, як лепей—не зналі:
Ці маем шукаці старую,
Ці к новай блукаціся далей?

---

## Заручыны.

Далёкай, нялегкай сьцяганы хацьбой,
Пад хвойкай высокай мы селі с табой,
Як цар і царыца;
Шурпаты не жаты сох верас ля ног,
Спаў белы сплясьнелы пад шышкамі мох,
Над цёмнай крыніцай.

На суччa, плятучa, паўзла дзермеза,
Блішчэла нясьмела раса, як сьлеза,
На лісьцях лазовых;
Каронай зялёнай дзед-бор патрэсаў,
І шумам задумам законы пісаў
Ў негаданых словах.

Нам моўча, як ночай, мігцелі агні,
Падгалей міргалі абгніўшые пні,
Як варта на стражы,
І ціха суліхай сьцікалася цень,—
За горы, за моры атходзіў наш дзень,
Мінуты ўжо важыў.

Ўжо клаўся на часе мрок сумна нямы,
І поўнач на помач, палохаці сны,
Незначна падклікаў.
С-пад сосны выноснай ты ўстала, я ўстаў...
Над намі сукамі шум-бор хахатаў
Без памяці, дзіка...

---

## Доугажданная.

Ты прышла ка мне тады,
Як зьвінелі халады,
Як стагнаў яловы плот,
Хохлік бегаў ля варот.
І сагрэла ты мяне
Ў палуцьме, у палусьне;
Пані ты была, я—пан...
Посьле зноў зацьвіў курган.
Ад мяне пашла тады,
Падганялі халады,
Скрыпам выў яловы плот,
Хохлік бегаў ля варот.

---

# Ты прыдзі...

Ты прыдзі ка мне вясною,
Кветкаю прыдзі;
Зацьвіці красой са мною,
Думку разбудзі...

Ты прыдзі ка мне у летку,
Коласам прыдзі;
Песьняй жніўнай на палетку
Думку саладзі...

Ты прыдзі ка мне зімою
Сонейкам прыдзі;
Даўнай казкай залатою
Думку абудзі...

Ты прыдзі ка мне у восень,
Зоркаю прыдзі;
Ў сьвет далёкі с шумам сосен
Думку павядзі...

Ты прыдзі і на магілкі,
Кветкаю прыдзі;
Белай ручкай клён няхілкі
Шчыра пасадзі...

. . . . . . . . .

Ты прыдзі...

---

# Над рэкою ў спакою.

Над рэкою ў спакою,
Зацьвітала каліна;
У сяле за рэкою,
Вырастала дзяўчына.
Да залёнай каліны
Прылетала зязюля;
Да дзяўчыны-маліны
Удаваўся Януля.

Над рэкой, дзе каліна,
Сенажаць церабілі;
У сяле, дзе хлапчына,
У паход затрубілі.
    Перэстала каліна
    У цьвяточкі ўбірацца;
    Перэстала дзяўчына
    З ненаглядным стрэчацца.
Бедавала зязюля,
Што каліны не стала;
Бедавала матуля,
Што дзяўчына ўсыхала.
    Па рэцэ гналі хвалі
    Ў даль галіны каліны;
    Людзі ў рэчцы шукалі
    Самагубкі—дзяўчыны...
Над рэкою ў спакою
Зацьвіла зноў каліна,
А ў зямельцы пад ёю
Спала наша дзяўчына.

---

## Як у повесьці.

Шлях. Каля шляху лес хілкі.
Вёска, дзе лес, і магілкі;
    Ў вёсцэ—с сьвятліцай хаціна,
    Ў хаце—з бабуляй дзяўчына.

Там жэ паблізку стаяла
Гэткая-ж хатка без мала,—
    Хлопец у хаце жыў з дзедам,
    Быў тэй дзяўчыны суседам.

Звалі дзяўчыну Маланкай,
Хлопца, чуў, клікалі Янкай;
    Зналіся з малку абое,
    Зналі і сёе, і тое.

Кожны год, цёплай вясною
Ў поле шоў Янка с сахою;
Кужэль Маланка снавала,
Цэўкі сукала і ткала.

Ў летку клепаў хлопец коску,—
Шоў луг касіці за вёску;
Сена дзяўчына сушыла,
Ніўку жаць потым хадзіла.

Жыта ляшыў ён у восень,
Ці біў лучыну із сосен;
Шла яна бульбу капаці,
Ці лён чэсала у хаце.

Сані ён ладзіў зімою,
Ехаў, ці йшоў ў лес с пілою;
Часам яна ў лес хадзіла,
Ці на таку малаціла.

Далей, не так ужо далей:
Янку кудысьці пазвалі,
Там пасадзілі за штосьці,
Не атпусьцілі і ў госьці.

Болей яго я не бачыў;
Чуў, што ня вельмі там скачэ,—
Нешта капае, валочэ,
Ждучы ўсё сонейка ў ночы.

Ну, а дзяўчына?.. Э, што там!
Збаю калісь аб ёй потым...
Людзі-ж казалі, што Янка
Вельмі любіўся з Маланкай.

---

## Дзяўчынка і вянок.

Сонцэ ўтульна пагледало,
Птушкі пелі на ўсе тоны;
Кветкі дзéўчынка зрывала
Ля дубровы, ля зялёнай:

Заплетала у вяночэк,
Прымерала на галоўцэ;
Радасьць біла з яе вочэк:
Ей спрыялі кветкі, сонцэ.
Чуць вяночэк не гатовы—
Не хватала аднэй кветкі...
Вышоў хлопец с тэй дубровы,
Хлопец пекны, стройны гэткі.
У дваёчку ўжо шукаюць
Кветкі ў буйнай сенажаці,
Толькі, дзе найці, не знаюць...
Сталі, ў вочы загледаці.
Так хадзілі ўсё далінкай;
Сонцэ з імі ў сьлед хадзіло,
Аж вяночэк свой дзяўчынка
Недзе ў лузе загубіла.
Клопат... Бедная не знае,
Ці ей плакаць, ці сьмеяцца?
Кветкі ў прочках,—хлопца мае...
Надало-ж так паменяцца!
Ходзе, траўкі не зачэпе...
За вянок—дзяцюк прыгожы;
А што горэй? а што лепей?
Бабка на́-двае варожэ.

---

## Ястрэб.

Дзе го́луб з галубкай варкуе, сядзіць,
С-пад неба хмурліваго ястрэб ляціць,—
І кіпці запусьце ў галубку ён сьмела,
І выгрызе сэрцэ, і кроў высее с цела.

Дзе шчыра дзяўчынку дзяцюк палюбіў,—
Прышоў стары зводнік, дзяўчынку адбіў;
Як ястрэб з галубкай, так цешыцца ў волю,
Паганючы славу—дзявочую долю.

Нема ўжо галубкі, прыўныў галубок,
Сядзіць, не варкуе; як мёртвы, замоўк:

Па любай сваей у вялікай жалобе,
Чэкае, аж ястрэб і з ім тое зробе.

Нема ўжо дзяўчынкі; сум хлопца гняце,
У сэрцы глухі жаль, як рана, цьвіце;
Дзе пойдзе, дзе гляне, стогн рвецца напрасны:
Адзін ты, адзін, небарачэ нешчасны!

Галубкіны косьці разьвеяла бура,
К другой свае вочы стары зводнік жмурэ,
Галуб-жэ, дзяўчынка і хлопец, як дзеці,
Бядуюць, што ястрэбаў шмат так на сьвеце.

---

# Хмарка і Маладзік.

Над задумаю ніў
Маладзік бледны плыў,
Дзіваваўся з жыцьця,
Што ў нізу без пуцьця
Спало сном нежывым.
Хмарка свой бледны лік,
Дзе лунаў маладзік,
Ціхавейна ўзняла,
Шопат-рэч павела
Так с суседам сваім:
— Маладзенькі ты мой,
Абніміся са мной,—
Паплывём, паляцім,
Каб было абаім
Вольна, весела нам!
Будзем цені снаваць,
Бледнатой спавіваць
Мёртва-сьпячну зямлю,
З ёй заводзіць гульню—
Сеяць сум тут і там.
З вутлых сетак, як цін,
Я сплелася с краплін,
І мяне—сірату,
Як плыву ў высату,
Страшыць сонцэ не раз.

А ты лепшай душы,
Жаль ка мне акажы;
Буду цешыць цябе
Я ва ўсякай журбе,—
Дык прымі ў добры час...
Маладзік звесялеў,
Падмігнуў ціха ей:
—Маладая мая,
Выгледаў цябе я
Ўжо даўно ў вышыне.
Я тут—сам—адзінок,
Якбы той каласок,
А ты, хмарка-імгла,
Мне нуду развела,—
Прытуліся-ж ка мне...
Ты—царыца, я цар...
На зямлі молад, стар
З-пад наплеценых пут
Нам завідаваць тут
Будзе з века у век.
Мы і ночкай, і днём
То ўсплывём, то сплывём
Вольна так, згодна так,
І ўжо волі ніяк
Не дадзім мы на зьдзек.

. . . . . . . . . . . . . .

Абняліся яны,
Як вясенніе сны,
І гуляюць адны
Ад вясны да вясны
На сум вечны людзям.
Цені-сеткі снуюць,
Песьню-змову пяюць:
—Паплывём, паляцім,
Каб было абаім
Вольна, весела нам!..

## Русалка.

Дайце галінку, дайце павесіцца
Гэтай русалцэ, гэтай дзяўчыне!..
Вы яе гналі, вы яе мучылі,
Дайце-ж хоць сьцежку беднай к галіне!
Дайце, як сьледна, з ветрам нацешыцца
Вольна, прывольна ў тайнай мясьціне;
Стуль, каб ей болей не надакучылі,
Скочэ з галіны, скрыецца ў ціне.
Ў ціне, як бледны месяц засьвеціцца,
Будзе русалка плаваць, круціцца;
К ёй вадзянік там зблізіцца сватацца,
Выйдзе і сядзе з ёй над крыніцай.
І лесавік к ім выпаўзе братацца
С пушчы махнатай, сам весь кудлаты,
Шлюб неразлучны дасьць ім малодзенькім;
Зграе вясельле вецер крылаты.
Пойдзе гульня ў іх мёдам салодзенькім,
Развеселяцца, чары завесюць;
Вецер, лясун, русалка з вадзяннікам,
Пушча, крыніца, ночка і месяц
Казку аставюць дзіўную згнаннікам,
Страх баязьлівым кожны з іх кіне;
Сум маўчалівы там раскудзесіцца,
Песьню аб гэтай зложыць мясьціне.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Дайце-ж галінку, дайце павесіцца
Гэтай русалцэ, гэтай дзяўчыне!..

## IV. Наша вёска.

1.

Горы ды каменя,
Вузкіе палоскі:
Гэта нашэ поле,
Поле нашай вёскі.

Курные ваконцы—
Сьвету каб хоць трошкі:
Гэта нашы хаты,
Хаты нашай вёскі.

Лапці ды сермягі—
Як абраз ня боскі:
Гэта нашы людзі,
Людзі нашай вёскі.

Ка́рчмы ды вастрогі,
Крыжыкі, бярозкі:
Гэта наша доля,
Доля нашай вёскі.

2.

Вёска, о ціхая вёска мая,
Колькі ты зносіш нешчасьцеў,
Колькі бед зносіць сямейка твая,
Колькі дарэмных напасьці!

Цёмные ночы абселі цябе,
Скрылі дарожкі-пуціны,
Марная ўрода па ўсякай сяўбе,
Крывы, убогі хаціны.
Летам труд цяжкі, хваробы ў зіму;
Родзіць магіла магілу;
С сьвечкай прайдзі, страсяні старану:
Смокчэ бязхлебіца сілы.
Мучышся, вёска, непраўдай старой...
Рукі працягнеш з надзеяй:
Небо заплачэ халоднай слатой,
Вецер уздохі разьвее.
Вецер і моц, знаць, табе прынясе
С песьняй магучай, як воля,
Што перастоіш палацы ты ўсе,
Станеш да бою з нядолей.

3.

Там, за лесам-борам
На апецэ боскай,
Як нядолі сьведка,
Села наша вёска.
Ей німа спачынку,
Ей німа пацехі,
Крышэ, ломе вецер
І платы, і стрэхі.
А хоць і неўдала
Выгледаюць хаты,
Ходзюць к ёй у госьці
Бедны і багаты.
І ўсё-б чыста з вёскі,
Што маглі, забралі,
А што-ж далі вёсцэ?
Гэй! скажы, што далі?
Далі тую долю,
Што ўсе праклінаюць,
Далі тую волю,
Што ў яволі маюць...

# Мужык. *)

Што я мужык, усе тут знаюць,
І як ёсьць гэты сьвет вялік,
З мяне сьмяюцца, пагарджаюць, —
Бо я мужык, дурны мужык.
Чытаць, пісаць я ня умею,
Ня ходзе гладка мой язык,
Бо толькі вечна ару, сею,—
Бо я мужык, дурны мужык.
Бо с працы хлеб свой дабываю,
Бо зношу лаянку і крык,
І сьвята рэдка калі знаю,—
Бо я мужык, дурны мужык.
Галеюць дзеці век бяз хлеба,
Падзёрты жончын чэравік,
Не маю грошы на патрэбу,—
Бо я мужык, дурны мужык.
Заліты потам горкім вочы;
Ці я малы, ці я старык,—
Працую, як той вол рабочы,—
Бо я мужык, дурны мужык.
Як хвор ды бедзен—сам бяруся
Лячыць сябе: я чараўнік!
Бо я бяз доктара лячуся,—
Бо я мужык, дурны мужык.
Што голы я, павінен згінуць,
Як той у лесе чэшчавік,
І, як сабака, сьвет пакінуць,—
Бо я мужык, дурны мужык,
Але, хоць колькі жыць тут буду,
Як будзе век тут мой вялік,
Ніколі, братцы, не забуду,
Што чэлавек я, хоць мужык.

---

*) Верш гэты быў надрукованы ў мінскай рассейскай газэце «Сѣверо-Западный Край». 15/V 1905 г. № 746. Гэта першы мой выступ у Беларускай літэратуры. *Аўтар.*

І кожны, хто мяне спытае,
Пачуе толькі адзін крык,
Што хоць мной кожны пагарджае,
Я буду жыць!—бо я мужык!

---

## Аб мужыцкай долі.

1.

Дайце скрыпку мне маю,
Дайце мне мой смык!
Я зайграю, запяю,
Як жыве мужык.
Глянь: вялікае сяло—
Ветрам хоць разьвей,
Завяло-ж там, завяло
Бяздолле людзей!
Бачыш, быццам чэлавек,
Векам малады:
Сьлёзы лезуць с-пад павек,
Гнецца ад бяды.
Сіла згублена ў палёх,
Сышла ні за грош,
Дыхавіца у грудзёх,
У каленях дрож.
Колькі слава і рука
За жыцьцё цярпіць!
Адно доля бедака
Сном вячыстым сьпіць.
За ўсю працу, за ўвесь труд,
Зьвярнуцца к каму?
Камень голы там і тут
Платаю яму.
Летам выаздабе ў пот
Мачыху—зямлю,—
Ў восень схопе недарод
За работу ўсю.

Зімой—холадам с сямьёй
Воўкам завядзе,
На паліцу зуб вясной
З голаду кладзе.
Так ідзе за годам год,
І не паглядзіш—
Ачапіў Мікіту звод,
Лёг пад белы крыж.

2.

Кепска жыці! дый што зробіш?
Цярпець мусіш, як нібудзь,
Грош заробіш, два праробіш,
Кроў, пот, сьлёзы век цякуць.
Нема ботаў—лапці носіш,
Абы толькі стала лык;
Штось украдзеш, штось заробіш,
Вось і сыт я, гад, мужык.
У тры пагібелі гну сьпіну
Перад тым, хто ссе мой пот;
Скажэш праўду: як скаціну,
Цябе злаюць на ўвесь род.
Цэлы век без перарыву
Гараваў, рэкой пот цёк,
І вось, дайцеся ўсе дзіву—
Я ад беднасьці ня ўцёк.
Голы, босы хадзіў дзіцем,—
Цяпер стар, і ўсё-ж ня ўскрос:
Паглядзіце, пасудзіце—
Я так сама гол і бос.
Скора с чэрвямі сам-на-сам
Сьмерць папрэ жыць бедака,
Вы-ж ці глянулі хто часам
На магілу мужыка?
Варта глянуць: крыж яловы
Пахіліўся, мхом аброс;
Насып, знаць, калісь дзярновы,
Дажджавы ручэй разнёс.

Замест ружаў, георгіняў—
Крапіва, лаза, палын,
А пад імі, ў дамавіне
Ляжу я—нядолі сын.
Спачываю пазабыты
І чужымі, і сваймі...
О, цяпер адзет і сыты!
Жыў з зямлі і сьпі ў зямлі.
Над мной восенню слатлівай
Ды зімоваю парой
Гудзіць вецер жаласьліва
Песьняй гораснай такой.
Вецер сьвішчэ, вецер стогне,
Жальбы шле ў выцьці дзіком;—
Можэ сэрце чыё дрогне
І ўздыхне над мужыком.

3.

Сагнуўшы плечы ў крук,
Араў зямлю Паўлюк,
Як чорны вол варочаў,
А з дня ў дзень, з году ў год
За плот шоў ўвесь прыплод,
Сам днём блудзіў, як ночай.
Так вышла ўся моц з жыл,—
Араць не стала сіл,
Настаў канец дакукі...
С касою сьмерць прышла,
С сабой весьць прынесла:
Пара складаці рукі!
Ўзяў шлюб з зямлёй Паўлюк,
Ня гне ўжо плечы ў крук,
Быдлём ня чэзьне болей.
Памёр, і не спазнаў,
Што на чужых араў
Ўвесь век чужое поле.

4.

За сахой, бараной,
За сярпом і касой
З дня на дзень, з году ў год
Сьлёзы, пот лье народ,
А за гэта за ўсё
Што-ж дабыў за жыцьцё?
Гэй, го-го! Гэй, го-го!
Мы жывём і пяём,
Хлеб наш людзі ядуць,
Мы-ж мякіну жуём!..

С тапаром і пілой
Маразянай зімой
З дня на дзень, з году ў год
Шуркі ставіць народ,
А за гэта за ўсё
Што-ж дабыў за жыцьцё?
Гэй, го-го! Гэй, го-го!
Мы жывём і пяём,
Агрэваем другіх,
Самі холад клянём!..

На палац, на пакой
На сьпіне, на худой
З дня на дзень, з году ў год
Бэлькі носіць народ,
А за гэта за ўсё
Што здабыў за жыцьцё?
Гэй, го-го! Гэй, го-го!
Мы жывём і пяём,
Домы ставім людзям,
Самі мром пад вуглом!..

5.

Як выйду за хату
На траву-лагі,
А што-ж касіць буду,
Божэ дарагі?

Ой, лю-лі, лю-лі,
Што-ж буду касіць?..
Туды-сюды, сям-там—
Сьмех казаці людзям:
Сівец, аер, купьё,—
Вось і ўсё, вось і ўсё!

*

Як выйду за хату,
Дзе дабро—шнурок,
А што буду жаць я,
Зьбіраць, весьці ў ток?
Ой, лю-лі, лю-лі,
Што-ж буду зьбіраць?
Туды-сюды, сям-там—
Сьмех казаці людзям:
Мятлу, гірсу, званец,—
Вось і ўсё, і канец!

*

Як выйду за хату,
Бор шуміць, пяе...
А што-ж буду сеч я,
Дзе хвойкі мае?
Ой лю-лі, лю-лі,
Дзе дровы, бярно?
Туды-сюды, сям-там—
Сьмех казаці людзям:
Лаза, корчык, гнільлё,—
Вось і ўсё, вось і ўсё!

*

Як выйду за хату,
Дарога ідзе,
А куды-ж, кудою
Мяне павядзе?
Ой, лю-лі, лю-лі,
Куды-ж завядзе?
Туды-сюды, сям-там,—
Сьмех казаці людзям:
У вастрог, у карчму,—
Вось і ўсё ўсяму!..

6.

Эх, дзяцюк, хама ўнук,
Сын бяды і працы,
Чаго прэш, як сьляпы,
Ў панскіе палацы?
Ці там сват, ці камрат,
Ці брат, ці сястрычка?
Ці цябе вабе там
Панна-белалічка?
Ці табе па арбе,
Трудах потам злітых,
Весялей, шчасьлівей
Між паноў, між сытых?
А мо дзе на куце
Разам там саджаюць,
І віном дарагім
Частуюць, прымаюць?..
Эх, Арцём! ня твой дом—
Панскіе парогі,
Не твае там дружкі,
Мой ты браце ўбогі.
Бач, стаіш і дрыжыш
С шапкаю ў парозе
Вось якраз, як зімой
З дрэвам на марозе.
А во, глянь, лепей стань,
Кланяйся здалёку:
К табе аж пад парог
Нясе чарку лёкай.
Трэба піць, закусіць
Недаежай панскай,
У руку цмакануць
За прывет, за ласку.
А вун дзе панна йдзе,—
Якіе, ах, шаты!
Што глядзіш?—у яе
Ёсьць паніч багаты.
Як там ёсьць, ты ўсё-ж госьць,—
Думай і аб хаце...

Вось собак дворных дзе
Не спаткай, мой браце.
Ну, пайшоў ты дамоў
Не зва́ны, не сланы,
Са сьлязой пад брывёй,
Ня сыты, не пьяны.
Знаць, не так, небарак,
Думаў разгасьціцца:
За сталом з багачом
Піці, весяліцца.
Што-ж рабіць? трэба жыць...
Слухай долі-маткі,
І паном не хлюсьці,
Пільнуй сваей хаткі.
Цемнаце, беднаце
Палац не стаўляўся:
Не такі ў ім народ,
Каб на рэчы знаўся.
Вер, ня вер, як ня мер,
Мой гаротны браце,—
Дзе радзіўся, дзе ўзрос—
Трэба і ўміраці.

7.

Сажэнь шырынёю
Надзельны шнурок...
Пустыня, бяз гною,
Каменьня, пясок...
Пад сьнегам адпрэла
Жытцо за зіму;
Прыхваціла, зьела
Сьпека ярыну.
Бульба—як арэхі,
Як цьвек—бурачок...
— Вось скарбы, пацехі
Твае, мужычок!
Багаты будзь з нівы,
Ўвесь чынш заплаці;
Будзь весял, шчасьлівы,
Ня пій, не крадзі!

Жый згодна з усімі
І Бога хвалі,
Не крычы з другімі:
«Свабоды! Зямлі!»

8.

На што хлеб, на што багаце,
Калі нам мякіны хваце?
На што боты, чаравікі,
Калі ёсць лаза і лыкі?
На што век зямлі хацеці?
Памром—сажэнь будзем меці!
На што новые нам хаты?
Казна, двор і так багаты.
На што сьвет навукі шчаснай,
Калі сьлёзы сьвецяць ясна?
На што лек на гора больки,
Калі маем манапалькі?
На што знаці ўсяго многа?
І так трапім да вастрога!..

---

## На прадвесьні.

...І сівер ледзь хаткі ня зьверне,
І сьнегу ані не ўбывае,
А тут у сьвіронку—ні зерня,
Апошняя бульба ўцекае!—
  І сена німа ад Грамніцаў,
  Саломкі тэй зараз не хваце;
  Кабылка падбегчы баіцца,
  Кароўка ня хочэ ўставаці.
Даведаўся ў двор і да сына—
Ня служцэ куток свой карміці!
І больш не даюць з магазына,
Німа дзе рубля зарабіці...
  Ня лёгка на сэрцы, ня лёгка!
  Дум чорных ня збыцца дзень цэлы...
  А так ешчэ траўка далёка,
  Калі-ж і той колас насьпелы?!

---

## Аратаму.

Ну, годзе ўжо спаці! глянь: сьветла ўжо ў хаці,
Весна заглядае ў вакно;
Ўжо птушка сьвяргочэ, ўжо лісьцік шапочэ,
Цябе «шнур» чэкае даўно.

Хай сошка крывая, кабылка худая
І ты сам крывы і худы
Пацягнуцца ў поле, на тое прывольле,
На тые прадзедаў сьляды.

Ты—пан, ты—багаты, ты—сіла, араты!
Ты ў крыўду ня даўся-б другім:
Знай, шмат каму трэба с тваей працы хлеба,
Дый сам ты галодзен саўсім...

Дык выпрамся-ж крошку, дый жыва за сошку,
Ды ў поле—к вялікай арбе!
Бач, можэ і долю ў няўродлівым полю
Ты выарэш, братка, сабе...

Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі—
Любі сваю ніву, свой край,
І, колькі ёсць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засевай!..

## Араты.

Цягнецца араты
За сахой крывой;
Конік сьлепаваты
Трасе галавой.
Бражджыць, скачэ сошка
То на пень, то с пня...
Цяжэнькая ношка,
Араты, твая!

Стаў с трудоў гарбаты,
Хоць ешчэ не стар,
Падбел пабіў пяты,
Загарэў ўвесь твар.
І ногі, і рукі
Крывые дрыжаць;
З якой, ах, прынукі
Мусіш гарэваць?
Што цябе ганяе
Так трудзіцца век:
Ці доля такая,
Ці зьвер-чэлавек?
Ну, ідзі, араты,
Гэй, далей ідзі!
Шнурок вускаваты
Ары, не глядзі.
Ў сыру зе́млю прутка
Сошку закладай,
Каня пугай хутка
Гані, паганяй.
Скібіну ў скібіну,
Загон у загон,
Вылі дзесяціну,
Не лічы варон!
За кожным зваротам
Баразну ральлі
Палівай ты потам,
Сьлязіной палі.
Змогся. Час прысесьці,
Аддыхнуць, дружок...
Нясе жонка есьці
Цэлы спарышок.
Ну што, баба, гэта
Хлеба не нясеш?..
Ці-ж на то ўсё лета
Араты, арэш?
Ці-ж на тое трэба
Ліці табе пот,
Каб есьці бяз хлеба
Лебяду, асот?

Ці-ж на тое ў полі,
Хоць душой замры,
Бьешся без патолі
З зары да зары?
Доля твая, доля!
Дзе-ж яна расла?
На чыстае поле
Хіба уцекла!
Ой, ты, мой араты,
Хмары ты хмурней;
С цябе сьвет багаты,
Ты-ж усіх бядней...

---

## Касцом.

Дзе вы, брацьця ўдальцы, дзе вы, хлопцы-касцы?
Гэй, дакуль на вас трэба чэкаць?
Час вам косы клепаць, час вам на сенажаць—
Час вам сілу сваю паказаць!

Пакуль згіне раса, хай засьвішчэ каса,
Нехай вале ў пракосы траву;
Нехай прыдзе канец на сівец, на званец,—
Хай пазнаюць усе грамаду!

Сонцэ паліць агнём, пот ліецца цурком...
Гэй, прывыклі да гэтаго вы!
Як вы толькі ўзраслі, к працы цяжкай ішлі,
І ніхто не жалеў вас ані!

Пот ліецца цурком,—абмахні рукавом
Дый касой замахай весялей,
І з упаўшай грудзі песьню сьлёз завядзі,
Песьню родную долі сваей!

Песьню пей і касі, пакуль ясные дні,
Пакуль хмараў на небе німа;
Земля, плуг і каса—гэта наша краса,
Гэта наша пацеха адна!..

---

# На сенажацi.

Чуць на небе зара
Занiмаецца,
Ў курнай хаце мужык
Падымаецца,
Цягне сьвiтку с пала
Прапацелую,
Цягне лапцi с калка
Скарчанелые.
I касу ён бярэ
Атклепаную,
I жэрствянку нясе
Дзераўляную.
Так на луг ён iдзе
Свой някошэны,
С песьняй топiць касу
Ў траве зрошэнай.
Яго сiлу ў касьбе
Вiдаць моцную,
Дый у песьнi сьлязу
Чуць гаротнаго...

---

# За касой.

Кожны раз, як жывой муравой-дыванам
Лето высьцеле луг, сенажаць,—
Косы сьвiшчуць, зьвiняць над рэкой за сялом,
За касой касцоў песьнi чуваць.

Ясна косы блiшчаць у цьвiтучай расе,
Высьцiлаюць пракос у пракос;
Песьнi з ветрам шумяць, пушча вотклiк нясе,—
Пушча слухае песень i кос.

Шле яна свой атказ ад капцоў да капцоў,
Зaмiраючы ў вечнай жальбе:
Цi даждуся калi кос i песень касцоў
На другой, на вялiкай касьбе?..

---

## Зажынкі.

Натачы, кавалёк,
Вострым-востра сярпок,
Атпусьці, назубі, загартуй;
І ляшчынкі кусок
Атпілуй, кавалёк,
Нову ручку вазьмі дарыхтуй.
Насьпяліўся шнурок,
Бье паклон каласок,
Спаважнеў, пасівеў, шэлясьціць.
Пойдзе ходам сярпок,
Туды-сюды, скок-скок!
За сяло пабяжыць, пабяжыць.
Страшыў ніўку грамок,
Сухата і дажджок;
Птушка колас ляцела клеваць;
Шлі заломы, урок,—
Не збаяўся хлябок!—
Памажы, Божэ, толькі зажаць!
Ляжэ сноп у снапок,
Стане мэтлік, крыжок,
Не акіне і песьня шнурка!..
Будзе рад бедачок,
Звозіць скарб у тачок,—
Вось яна с мазалямі рука!

---

## Жнеям.

Красаваў, наліваўся
І дасьпеў шнур мужычы;
Час вам, жнейкі, на бітву!
«Постаць» клічэ, ой, клічэ.
Сонцэ ўзойдзе і зайдзе,
Не кідае зямелькі,
Правядзе і спаткае
Ў поле, с поля вас, жнейкі.

Выйшлі с хатак за вёску,
Гнуцца бедные ў полі,
Толькі песьню чуваці
Іхней долі-нядолі.

Жніце, жніце, галубкі,
Сваю радасьць і сьлёзы!
Трэба многа нажаці,
Прыдзе зімка, марозы:

К тэй прытуліцца братка,
К тэй маленькі сынулька,
А ўсё хлеба, ой, хлеба
Дай, сястрыца, матулька!

Ходзюць хмары па небе
З нейкай дзіўнай трывогай;
Чутна жнейніна песьня,
Нуды ў песьні тэй многа.

Хто злічыў тые каплі,
Што нам неба прыносе?
Хто прыслухаўся, людзі,
Аб чым жнейка галосе?!..

---

## Жніво.

Годзе, жытцо маё, годзе, насьпелае,
З хмарамі, з бурамі знацца, дружыць;
Годзе шумеці думкі нясьмелые,
Годзе загоны сабой харашыць!

Жнеяў прышла во дружына вялікая,
С песьняй за дзела ўзялася сваё;
Серп, як маланка, ўскок бегае, сыкае,
Глуха снапамі кладзецца жытцо.

Сталі ў калючым аржонні с павагаю
Мэтлікі шнурам адзін за адным;
Сэрцэ забілось надзеі адвагаю:
Ёсьць на што глянуць, пацешыцца чым.

Эх, заплаці-ж, дабрыцо, ты аратаму
За яго ў полі ўвесь труд над табой:

Дай ты багацьце яму небагатаму—
    С клеці ня зводзься ягонай пустой.

Хай яго збудуцца думкі, адналечэ
    Гэтулькі вынясе, выцярпе ён,
З году у год аручы, засеваючы,
    Потам, крывёю абліты загон!..

---

## Песьня жнеяў.

Бор наш высокі над усе бары,
Двор наш багаты над усе двары,
Шнур наш вузенькі над усе шнуры,—
Коціцца, ўецца ў гару, то з гары.
    Гэй, гэй, жнейкі, не дрэмаць!
    Час сярпы зубіць і жаць.

Дворны палетак з канца у канец
Пройдзе схаваўшысь высок маладзец;
Шнур наш хаваецца ў гірсу, ў званец,
Злічэ калосься найменьшы хлапéц.
    Гэй, гэй, жнейкі, не дрэмаць!
    Час сярпы зубіць і жаць.

Шнур і палетак мужыцкай рукой
Выаран гладка, засеян парой,
Скроплен—каб лепей рос—жуткай расой:
Потам мужычым, крывёй і сьлязой.
    Гэй, гэй, жнейкі, не дрэмаць!
    Час сярпы зубіць і жаць.

Скора мы, жнейкі, шнурок свой дажнём,
Панскі палетак тады жаць пайдзём;
Гойна заплацюць там нам медзяком,
Мы на дажынкі вянок ім спляцём.
    Гэй, гэй, жнейкі, не дрэмаць!
    Час сярпы зубіць і жаць.

Водкі к дажынкам ня будзе не хват;
Песьню сьпяём мы ўсе пану ў падрад:

Будзь нам багат, панок, будзь весел, рад,
З лета у лета будзь сыт і багат.
Гэй, гэй, жнейкі, не дрэмаць!
Час сярпы зубіць і жаць.

---

# Над ніваю ў непагоду.

1.

Постаць незжатая слотамі гноіцца,
Птушкай цярэбіцца, ветрам малоціцца,
Колас сагнуўся, зьмешаўся з гразёй;
Зжатые снопікі ў мэтлях валяюцца,
Віхрам зрываюцца, зерне зрастаецца...
Як-жэ ты, шнур наш, глядзіш сіратой!

Столькі і працы, і поту загнанымі
Уложэна ў ніву скупую селянамі,
Столькі пашло уздыхання, мальбы!
Гляньце—усё нішчыцца злой непагодаю,
Небо не зжаліцца над зямлі ўродаю,
Небо ня чуе ні скарг, ні кляцьбы.

Сэрцэ забытых крывёй абліваецца,
Доля нешчаснаго ў полі бадзяецца,
Рады з нікуль не відаць і нічуць;
Думы ўзьнімаюцца, думы маркотные:
Што бедакі, хлебаробы гаротные
Холадам, голадам зімнім пачнуць?

Белай пялёнкаю сьнег разлегаецца,
З гікам мяцеліца дзіка ўздымаецца,
У сьцены бязлітасна валіць мароз...
Дзе тут схавацiся, дзе прытуліціся?
Дзе на кусок хлеба ў стужу разжыціся?
Божэ!.. а сьлёз тых, о колькі тых сьлёз!..

---

2.

І чаго-ж, непагода сьлязлівая,
Непрасьветна вісіш над зямлёй?
Што ўрадзіла нам ніва убогая,
І таго не сабраць за табой!
    У пракосе, ў капе, дый няскошэна
    І стаіць, і гніе сенажаць;
    І ў снапах, і незжатым бадзяецца
    Дабро ў полі, аж сьлёз не стрымаць.
І ня хочэш ты гору мужычаму
Спагадаць, непагода, ані;
Не глядзіш, як ён будзе праводзіці
З дзяцьмі, з жонкай зімовые дні...
    Што пачне ён, бедак, як разсьцеліцца
    Белы сьнег на дварэ, на страсе?
    Чым сямейку карміць яму прыдзецца,
    І трасянкі с чаго натрасе?
Дзіцё плакаці будзё галоднае,
Будзе ў хлеве кароўка рыкаць,
Будзе сам ён стагнаць, а мяцеліца
Будзе выць, будзе ўсім падцінаць.

---

## Прышла восень...

Прышла восень, мужычок,
    Ой, прышла!
Глянь, што ў пуню і тачок
    Прынесла.
Працаваў ты, працаваў
    Круглы год,
Разліваў ты, разліваў
    Кроў і пот,—
Нарадзіў-жэ малайца
    Труд вялік:
Налажыў куток сенца
    Наш мужык.
Злажыў торпамі ў таку
    Скарб—снапы:

Акалоту у кутку
С поўкапы;
С копку грэчкі і аўса
Ў другі кут.
Вось і плата табе ўся
За твой труд.
Ідзі ў ток, ідзі да дня
Цэпам бі,
І кароўку і каня
Накармі;
Адбяры, што ўзяў вясной,
Ў магазын,
Насып мех ты збажыной,
Вязі ў млын...
Прышла восень, мужычок,
Ой, прышла!
Глянь, што ў пуню і тачок
Прынесла.

---

## Зімовая ноч.

Каля зоркі зорка
Ў ніз глядзіць, мігціць;
Каля горкі горка
Сьнегам зіхаціць.
На гасьцінцы скрогат,
На прысадах інь,
Чутна воўчы рогат...
Глуш, дзе вокам кінь.
Цягнецца каняжка,
Сані—за канём;
Янка пад сермяжкай
На санях клубком.
Сіверна, марозна,
Забірае дрож,
Пырхае трывожна
Толькі жыў гнядош.
Небо залаціцца,
Пад санямі шум;

Многа Янцэ сьніцца
Ў гэту ночку дум...
Аб спакойнай вёсьцэ,
Аб кутку сваім,
Аб вясьне, аб сонцы,
Аб жыцьці другім.
Міла ў думках брэдзе,
Цешыцца праз сон,
Але ці даедзе?
Ці даедзе ён?..

---

# З і м а.

## 1.

На марозе, на мяцеліцы
Прынёс сівер зіму срогую;
Людцы песьняй не вяселюцца,
Ў хаты крыюцца с трывогаю.
Ўсё замёрзла пад пялёнкаю
Сьнегу белага, халоднага;
Страх мець холад над старонкаю
Для убогага, галоднага.
Не плач, бедны, сьлязой горкаю!
Да вясны трэба памучыцца:
Ўзойдзе доля новай зоркаю,
І нешчасным папець лучыцца.
Мей надзею ў сэрцы ясную,
Што ня век зіма паношыцца,
І без жальб, што шлеш напрасные,
Сьлёзы высахнуць па крошаццэ.

## 2.

Белы стрэхі, бела поле;
Змоўкла птушэк сакатанне.
Гайда, Янка! Вось раздольле!
Кінь калёсы—выстрай сані!

Заскакаў мароз па сьценах,
Віхры ў коміне галосяць;
Дроў у хаце ні палена,
Дзеці, жонка есьці просяць...
Не пужайся гэткіх хмураў:
Шмат у горад шурак трэба;
Хай-жэ дрогне лес пануры,—
Папрасі сякерай хлеба!
Гайда, жыва! Што ня ў меру
Там трасешся, як у трасцы?
Насталі сваю сякеру,
Хай у пушчы стук раздасца!..
Ты худы, кабылка худа—
Хвойку вывезлі, аж міла!
Даказалі такі цуду:
Конь, мужык на сьвеце—сіла!

---

## Хто ты гэткі?

Хто ты гэткі?
— Свой, тутэйшы.
Чаго хочэш?
— Долі лепшай.
Якой долі?
— Хлеба, солі.
А што болей?
— Зямлі, волі.
Дзе радзіўся?
— Ў сваей вёсцэ.
Дзе хрысьціўся?
— Пры дарожцэ.
Чым асьвенчан?
— Кроўю, потам.
Чым быць хочэш?
— Ня быць скотам...

---

## Ці-ж гэта многа?!..

Ат сьвету, ад Бога
Жадаю нямнога!—
Зямелькі з валоку,
К ёй шнур неўдалёку,
С сьвятлічкай хацінку,
За жонку дзяўчынку,
Кусок салца к хлебу,
Рубля на патрэбу,
Здароўя чым болей,
Крыху долі, волі—
І ўсё! больш нічога...
Ну, ці-ж гэта многа?!..

---

* * *

Праз што плачэш, мужычок?
— Праз людзей і неба.
Чаго хочэш, мужычок?
— Трохі солі, хлеба.
Калі шчасліў, мужычок?
— Як водкі напьюся.
Калі грозен, мужычок?
— Як з жонкаю бьюся.
Праз каго сыт, мужычок?
— Праз свой труд і сілу.
А ня крыўдзяць калі ця?
— Як лягу ў магілу.

---

## Песьня сіроткі.

Трэба мне, сіротцэ, доля,
Ой, трэба:
Німа хаткі, німа поля
І хлеба.

На тым сьвеце бацька, маці,
  Ў магіле,—
Сама я запрацаваці
  Ня ў сіле.
Хто-ж адзецца, пракарміцца
  Паможэ?
Дзе падзецца, прытуліцца,
  Мой Божэ?
Пайду к дрэўцу прытулюся,
  Заплачу;
К зоркам думкай памалюся
  Бедачай.
Пашлю скаргу, хай нясецца
  За морэ,
Як мне цяжэнька жывецца,
  Гаворэ.
Мо' ня льюць там сьлёз напрасна
  Паводкай,
Маюць літасьць над нешчаснай
  Сіроткай.
Стогне бор, віхры зрываюць
  Плёт с стрэхаў,—
Мае жальбы заміраюць
  Бяз рэха...

---

## Былі ў бацькі тры сыны...

Былі ў бацькі тры сыны,
Ды ўсе-ж яны Васілі.
  Адзін служыць у дварэ,
  Поле панскае арэ;
Другі стражнікам з іх стаў,
Куляй, шабляй засьвістаў;
  Трэці згінуў у баю
  За свабоду і зямлю.
Бацька ў вёсцэ сваей сьпіць,
І дуда пры ім ляжыць;
  Ён часамі дзьме ў яе,
  Песьню нудную пяе:

Ой, ты, дудка, ой дуда!
Беда жыці мне, беда!
Не вяселіш ты мяне
Ў маей беднай старане.

---

## С песень беззямельнага.

1.

Ніваў загоны,
Лес, сенажатка,
Садзік зялёны
І гэта хатка—
Не нашы, братка...
Сёлета гэтта
Выарэм гладка,
Далей на лета
Чуць-чуць з апраткай
Цягнемся, братка.
Потам абліта
Ніва і градка,
Наша рунь жыта,
Дый сенажатка—
Панскіе, братка.
А хоць нам трэба,
Так, неспагадка,
Мець кусок хлеба,—
Вер, будзе сьвятка
І ў нас, мой братка!
Пройдзе, як вейка,
Крыўда і звадка,
Будзе зямелька,
Будзе і хатка
—Ў магілцэ, братка!....

2.

Як спынуўся я за хатай,
Як пашоў,—
Ні прыстанішча, ні сьвята
Не знайшоў.

Сьвецяць зоры дабрадзейна,
Зіхацяць,—
Маей толькі беззямельнай
Не відаць.
Я з рукамі позна, рана
К сім і тым:
І к сваёму, і да пана,—
Служу ўсім;
І ару, і барaную,
Засяю,
На ўрадлівасць-жэ гляджу я
Не сваю!
Пастыр стада ў поле гоніць
І пяе;
Дзе-ж кароўкі, валы, коні,
Дзе мае?
Ці на небе—хмары тые,
Ці ў вадзе?
І сюды я, і туды я—
Ой, нідзе!
За кусок той хлеба чорны
Ты аддай
Сілу, думкі,—будзь пакорны
І чэкай!..
Нямой рыбай аб лёд біўся
Век вяком,
І ў магілку паваліся
Бедаком.
Вецер енчыць, сьвішчэ ў полі,
Вольна дзьме,
Кляне, моліцца ў нядолі
За мяне.
Ходзяць хмары чарадою
Над зямлёй,
Плачуць, плачуць нада мною
Сіратой....

3.

Што за шчасьце, што за доля,
Мой Божэ!

Ані хаткі, ані поля,
Ні збожа!..
Па чужых кутох бадзяцца
Век трэба,
І гавець, і адгаўляцца
Бяз хлеба.
Гінуць сілы над чужою
Работай,
Заліваешся сьлязою
З ахвотай.
Ці тут пьяўкі, ці тут людзі
—Хто зьведаў?—
Адно ўнуку сохнуць грудзі,
Як дзеду.
Жывеш, мучышся бяз толку,
Бяз волі,
Хоць жывы лезь у дамоўку
З нядолі.
Пайду к пушчы загукаю
Да зоркаў,
Як мне ў бедным родным краю
Жыць горка...
Што за шчасьце, што за доля,
Мой Божэ!
Ані хаткі, ані поля,
Ні збожа...

4.

Растапіліс гурбы
Зачарнелі скібы,—
Гайда, беззямельнік!
Пашукай сялібы!
Шмат зямлі на сьвеце,
Шмат на сьвеце хатак,—
Толькі беззямельных
Мінуў гэты датак...
Скідае куточэк,
Азерняціць поле,—
Бач, пагналі далей,
Гоняць без патолі!

Пхнецца беззямельнік,
Стогне, уздыхае;—
Патпекае сонцэ,
Дожджык палівае.
Вецярок калышэ,
Як галінку тую,
Песеньку заводзе,
Як жыцьцё, старую...
Не ўздыхай, мой родны!
Нойдзеш,—прыдзе сьвята:
Слаўным, роўным станеш
З бедным і багатым!
С чатырох дылёвак
Будзеш мець мясьціну;
На век вечны поля
Роўна тры аршыны.
Ляжэш там, заляжэш,
Бедачок сермяжны,
У дзянькі і ночкі
Ціха і паважна...
А цяпер, сягоньня,
Па лясох, па скібах
Гайда, беззямельнік,
Пашукай сялібы!

5.

Паляці ты лесам, полем,
Голас неразьвейны,
Аб тэй долі, ці нядолі,
Долі беззямельнай.
Ці-ж не пан я, не вяльможны?
Бойцеся вы Бога!
Нават злодзей на ўсё сквапны
Не ўкрадзе нічога.
Маё поле, мае гоні—
Воблакі сівые;
Маё стадка, мае коні—
Хмары вараные.

Маё поле арэ вецер
I пасе скаціну,
Што бушуе пад час лішне
Ў летнюю часіну.
Мой палац хто ведаць хочэ—
Неба прастор гэты,
Што ў дзень сонцэм, зормі ночай
Сьвеціцца адзеты.
Ніхто не перэарэ мне
Мяжы ў маім полі,
Там падаткаў не плачу я
Нікому, ніколі.
Як узойдзе маё поле,
Высокая ніва,
Туды мчацца мае думкі
Па сваё па жніва.
Мчацца думкі, зьвіняць песьні
Вольна, неразвейна
Аб тэй долі, ці нядолі,
Долі беззямельнай.

6.

Ой, скажы ты, беззямельнік,
Раз прэце,
Скуль ты ўзяўся, бедачына,
На сьвеце?
Ці скрасілі цябе лёды,
Марозы?
Ці вылілі цябе воды
Са сьлёзаў?

Дзе ўзрастаў ты, безямельны,
Хаваўся?
Пад якой страхой, мазольнік,
Бадзяўся?
Ці пад плотам-частаколам
Багатых,
Ці на прызьбе родных сёлаў,
Пад хатай?

Хто атуліваў малога
    Ў пялёнкі?
Хто пеў песьні пры калысцэ
    Ў пацёмкі?
Ці то вецер, што бяз толку
    Галосе,
І з бедачых хат саломку
    Разносе?

Чым ты хрышчан, які меў ты
    Адзетак?
Чым кармілі цябе людзі
    Шмат летак?
Ці то потам, знімажэннем
    Нязьменным,
Ці то крыўдай, паніжэннем
    Штодзенным?

Хто учыў цябе малога
    Дзіцяцю,
Як шукаць на сьвеце долі,
    Багацьця?
Ці паводкі, што сьвет рыюць
    Вясною,
Ці мяцеліцы, што выюць
    Зімою?

Ой чаго ты спадзеваўся
    Ад сьвету,
Як зьявіўся на зямельку
    На гэту:
Ці карчомкі таей пьянай,
    Гуляшчай,
Ці цямнічкі акаванай,
    Лядашчай?

А як сьмерць на цябе, мілы,
    Надойдзе,
Дзе магілка твая будзе,
    Крыж твой дзе?

Ці ў чужым далёкім краю
У няволі,
Ці пад родным лесам, гаем
У полі?

Ну, дакуль-жэ ты ўсё будзеш
Марнеці
Без прыпынку, без пацехі
На сьвеце?
З дня на дзень бедак чэкае
Ўсё сонца,—
Раса вочы выедае
Бязконца.

7.

Дзе мой дом, дзе ты хата мая,
Дзе загон хлебадайнай зямлі?
Сам—з бядой, ні жыцьця, ні пуцьця!
Знай, гаруй ды магілку хвалі.
Дзень і ноч нада мной, сіратой,
Стогне, сьцеліцца стада хмурын,
Дзень і ноч то сьлязой, то крывёй
Сьцежку росіш адзін, сам адзін!
З года ў год злыдні с кута ў куток
Пруць у сьвет, сьвету знаць не даюць;
Як вятрышчы сарваны лісток,
Патхапілі нясуць і нясуць.
Знай, нясуць, вось скруцілі, згнялі,
А ўсё пруць, усё ў сьвет, на той сьвет;
Вось і звон шмат званоў... Загулі...
Бач, труна, пры труне адзін дзед.
Жыў, ня жыў, шчасьця знаў, не зазнаў,
Палажылі ў дамоўку, ляжы!
Дайце-ж камень на грудзь, каб не ўстаў
Беззямельнік, гаротнік сьляпы!..

## V. Сваім і чужым.

# ✓ Ужо днее...

Пасьвячаю ўсім супрацоўнікам, чытачом і прыяцелям «Нашае Нівы» на памятку двухлетняго жыцьця яе для нясення дабра, праўды і сьвету забытаму, цёмнаму беларускаму народу.

З-над сонных вод Нёмна, с-пад хвой Белавежы
Суседзі, суседкі, вітаю я вас!
Блудзіла я доўга па рытвах, па межах,
Аж сьцежку-дарожку знайшла во хоць раз.

Хоць, пэўна, вы знаеце, хто я такая,
Якім правам тут перэд вамі стаю,
Дзе дом мой, народ мой,—з якога я краю,—
Паслухайце смутную повесьць маю.

С канца у канец, дзе загнанае слова
Зьвініць беларуса,—ўладанне маё;
Шмат сотняў таму лет у хаце вёсковай
Ўзяла і праводжу сваё я жыцьцё.

С-пад гэтай хаціны па выдмах незнаных
Ганялі, чаго не згубіла, шукаць.
Глядзіце: во рукі і ногі у ранах,
А раны на сэрцы—каму-ж іх паняць?!

Па грудах, каменнях хадзіла я босай
І кроўю чырвонай дабрыла зямлю;
На шаты мае пагледалі з укоса
І песьню з насьмешкай віталі маю!

З балотам мешалі, пагардай плевалі
Ўсе тые, што вырасьлі нават са мной!
З маім людам згінуць на век мне казалі,
І страшна было мне так жыць сіратой!..

За сошкай, за коскай, с сярпом і ссякерай
Я шла-валаклася, дзе шоў мой народ;
Заплатай было, што ён часам мне верыў
І думкі снаваў аба мне з году ў год.

Шлі векі. Магіла легла пры магіле,—
Вада змыла наспы, крыжы пагнілі;
Гаротнасьцей зможэны, ў крыўдзе, ў бяссільлі
Там прадзедаў косьці без часу ляглі.

Шлі векі. Хрэст брала народнай сьлязою;
Срэдзь віхраў, і бураў, і холаду зім
З людзкой неразлучны ўзяла шлюб бядою,
І тузаюць мной, як народам маім.

Здушылі мне голас на родных на нівах;
Крыж цяжкі упадку з народам несла,
І думаў чужынец, што ўжо я няжыва.
Ня вярце! Жыву, як ад векаў жыла!

Я ўсё, колькі сілы, змагала, ўставала!
Я жыва! Народ мой са мною, пры мне!
Я ўсё перанесла і вышла я с хвалай,
Я сільна, я вечна ў сваей старане!

Прайшло засьляпенне, мінае трывога;
На небе ўжо новая відна зара.
Шырок прада мною гасьцінец-дарога.
Ўжо днее! ўжо днее!—к сваім мне пара!

# Роднае слова.

Рэдакціі, супрацоўнікам, чытачом і
прыхільнікам «Нашае Нівы».
(10/xi 1906—10/xi 1910 г.).

Пад навалай крыўдаў, многіе сталецьця
Мы нясьлі пакорна лямку безпрасьвецьця.
Мы нясьлі—ўсё ныла, гінула памалу,
Аж не нашай наша бацькаўшчына стала.
Не для нас сасонкі нашы зашумелі,
Не для нас пасевы нашы зарунелі;
Адно ты нам, слова, асталося верным,
Каб вясьці з упадку к радасьцям нязьмерным.

*

Каб вясьці нас, як мы век свайго сумлення
Не заклеймавалі помстай, зніштажэннем,—
Мы калі ўміралі, то ішлі на муку
Для чужой карысьці, пад чужой прынукай.
Сеючы-ж і дома і за домам косьці—
Дзе нас гналі нашы леташніе госьці—
Як у пушчы цёмнай, збіліся з дарогі
І здарма чэкалі ад людзей падмогі..

*

Ўсё спаганяць людзі, покі ноч шалее,
Вырвуць веру ў шчасьце, веру і надзею,
Дый таго ня вырвуць, што напела маці
Ночкай над калыскай роднаму дзіцяці.
Ой, ня вырваць с сэрца цябе, нашэ слово!
Ой, не ўзяць ніякім сховам ды аковам,
Як бяруць матулю у малой дзяціны,
Як бяруць у бацькі апошняго сына!

*

Ты зжылося з намі, бацькоўскае слоўцэ,
Як-бы корэнь з дрэвам, як-бы з небам сонцэ;
Дзеліш з намі вечна ўсё, што з намі ходзе
У благой і добрай мачысе-прыгодзе.

І мы самі нават мо' не спазнавалі,
Як у думках нашых цябе гадавалі,
Як цябе хавалі ў шчасьці і нешчасьці
Ад напраснай злосьці, ад людзкой напасьці.

*

Ты ў жыцьці вяло нас с хвалай і нехвалай;
Быў час—свае правы чужым дыхтавало;
І цяпер хто зводна над табой сьмяецца,—
Гэта або вецер, што ў платох трасецца,
Або той сьмяецца, хто ня знаў ніколі
Чэлавечых думак, чэлавечай долі,—
Хто ў грудзях гадуе злосна, непрытворна
Замест сэрца—камень, мест душы—дым чорны.

*

Як жыло ты з намі—будзеш вечна жыці,
Грамадой мільёнаў с сьветам гаманіці...
С попелу мінуўшых дзён сьляпых, крывавых
Весела узойдзе рунь сьветлянай славы,
І радзімым словам рукой мазалістай
Беларус упішэ на страніцы чыстай
Кнігі ўсіх народоў важна, ў непрымусе
Сумную аповесьць роднай Беларусі.

---

## «Нашай Ніве».

Са шчырым прыветам яе пяцілетняй ідэёвай працы для многамільённага беларускага народу.

Не загаснуць зоркі ў небе,
Покі небо будзе—
Не загіне край забраны,
Покі будуць людзі.
Ночка цёмная на сьвеце
Вечна не начуе;
Зерне кінутае ў ніву
Ўсходзе ды красуе.
Нашэ зерне—нашы думкі
Не загінуць сьвету,—
Блісnуць краскай непаблеклай
Вечных агнецветаў.

З добрых думак, што мы кінем
На сваім дзірване,
Будзе ўнукам нашым жніво—
Доля—панаванне.
Беларускаю рукою
Сьветлай праўды сіла
Славу лепшую напішэ
Бацькаўшчыне мілай.
Зацвіце яна, як сонцэ
Посьле непагоды,
Ў роўнай волі, ў роўным стане
Між усіх народаў.
Не загіне край забраны,
Покі жывы людзі,—
Не загаснуць зоркі ў небе,
Покі небо будзе!

---

# Ворагам беларушчыны.

Чаго вам хочэцца, панове?
Які вас выклікаў прымус
Забіць трывогу аб тэй мове,
Якой азваўся беларус?
Чаму вам дзіка яго мова?—
Паверце, вашэй ён не ўкраў,
Сваё ён толькі ўспомніў слова,
З якім радзіўся, падрастаў.
Цяпер і вы загаварылі,
З апекай выйшлі, як з зямлі;
А што-ж дагэтуль вы рабілі?
А дзе-ж дагэтуль вы былі?
Ваш брат і цёмен, і галодны;
Хацінка свой зжывае век;
І век ня знаў ён дум свабодных,
І крыўдзіў свой брат—чэлавек.
Вам страшна нашай сьлёзнай песьні,
І жальбы страшна вам глухой?
Вам жутка сонцэ на прадвесьні?
Мілей вам холад с цемнатой.

А што-ж вам беларус такога
Пасьмеў зрабіць, пасьмеў сказаць?
Эх, трэба ўчыць ешчэ вас многа,
Як свайго брата шанаваць!
Эх, кіньце крыўдамі карміцца—
Кожын народ сам сабе пан;
І беларус можэ зьмясьціцца
Ў сямьі нялічанай славян!
Напасьцяй, лаянкай напраснай
Грудзей не варта мазаліць!
Не пагасіць вам праўды яснай:
Жыў беларус—і будзе жыць!
Ня столькі «хамскіе» натуры
На карках вынеслі сваіх!
І сьвіст даношчыкаў пануры,
Паверце, не запудзіць іх!
К свабодзе, роўнасьці і знанню
Мы працярэбім сабе сьлед!
І будзе ўнукаў панаванне
Там, дзе сягоньня плачэ дзед!

## Гэй, капайце, далакопы...

Гэй, капайце, далакопы,
Яміну-магілу,—
А шырока, а глыбока,
Колькі хваце сілы.
Так капайце днём і ночай,
Помачу склікайце,—
Бо ў тым доле хаваць будзем,
Беларусь хаваці.

*

Гэй, ударце, загудзеце,
Званы з усіх вежаў,
Каб ніхто ўжо пары гэтай
Дома не залежаў.
Так зьвініце, не кідайце,
Дружыну склікайце...

Хаўтуры ўжо свае будзе
Беларусь спраўляці.

*

Гэй, зайграйце ў мільён струнаў,
Слаўные музыкі,
Каб аж водгалас каціўся,
Як ёсьць сьвет вялікі.
Так іграйце, каб было ўжо
І глухім чуваці,—
Каб маркотна не было спаць
Беларусі-маці.

*

Гэй, зьбірайцесь на памінкі,
І сыны, і дочкі,
Справім гучную бяседу
Пад аслонай ночкі.
Сабірайцесь, дый ня сьніце
Галасіці звонка,—
Памінаць бо толькі будзем
Родную старонку.

---

## На рынку.

—Хадзеце, хадзеце, вясёлые людзі!
А жыва да нас на таргоўлю:
Пакупка—гасьцінчык вам кожнаму будзе
Чырвоненькі, хатняй гадоўлі.
Паціху... ня бойцеся—пойдзе ўсё гладка,—
Крый, Божэ, якога прымуса.
Маленькая рэч,—як матыль ці стрынатка...
Ўсей куплі—душа Беларуса.
Меў хату, меў поле;—прыйшлі і забралі...
Сам вінен: ня ўмеў пільнаваці.
Ну, ўсякаму-ж трэба як небудзь жыць далей,—
Душу вось і можэ прадаці...
Падходзь-жэ, паночку!.. знімі акуляры—
Лепш будзе агледзіць пакупку;
Ты, барынько, так-жэ падбліжся!.. мы нары
Дамо нават з ёю галубкай...

Штось срэбнікаў с трыццаць—як пішэ ў законе
Узяў за Хрыста калісь Юда...
Аб гэткай цане ані сьнім мы сягоньня:
Станело ўсё—душы і цуды.
Дасьцё крыві с каплю, з гарошынку чэсьці—
І—ваша душа ва ўсей хвале...
Бо так—не купіўшы—ня сьлед на крыж весьці:
Гатовы сказаць, што вы ўкралі...

---

## Чужым.

Мы вас прынялі хлебам і соляй,
Людзі чужые;
Ўстрэлі вас ласкай нашаго поля
Кветкі жывые.
Нашы сасонкі шумнаго бора
Далі вам хаты,
Далі загонаў нашых разоры
Гонар богаты.
Пух і аўчынкі нашага хову
Грэлі зімою,
Птушкі вам гралі з нашай дубровы
Гымны вясною.
Ценям тулілі вас у сьпякоту
Нашы чарэсьні,
Нашые жнейкі ў жніўну работу
Пелі вам песьні.
Вашым патомкам нашые маткі
Казкі складалі:
Ў сэрцах дзіцячых праўдаў пачаткі
Сеў засевалі.
Верны славянскім спадкам, браточна
Ў госьцях вас мелі,
І шанавалі людзка, сьвяточна
Ў будні, ў нядзелі.
. . . . . . . . . . . . .
Сотні лет песьцім днямі і ночай
Госьця на шыі—

Зьмея, што с пуняў скарбы валочэ,
Скарбы чужые.
Вы ўжо забылі, людзі здарэння,
Дзе ваш прыпынак,—
Вывелі ў гандаль славу, сумленне—
Праўду на рынак.
Сьлепа зракліся сораму, ўвагі,
Ў хорамы селі,—
Брацьцям-жэ ўзьдзелі лапці, сермягі,
Торбы надзелі...
Людзі чужые! Хтось калісь злічэ
Вашу нам шкоду:
Злічэ праступкі... к суду пакліча
Крыўда народу.

---

# Прарок.

Сярод маны, сярод насьмешкаў,
Знак нейкі тулючы к грудзям,
Ішоў прарок пешчанай сьцежкай
З навукай новаю к людзям.
Праціўны вецер лез у вочы
І плачэм пеў, як дзіцянё,
Зьвярьё зубамі йграла ў ночы,
Днём выла ў небе груганнё.
А ён, не знаючы граніцаў,
Ішоў хістаючысь на-ўслонь;
Агонь біў толькі із зраніцаў,
Вялікіх праўд сьвяты агонь.
Душа палала дзіўным жарам,
Бы з зораў выснутая ніць,
Што сьвет магла-б сваім пажарам
Абвіць і к сонцу ўваскрасіць.
Ужо с сваім аклічным словам
Прарок далёка быў вядом,
Народу шмат збудзіў к дням новым,
Даў славу братнюю братом.

Аж так дасьціг—аквечан хвалай—
Зямлі забранай сумных хат,
Дзе царство цемры панавало,
Дзе сілу ўзяў над катам кат.
Народ змарнеўшы таго края
Свайго на'т імені не знаў,
Як непатрэбшчына якая,
Гібеў на сьвеце і канаў,
Галовы людзі пахіліўшы
Зямлю капалі, як краты,
Ўтапіўшы ў мёртвай ночнай цішы
Усе жадання яснаты.
Прарок—пасол сьветла—ў загону
Людзей убачыўшы такім,
Маячыць стаў ім, як шалёны,
Прарочым голасам сваім.

. . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . .

Глядзіце: прадзедавы косьці
Ў зямлю калісь за вас ляглі,
А вы, як збэшчэные госьці,
Пракляцьцем сталі тэй зямлі.
Дзе вашы песьні жыватворны?
Дзе ў вас прарокі й дудары,
Што над пагібельнасьцяй чорнай
Віталі-б полымем зары?
Забылі ўсё, згубілі долю,
Зьмешалі славы цьвет з гразёй,
І запрадаліся ў няволю,
З душой і скурай счэзлі ў ёй.
Пара у рукі браць паходні,
Уставаць, ісьці, ноч разсьветляць!
Бо што ня возьміце сягодня,
Таго і заўтра вам не ўзяць.
На зло крывавым перашкодам
Скідайце ёрмы, клічце сход,
І дайце знаць другім народам,
Які вы сільны йшчэ народ!

За мной, за мной, забраны людзе!
Я добрай доляй послан к вам
І знаю, што было, што будзе,
І вас у крыўды не аддам.
Так гаварыў і з рабства клікаў
Людзей на волю той прарок,
Ждучы с трывогаю вялікай
Ад іх атказу неўнарок.
А людзі, глянуўшы на сонцэ,
Атказ казалі грамадой:
—Па сколькі-ж нам дасі чырвонцаў,
Калі мы пойдзем за табой?
. . . . . . . . . . . . . . . . .

---

# Дудар.

*Аўтору «Беларускай Гісторыі» Власту.*

На кургане, на адвечным,
Пад асінай векавой,
Сеў Дудар, сагнуўшы плечы,
С пасівелай галавой.
На дудзе, на самагудзе,
(А дуда—як веча звон),
Духам кліч пускае ў людзі—
Песьня ў песьню, тон у тон.
Як жывая, рвецца песьня,
Лесам-пушчаю шуміць,
З забыцьця зметае плесьню,
Мох з мінуўшчыны ляціць.
Сьлед за сьледам ройным роем
Цені даўнаго кладуць...
Князь за князем, бой за боем,
Як сягоньня, ў ход ідуць.
Роднай бацькаўшчыны долю,
Як у люстры, бачыш так,
Долю-волю у бязвольлі,
Што зыйшла, ідзе не ў знак.

Гоман-славу, чорнай хваляй
Што зьбіралі курганы,
Белы косьці, што гублялі
Беларускіе сыны.
Што сабе кавалі путы,
Ў бітвах мручы за другіх...
Як-бы модлы і пакуты
Ўсіх —і наскіх, і чужых.
І сягодьняшняй праявай
Звоне шчасьце небарак,
Што са славою за славу
І памерці німа як.
І у будучыну гляне,
Думкай песьня Дудара,
З непрывычным запытаннем:
Ці прачнуцца не пара?!.
Так даўно у нас не йгралі,
Дзіў адно плыве і чар,
Што раз выжэй, што раз далей.
Знаць, бывалы ён Дудар.
Старасьвецкі ён музыка,
Важна толк вядзе ў дудзе,
Важна долею вялікай
І свабодаю гудзе.
На курганавым каберцы
Нечувалае чуваць,
Што ўсё можэ толькі серцэ
Беларусаво паняць.

---

# З мінуўшых дзён.

«Нашай Ніве» ў дзень яе
трохлетняй гадаўшчыны.

Перайшло, мінула,
Што калісь жыло,
Ў курганох заснула,
Зельлем зарасло.

Пад магіл навалай
Дрэме Русь, Літва—
За тэй тая с хвалай
Легла галава.
Не гудзе ў павазе
Голас вечэвы,
Не шукаюць князі
Славы і бітвы.
Войска Усеслава
Не ідзе ў паход
На той бой крывавы
За свой край, народ.
Сьцены і запоры
Полачан, Мінчан
Леглі у разоры
Зможэных палян.
Ні сьвятых дуброваў,
Зніч пайшоў з вадой;
Загасьціў лад новы,
Ды ня той, ня свой.
Так прайшло, мінула,
Што калісь жыло,
Ў курганох заснула,
Зельлем зарасло.

## Памяці Вінцука Марцінкевіча.

Шмат лет не ручыла нам доля,
Крывымі вела пуцінамі,
Не маючы ласкі і жалю
Над нашай старонкай, над намі.
Хто мы, адбірала нам памяць,
Чужыншчынай ціснула грудзі;
Не раз патцікалася з думкай,
Што мы ўжо ня мы і ня людзі.
З нас самых і з гутаркі нашай
І свой, і чужынец стаў кпіці.
Ўсё роднае стала ня родным,
Прост, хоць і на сьвеце ня жыці.

Так ночка хацела быць паняй,
Так сівер звадзіў нас і страшыў,
Ды вось, як на тое, судзіў Бог
І нам на сваім быць кірмашы.
Нябошчык Вінцук Марцінкевіч
Ня сьцерпіў такой нашай мукі,—
Паслухаўшы сэрца, бярэ ён
Дуду беларускую ў рукі.
І песьню за песьняй парадкам
Пусьціў, як жывую крыніцу:
Пасыпалісь, проста, як з неба,
«Дажынкі», «Гапон», «Вечарніцы».
Як стораж, стаў сьмела на варце
Радзімых запушчэных гоняў,
Стаў сеяць па свойску ўсё тое,
Што мы далей сеем сягоньня.
А кемкую меў ён натуру,—
Спанатрыў, дзе праўду шукаці,
У тахт беларусавай думцы
Патрапіў запеці, зайграці.
Калі засьмяецца, бывала,
То хоць за бакі ты бярыся;
Калі-ж і разжаліцца сумам,
Дык хоць ты с сьлязою жаніся.
Умеў ён прынадна настроіць
Тон ёмкі ў дудзе-самагудзе,
Што нам і цяпер яна грае,
І вечна канца ей ня будзе.
Чверць веку, як бае ўжо недзе
Сьвятым беларускіе песьні,
А быццам ён з намі талкуе
Аб нашай зіме і прадвесьні.
Жыве паміж намі дудар наш...
Жыць кожны так будзе, мой братку,
Хто родну старонку палюбіць,
Маўляў, добры сын сваю матку.

# Памяці Мары Конопніцкай.

І зыйшла ты, песьнярка народаў,
Божы сьветач жывых пакаленнёў,
Ў новы край невядомаго быту
Ад жыцьцёвых непраўд і цярпеннёў.
І пакінула загадку сьвету—
Ўсім нешчасным і з блізка, і з далі:
Ці то сонцэ зайшло на заўсёды,
Ці ім долю мо' іх пахавалі?..
Бо як песьня твая ўсемагуча,
Безгранічна зьвінела, будзіла,—
Так німа ні граніцы, ні меры
Ўсей жальбе над тваею магілай
І хаця сэрцэ сьціхла, занышла,
Хоць, як зоры, ўжо вочы ня сьвецяць,—
Голас думак тваіх ешчэ будзе
Не з адным гаманіці сталецьцем.
Дух твой з сьветласьцяй неба зыльецца
І с праменнямі сонца сьвятога,
Сьлёзы-росы высушываць будзе
І паказываць к праўдзе дарогу.
Памяць насып магілку ўхарошыць
З жывых кветак рукою сірочай,
Як квяцісты былі Тваіе песьні
Сярод земскай і сьцюжы, і ночы.
А з мільёнаў грудзей набалелых
Плыці ўздох з века ў век не пакіне
Па заступніцы ўсіх нешчасьлівых,
Па вялікай Песьнярцы-Княгіні.

---

# І. Буйніцкому.

Важна рэй Ігнат Буйніцкі
Ў танцах нашых водзіць,
Аж здаецца усё чыста
Хадыром з ім ходзіць.

Калі пусьціцца скакаці,—
Ажно сэрцэ скачэ;
Лепшых танцаў і ўвесь Піцер
Бадай што не бачыў.
Ці Мяцеліца, ці Юрка,
Мельнік, ці Антошка,—
Усё ў яго зыходзе гладка,
Ня змыліць ні трошка.
Пад дуду і пад цымбалы
Топне прысьпевае...
Сьцеражыцеся ўсе людзі:
Беларус гуляе!
Не ўнімайся-ж і скачы нам,
Покі сілы хваце,
Мо пачнуць і думкі нашы
Весялей скакаці!

---

## Памяці Шэвчэнкі.

Ад гасьцінца да гасьцінца,
Ад хаты да хаты
Зьвініць кобза украінцам
Аб вялікім сьвяту:
Уся чыста галасіста
Ўкрайна маладая
Свайго «бацьку» кабзарысту
Важна ўспамінае.
Мейсцэ даў яму пачэсьне
Бедны і багаты;
Расьпеваюць яго песьні
«Парубкі», «дівчаты».
Эй, бо песьня кабзарысты
Ад краю да краю
Плыве вольна-расхадзіста,
Перашкод не знае!
Сам ён многа меў нядолі,
Крыўды, паніження,
Ды не здрадзіў-жэ ён волі,
Волі і сумлення.

Дух збудзіў свайму народу
Сваім гучным словам,
Навучыў любіць свабоду,
Родны край і мову.
Яго «бацькам» ахрысьціла
Памятна Украйна.
Эх! і нам будзь бацькам мілым,
Украінчэ слаўны!
Плывучы ў даль твая песьня
Гасьцінцам ня вузкім,
Нашла водгалас пачэсьне
Ў сэрцы беларускім.

---

# Лірнік вясковы.

*Памяці Вл. Сыракомлі.*

Не аб шумна-разгульнай бяседзе-вясельлі,
Не аб славе забытаго краю,
Не аб віхрах і бурах, што сьветы цярпелі,
Гэту песьню сягоньня складаю.
Выліць думку хачу—хай снуе у бязмеры—
Думку-памяць, што ў сэрцы залегла,
Аб тэй зорцэ, што некалі з добраю верай
Над зямелькай ясьнела і зьбегла.
Аб музыцэ, што лірай сваей чарадзейскай
Мне ў душы сьветач выклікаў новы,
Каб жыла хоць на час красай кветкаў-пралескаў,
Як жыве вечна Лірнік вясковы.

*

Над Вільёй, дзе сталіца была Гедыміна,
На магілках, што Росса завуцца,
Курганок там убачыш пакрыты дзярнінай,
Над дзярнінай бярозкі трасуцца.
Сумна шэпчуць галінкі зімою і летам
Аб жыцьці пахаваным пад імі;
Людзі ходзюць маліцца над насыпам гэтым,
Пасьвенцаці сьлезамі жывымі.

Пяцьдзесят раз у зелень весна спавівала
Ніву нашу і насып жвіровы,—
Над курганам тым сэрцаў мільёны шэптала:
Дай Бог рай табе, Лірнік вясковы.

*

На зялёным цьвітучым лагу-сенажаці,
Гэт пад лесам за вёскай бедачай
Песьню-музыку сумную здаля чуваці:
Пастушок там на дудцэ так плачэ.
Звоне коскай касец, толькі водгалас льецца,
Сам, як колас, хістаецца ў полі...
На загоне жнея над снапочкамі гнецца;
Сонцэ іхней дзівуецца долі.
Пастушок і касец той, і жнейка-дзяўчына,
Пахіліўшы маркотна галовы,
Тую песьню пяюць, што мінуўшай часінай
Ім аставіў іх Лірнік вясковы.

*

Песьні гэтай знаём і палац мураваны,
Што ў хмяліных бялее повоях,—
На пачэсным кутку заседае жаданай—
Мілай госьцей ў багатых пакоях.
І ў засьценку шляхоцкім, што з вёскаю блізкай
Тую-ж долю-нядолю гадуе,
Гэта песьня плыве над ліповой калыскай—
Гэтак маці над дзіцем бядуе.
З маткай рэчка і вецер па свойму запелі,
Зашумеў бор зялёны, сасновы,
Як-бы тые напевы яны зразумелі,
Што злажыў чуйны Лірнік вясковы.

*

А калі ты, гаротнік, тулач беззямельны,
Будзеш долей закінут у горад,—
Ты пачуеш і там голас той непаддзельны,
Што спаткаці, пачуць быў даўно рад.
Ці сіроткі, к сьцяне прытуліўшысь халоднай,
Ноч праводзюць, усходу чэкаюць,
Ці нешчаснаго ўбачыш, як гнецца галодны—
Ты спытай—яны Лірніка знаюць.

Там і сіняя мгла, як настануць марозы,
На муры сее пух брылянтовы,
Быццам тые праўдзівые сьветлые сьлёзы,
Што калісь выліў Лірнік вясковы.

*

Ўсюды Лірнік сваей чарадзейскаю лірай
Думкі-чары, як кветкі разсеяў,—
І ці ўмёр, ці жыве між людзьмі далей шчыра—
Адгадаці малая надзея.
Час патрапе усё пакрышыць, адалеці,
Путы нават змарнеюць у плесьні,—
Пакі-ж будзе душа хоць адна жыць на сьвеце,
Будуць жыці і лірнікаў песьні.
Будзеш жыць! Будуць векіісьці за векамі.
Не забудуцца дум тваіх словы,
Як і слоў беларускіх жывучы між намі
Не забыўся ты, Лірнік вясковы.

---

# Брату ў чужыне.

Ці помніш ты, недбалы дружэ,
Ўсё тое, дзе радзіўся, ўзрос?
Дзе напевае зімка стужай,
Ірдзіцца лето блескам рос?
Аздобнасьць неба – сонцэ, зоры,
Спавіты месяц туманом;
Русалак ночкай разгаворы,
Шчасьлівых птушэк песьні днём?

Ці помніш ты паглёд нясьмелы
Свайго радзімаго села,
Аткуль паплёўся ў сьвет той белы,
Твая дзе моладасьць сплыла?
Нямое поле, сенажаці,
Лазой аквечэны дзірван;
Магілкі, сьпяць дзе твае брацьця,
На ўзьмежку прадзедаў курган?

Ці помніш прызбу, плот с праслами,
Сваю хацінку, свой тачок,
Тваймі стаўляные бацькамі,
Адвекам крыўлены на бок?
Памеж прысад гасьцінец біты—
Пешчаны, ўзвілісты пакат;
Паводкай мост стары падмыты,
Бяроз плакучых сумны рад?
Ці помніш ты сваю матулю,
Што над калыскаю тваей
Пеяла песьню-байку «люлі»,
Снуючы ў думках рой надзей?
Сьвятую песьню родных межаў,
Няхітры мовы свойскай твор,
З якой зліваецца звон вежаў,
А рэха ловіць цёмны бор?
Ці помніш жніў, касьбы дзень шчыры;
Начлег, агонь сярод кустоў;
Палёты з выраю у вырай
Буслоў, гусей і журавоў?
Убор вёсковы, невыдумны,
Абычай сельскай прастаты...
Край Беларускі мірны, сумны,
Свой родны край ці помніш ты?..

---

## Песьняру-Беларусу.

Пытаеш ты, якім быць трэба
Зямлі забытай песьняру?
Як у шуканні вечным хлеба
Знайсьці яснейшую пару?
О, не хадзі к другім за радай,—
У пушчы сонца не шукай!
Дабудзь с сваей душы ўсе праўды,
Сваіх дум, сэрца запытай.
Хай серцэ сэрца не баіцца,
Душа з душою хай пяе;
На думках братніх, як на скрыпцэ,
Ты песьні выгалась свае!

За родну песьню будзь ваякай,
Ня жджы заплаты ад людзей.
Песьняр—слуга слугі усякай,
Песьняр і цар усіх царэй!

Дзе зор гуляюць хараводы,
Зірні зухвала, без трывог,
Прагледзь нябесные ўсе ходы,
Каб аж задумаўся сам Бог!

Падслухай шэпты зямлі—маткі,
У скарбы ўсе яе заглянь,
Каб аж пашла весьць ва ўсе хаткі,
Як з ніў найбольшую брацьдань.

Шчасьлівы ты, ці нешчасьлівы,
Будзі сыноў сваей зямлі,
Над беларускай соннай нівай
Незгаслы сьветач распалі!

Глядзі—ўскалышыцца, прачнецца
Мільённы прыспаны народ,
І вокліч славы пранясецца,
Песьнярскай славы з роду ў род.

Ты у сваім вянку цярністым
Убачыш міртавы вянок,
І важна слаўлен, песьнярыста,
На той сьвет зойдзешь, як лісток.

Памёр песьняр.—Над белым крыжэм
За годам год перэбяжыць;
Непамяць імя пеўца зліжэ,
А песьня будзе жыць і жыць!

---

## Наша песьня.

Зазьвіні ты, як звон, і удар, як пярун,
Песьня наша, як воля, магучая!
Хай крыўдзіцель дрыжыць, як падбіты каршун,
Хай нясуцца ў сьвет рэхі грымучые.

Хоць нуды ў табе шмат, вылівана сьлязьмі,
Дума-песьня няхітра складаная,
Але нашая ты; недруг, спробуй вазьмі!..
Ты ня можэш быць, песьня, скаванаю.

Як на небе зара, ці як думка ў душы,
Не скуешся няволі ты путамі:
Ты, як той салавей, зазьвініш і ў глушы,—
Запяешся людзьмі і закутымі.
Пей-жэ, песьня, дзень, ноч, песьня родная нам,
Апевай жыцьцё наша праклятае,
І зайграй ты па сэрцу хоць раз бедакам,
Наўчы, як найці шчасьце багатае.
Зазьвіні ты, як звон, і удар, як пярун,
Песьня наша, як воля, магучая!
Хай крыўдзіцель дрыжыць, як падбіты каршун,
Хай нясуцца ў сьвет рэхі грымучые!..

---

* * *

Патсекайце тое дрэва,
Што ў корні ўсыхае;
Не ўважайце таго сэрца,
Што жалю не мае.
Страшце птушку, праз якую
Свойская загіне;
Забывайце песьню, штó вам
Ворар ваш накіне
Ой, гадуйце, падлівайце
Гай жывы, зялёны;
Сэрцу добраму давайце
Добрые паклоны.
Паважайце тую птушку,
Што крыўды ня робе;
Не чурайцесь роднай песьні
Ў шчасьці і ў жалóбе.

---

# Папросту.

Простым мы словам з сьветам гаворым,
Песьні аб цяжкай творым нягодзі,
З думкамі рвёмся к сонцу і зорам.
Рвёмся к свабодзі.

Простая нашых прадзедаў слава,

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Шлі, ідзём далей ў лева, ці ў права—
Простым гасцінцам.

Сьвет там выдумкі хітрые знае—

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Выдумаць гэта мы ў сваім краі
Неяк мінулі.

Летась нягодна, сёлета горэй
Проста жылося, проста жывецца,
Красьці-ж ня пойдзем, хоць у каморы
Кожны к нам прэцца.

Нас гадавалі віхры і ночкі,
Крыўдай паілі нас ад пялёнкі—
Толькі-ж папросту мы ня йшлі ў прочкі
З роднай старонкі.

Хочэм папросту, каб лепш ручыла
Нашым хацінам, нашым палянам,
Каб стаць раўнёю славай і сілай
Брацям-Славянам.

Проста жывём мы, як доля лучыць,
І крывадушыць не прабавалі...
Просім папросту : да што нас мучыць
Да што нас рабавалі . . .

---

## Вучыся...

Вучыся, нябожэ, вучэнне паможэ
Змагацца з нядолей, з няволей...
Што мучэ сягоння, што думкі трывожэ,—
Зьбяжыць і ня прыдзе ніколі.

Жаль згіне, як мара; ня будзеш нездарай,
Нідзе і ні ў чым не заблудзіш;
Ты праўду ў няпраўдзе, як сонцэ між хмараў,
Спазнаеш, раз цёмен ня будзеш.

Такая прынука, як труд і навука
Ці-ж можэ нам сіл не дадаці?
С такімі сябрамі, знай, будзе ня штука
І горэ сваё зваеваці.

Паўнейшай адрынка, сыцейшай скацінка,
Ой, будзе—а толькі вазьміся!..
І нойдзецца ў працы аддухі часінка,
І ў крыўду ўрагом не дасіся.

Крыўдзіцелеў зможэш, сьлед вечны праложыш
І к долі, і к волі, і к славе...
Адно ты прачніся, вучыся, як можэш,
Ці дома, ці на школьнай лаве.

Ўсе людзі значэнне пазналі вучэння,
Адзін толькі ты ані дбаеш!
Цямней, беларусе, як ночка асення,
І шчасьце-ж такое ты маеш...

---

## У вучылішчэ!..

Клумак с кніжкамі пад пахай,
Думак поўна галава,—
Там, у школу даўным шляхам
Сыпе сельская дзетва.
Гурмам сыпе да навукі,—
Знаць ахвоту, ўвагу знаць:
Знамо, трэба знання штукі
Сходаць, скеміць, переняць.
Буквы с памяці той клеце,
Той «таблічку» ў нос бурчыць;
Адным словам, ешчэ дзеці,
Адным словам, трэба ўчыць!

---

## Янінцэ Паўловіч.

Для Янінкі, для цёскі
Шлю паклон шчыры з вёскі:
Жычу весела расьці, ўсе навукі перайсьці

І шчасьліва, і ахвотна,
Ды бяз сумнасьці маркотнай
Песьні пець
І ляцець
Па-над борам
К сонцу, к зорам,
З вольнай думкай па-над гаем,
Па-над нашым бедным краем...

*

Для Янінкі, для цёскі
Шлю паклон шчыры з вёскі:
Жычу, посьле ўсіх навук без прынукі і дакук,
Жыці з мужам а багатым,
Каб была век доля сьвятам,
Добра жыць
І любіць
Дружку дружка,
Як пяюшка
Птушка птушку, што век звонка
Славіць нашую старонку
І са мною для цёскі
Шле паклон шчыры з вёскі...

---

## Ён і яна.

Гэткай пары на сьвеце
Роўных ім не было:
Ён арлом мог глядзеці,
Ей да твары ўсё шло.
Без яго ей ня жыці,
А яму без яе,
Думка ў думку злажыці
Так умелі свае.
Не чэпалі іх мукі,
І ні крыўда, ні плач,
Да ўсяго мелі рукі—
Толькі знай, толькі бач!

Слава йшла полем-борам,
I то йшла ня бы як—
Ажно цёмненькім зорам
Было завідна так.

Скуль яны узяліся,
Гэта ім толькі знаць;
Да іх кожны маліўся,
Ці за іх—не згадаць!

Так жылі, многа сьцёрлі
Лет сваіх маладых;
Як жылі, так памёрлі,
Пахавалі так іх.

Так патухла іх імя,
Дый праз завід, ці што,
Не заплакаў над імі
I нідзе, і ніхто.

Толькі чулые людзі
Ўзнесьлі насып з зямлі,
Далі камень на грудзі,
Напіс важны далі:

«Дзьве душы Бога просе,
«Каб хоць так бедным ім
«На тым сьвеце жылося,
«Як тут з імі жывым.

«Бо жыла так прыгожа
«Гэта пара адна:
«Ён быў Голад нябожэ,
«А Няволя—яна».

---

## Падымайся, ўставай!..

Падымайся, ўставай!
Апратай капоту:
Ад двара, ат купца
Клічуць на работу.

Падымайся, ўставай!
Шмат ё латаць дзюрак:
Зарос кустам дзірван,
Трэба сотню шурак.

Падымайся, ўставай!
Умыйся сьлязою:
Кабыліну ваўкі
Коньчуць за гарою.

Падымайся, ўставай!
Думкі патрывожы:
Хмара йшла, разнесла
Твае гоні-збожжэ.

Падымайся, ўставай!
Звела немач сына:
Трэба ймшу закупіць,
Трэба дамавіна.

Падымайся, ўставай!
Не бурчы с прасонку:
Дружкі йшлі і зайшлі,
Просюць у карчомку.

Падымайся, ўставай!
Прапіў, выпіў годзе!
Цэлы сьвет у вачах
Калаўротам ходзе.

Падымайся, ўставай!..
І на што-ж ты здаўся?
Пацягнулі ў вастрог;
Ну, вось і даспаўся!

---

## Мой пагляд і мэта.

(С прыпеўкаў тутэйшаго).

Я па закону і па веры
Ганю свой быт па-між людзей;
Жыцьцё сваё ўжо так разьмерыў,
Крывулі ў ім каб ні аднэй.

Таму я—кум, таму я—сват;
Той мне, таму штось вінен я;
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Да гаспадаркі ма́ю клёку:
Як дзед, як прадзед, так вяду;

Штось мо' не так, як глянуць з боку,
Але я дзьму на ўсё ў дуду...
Кусток лазовы, ўзрэхаў рад—
Не бачу ў гэтым грэху я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Я к працы здатны і ахвочы—
З гультайствам дружбы не вяду;
На тое Бог дзянёк рабочы
Даў чэлавеку на раду;
Тры-ж дні якіе ў тыдзень сьвят
Прасьвяткаваць магу і я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Жыву с суседзьмі па-суседзку,—
Пакорны згоды я слуга;
Ня быць нікому ў воку рэдзькай,
Я век стараюсь, як магá.
Які-ж «на-козыр» возьме «гад»—
Дзяржу ў руках кол ёмка я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Зладзейства—крый ты мяне, Божэ!
Каб я зрабіў... ражон мне ў бок!
Каня-ж напасьціць чужым збожэм,
У панскім лесе ссеч дубок,
Сенца напхаці панарад—
Ешчэ згаджуся з гэтым я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Здзірач, працэнтнік, ліхаімца—
Ў мяне такі не чэлавек;
Я сам з другімі рад дзяліцца,
Але ўсё ў меру, як той лек:

Ніколі больш як «пяцьдзесят
За-сто» і ўзяць ня сьмею я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Я пьянства, пьяніц прост ня зношу:
Іх вораг—я, яны—мае;
Калі-ж сусед мне скажэ: «проша»,
І чарку ставе на стале,
Ўступаю просьбам рад, не рад.
Што-ж?—дзьве-тры чаркі—ня хвор я...
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

На пана, жыда і на чына
Не маю ласкі ні-крыхі;
Хоць перад першым сагнуць сьпіну,
З другім гешэфцік завясьці,

А с трэцім знаць ва ўзятках лад—
Не аттаго падчас і я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Як людзі добрые, навукі
Я з-малку дзён пакаштаваў,
І расьпішуся без прынукі,
Сынка-ж у школу не даваў...
Дзед без навукі жыў лет шмат,
І сыну-ж тое дзяўблю я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Люблю чытаць я і газэты:
Як дзе што ведаці люблю;
Сякі-такі толк знаю ў гэтым—
Пакупкі-ж дык не прызнаю...
Сусед пажычыць яе рад;
Чытаць за «дзякуй» ласкаў я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Знаём з расейскай, с польскай мовай;
Сваей з гасьцьмі ані мру-мру,
Хаця ня зрокся і «вясковай»—
«Па-просту» с «простым» гавару.
З яе-ж рабіць які парад,
За гэта дзякую ўжо я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Так па закону і па веры
Ганю свой век па-між людзей;
Жыцьцё сваё ўжо так разьмерыў,
Крывулі ў ім каб ні аднэй.
Таму я—кум, таму я—сват,
Той мне, таму штосьвінен я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

## VI. Байкі і Аповесьці.

# Мікіта і Валы́.

Байка.

Ці летась, ці залетась, тут, ці там—
Штось мне не ў цям,
Ляшыў Мікіта
Жыта,
І, як на злосьць, яму адну
Валы скрывілі баразну.
Вось ён і стаў, (хоць добра йшлі ўсё лета),
Ім выгаварываці гэта:
«Я вас—так кажэ—як магу
І сьцерагу,
Сам не дасплю,
А вас кармлю
Трасяначкай зімою,
Ў летку траўкай лугавою,
Што дня вадзіцы
Даю с крыніцы,
А вы што мне?—Бязбожна
Крыўляеце барозны,
Хоць і ня можна
Ўсё такое...»
Валы пад тое:
— «Мы-б мо' і не крыўлялі,
Каб павадоў, ярма і пуг не зналі».

# Два мужыкі і глушэц.

Байка.

Нeяк раз вясной
На балоце, над рэкой
Глушэц на ёлцы заседаў
І сам з сабою талкаваў.
А ведама усім,
Што з мясам гэты птах сваім
Бывае дарагім.
Дык вось, два мужыкі-панове,
Як бы ў змове,
Той з аднаго, а той с таго канца
Аблаву робяць на глушца.
Так падцікаюцца ўсё бліжэй, бліжэй—
І той, і той на птушку пальцы ліжэ!
Аж так і згледзіў таго той
І, як на ліха, ў спор с сабой:
«Куды ты лезеш, тонканогі?!»—
Шапнуў Іван с сваей дарогі,
Рукі нялёгкай чэлавек,
З якой слыве свой цэлы век.—
«Да гэтай птушкі мне закон,
«А ты, гультай, адгэтуль вон!»
— «Ня твой, а мой!—сапе пан Ежы,—
«К яму моў сьлед стары, а твой, гад, сьвежы!
«Я маю с прадзедаў ад веку
«Над гэтай пусткаю апеку!»—
— «Не ты, а я тут пан!»—
Гукнуў ужо Іван,—
«Віш, ты: абраўся «*сямідзённік*»!»—
— «А ты што лепшае, «*казённік*»?!»—
Кідаюць стрэльбы і за грудзі
Ўзяліся людзі.
І што-ж будзе?..
Глушэц на гэты іхні шум,
Што вёў так шчыра с кумам кум,

Падумаў: «Вот, так ласуны над ласунамі:
«Знайшлі сварыцца
«Пры чужым карытцы!..»
І... паляцеў, залопаўшы крыламі.

---

А ну, чытацелю, згадай канец:
Хто мужыкі, а хто такі глушэц?

---

# Асёлъ і навука.

Байка.

Аслова невуцтва не раз
Служыла дурням за паказ;—
Дык вось нарэшце узялі
Асла ў навуку аддалі.
І сталі ўчыць яго чытаць,—
Вучылі нават і пісаць.
Асёл так шчыра ўчыцца ўмеў,
Што кніжкі ўсе, як сена, зьеў
І столькі ў гэтым скарыстаў,
Што горш убоістым ён стаў!..

---

Людзям ёсць тут такі прымер,
(Ёсць людзі на быдля манер):
Хоць колькі ні вучы асла,
Аслом ён будзе да канца!.

---

# Ігнат і пьяўкі.

Байка.

Лет шмат
Таму назад
Ігнат
Гарачынёй, здаецца,
Купаўся ў рэчцэ
І, як на грэх,
(Бадай што заец,
Паганец,

Сьцежку перабег),
— К аднэй з дзьвух ног
Прынадзіў пьявак трох.
Прыліплі, цягнуць, як мага́,
Аж сохне, корчыцца нага.
Беда! Ўжо кінуўся і сяк і так,
Заціснуўшы кулак,
Да іхняй скуры небарак,—
Яны-ж каб дбалі:
Смокчуць далей!..
— «Э, годзе, кіньце ўжо даіць, сястрыцы,
«Ці-ж мала вам сваей вадзіцы?—
«І сьмех, і грэх, і стыд, скажу я,
«Смактаці кроў чужую!»—
Так ім навучна ён талкуе,
І ў той-жэ час,
(Ня першы пьяўкам, відна, раз),
Пачуў атказ;
— «Мае суседкі вінаваты»,—
Кіўнула з іх адна Ігнату,
Як ёсьць уся ў бліскучых латах,
І пацягнула цёплы смок,
Аж колька ў крук згібала бок.
— «Ня мне, а гэным дзьвём крывёй
«Жыць хочацца чужой»—
Пачуў ён ад другой
Таўстой, таўстой,
Ды сёрб ад першаго ямчэй
Даць мусіў з жыліны сваей.
— «Я? я так толькі з дабраты,
А вось да тых вазьміся ты!»—
С чароду трэцяя хлюснула,
Найболей кемкаго агулу,
І смагла, смагла смактанула...

---

Што далей там было,
До байкі не дашло.
Піяўкі-ж, (ой, чорт недзе рад!),

Хоць дней зышло—праходзіць шмат,
Жывуць як бы ні ў чым,—
А толькі, як даць раду ім,
Варожэ ўсё Ігнат!..

---

## Страх.

«У страха вочы вялікі».
«Да пары жбан воду носіць».
*(Прыказкі).*

Ці з ласкі, ці з неласкі Боскай,
Не нашым гэта судзіць зданнем—
Стаяла вёска бліз Лагойска
С сваей нудой і нарэканнем.
А ў ей жыў Юрка Данілёнак,
Як нарадзіўся—ад пялёнак.
Быў Юрка чалавек ня дрэнны,
Адно быў трохі пустамеля:
Аж так і трэскаюцца сьцены,
Як расхлюсьціцца мала-веля;
Не раз ён с толку сам сабьецца,
Ці праўду рэжэ, ці сьмяецца.
А як крыху ён быў падпіўшы,
Свае тады не пазнавалі:
І ў поўнач с папраці расцвіўшай
Зрывае кветку на Купальле,
І на Узвіжэнне з зверамі
Гуляе ноч, як с сваякамі.
Німа яму ніякіх страхаў:
Шаптун, ведзьмак прад ім хавайся!
Самога чорта нёс пад пахай,
С самою ведзьмай цалаваўся!
Такі ўжо Юрка Данілёнак,
Як нарадзіўся—ад пялёнак.
Але на нашым зьменным сьвеце
Німа, бач, сталаго нічога,
І салаўём пад час запеці
Ваўка прымусяць безпутнога,—

Так наш і Юрка, як ніколі,
Зьмяніўся с часам паняволі.
Было, як помню, гэта самай
Перад Вадохрышчэм куцёю.
Вячэру зьеўшы, да Адама
Зышліся ўсе мы грамадою—
От, пры лучыне ў цёплай хатцэ
Паваражыць, пазабаўляцца.
Былі старые і малые,
Падросткі, хлопцы і дзеўчаты;
Крычаць адны, сьмяюцца тые,
Аж так і рвецца гоман с хаты!
І Юрка тут, і па сваёму
Прагаварыць не дасьць нікому.
Я слухаў, слухаў, дый цярпення
Не стала слухаць перахвалкаў!
Слоў колькі, вышаўшы у сені,
Шапнуў Лявону і Міхалку;
Пагаварыўшы, зноў прыходзім
І гутарку неўзнак заводзім:
— «Хто (тут я к Юрку вокам кінуў)
Адважны з вас такой парою
Ў манеж схадзіць, набраць мякіны
І к нам сюды вярнуцца з ёю,—
Хаця і поўнач ужо пэўне,
І першые ня пелі пеўні?»
Тут хлопцы жыва падхапілі:
Вось, Юрка нам дакажэ славы!
Ці-ж ён бы страха не асіліў?
О, ён для дружбы, для забавы
І ў пекла, калі трэба, сходзе—
Адважным гэта сьмех і годзе!..
Наш Юрка, хоцькі, ці ня хоцькі,
Не рад с свайго ўжо выхваляння;
Папхнуўся ў ток той серад ночкі —
А з ім наш сьмех і наругання.
Аж вось, праз нейкіх мінут дваццаць
Мы чуем: «гвалт! ратуйце, братцы!»
На двор мы выбеглі ўсе гурмам:
Ляціць наш Юрка, як здань, белы,

У сенцы, ў дзьверы валіць штурмам,
Як ліст ад ветру, дрыжыць цэлы;
Убег у хату, дух ня зьмене,
Якбы у чортавай быў жмені.
Мы ўсе яго давай у хаці
Прыводзіць к ладу і спакою,
Давай сьмяліць, давай пытаці:
— Што, гавары, было с табою?—
Той, страх змагаючы авечы,
Пляце нястворэные рэчы:
— «О, Езу! Божэ мой вялікі»—
Ён так расказ пераплетае:
«Я чуў няземскіе там крыкі,
Была там сіла неземная!
З усякім страхам я пазнаўся,
А з гэткім век не спатыкаўся!..
«Іду ў манеж я той Рыгораў,
Прышоў і мацаю у куце,
І думаю сабе ўжо скора
Да вас з мякінаю вярнуці;
Аж калі хапну я за нешта—
І сіл маіх прапала рэшта!..
«Згубіў і памяць, і адвагу,
Дрыжу, хістаюся, як колас,
І не магу, і даў-бы цягу,
А тут—бух! нейкі страшны голас:
Не чалавечы, не сабачы—
Люцыпар с пекла неіначэй!
«Сабраў я тут астаткі сілы,
Ды як нагамі не задыдню!
Хоць-бы схавацца да магілы,
Але ўцячы ад гэтай злыдні!
І прыляцеў к вам гэтак брацьця,
Вы-ж прыце чорта выганяці!..»
І ўсім не па сабе нам стала:
Мурашкі бегаюць па целе,—
А што, як праўды тут не мала,
І ўбіўся чорт на самым дзеле?
Але ўсе надрабляем мінай
І ў ток зьбіраемся з лучынай.

Ідзём. І Юрка дрыпе ззаду.
Прышлі. З увагай, як належэ,
Давай шукаць пужалу, здраду
Па ўсіх вуглох, куткох манежа.
Аж, бач, у куце, у мякіне
Ляжыць сьвіня, як усе сьвіні!!!
Ўсе ў рогат! кпінкі і прытыкі
Пашлі у ход на ўсе староны.
Зух Юрка! Чорт жыў і вялікі!
Ці не пагнаць вадой сьвянцонай?..
А Юрка... Юрка с пустамелі
Стаў с часам сьмелым і на дзелі.

---

# Сват.

(З апаведання старога дзяцюка).

Ня зведаўшы броду,
Ня сунься ў вóду.
*(Прыказка).*

«Гэй, лінь там у чарку!—Вы-ж ціха быць хлопцы!
Ты, Ганька, агню мне нашчупай у копцы.
Як лыкну, як пыкну, дый збаю ў прыпеўцэ,
Як быў я малодшым, як сватаўся к дзеўцэ».
— Вось гутаркай гэткай азваўся Міхалка,
Вядомы ўсім чыста манюка, брэхалка.
— Зімой было гэта,—гаворыць ён далей,—
Дзянькі месаеду прышлі, загулялі,
І ўсё загуляла: дзень будні—нядзеляй,—
Німа таго дня—вечарынкі, вясельля.
Папіў той гарэлкі, той едзе у сваты;
Бяз госьця, бяз чаркі ня нойдзеш тэй хаты.
Глядзеў я, глядзеў я,—дый вытрымаць трудна!—
А быў я натуры ня вельмі маруднай.
Сюд-тут—і гатова: ўжо еду са сватам,
— Памёр (пакой вечны!), ўсё звалі Кандратам,—
Знаў добра, як, што, да чаго ў такім разе,
Па слова ніколі ў кішэню не лазіў.

С сабой у дарогу гарэлкі набралі,—
Шынок быў пад Гайнай, шынкар зваўся Гдалей,—
Конь добры быў сватні, званок прычапілі,
З бутэлькі пацягнем—што значаць там мілі.
Эх, чаркі вы, чаркі, хто з вамі задрэме?
Беда—не беда, акіан—па калені!
— Гэй, крыкну, кіруй, сват! Конь прэ ва ўсе ногі,
Хоць дзеўкі ня знаў я, а сват—к ёй дарогі.
Кіруй, сват!—Мінаем даліны і горы;
Ноч ясна, марозна,—і месяц, і зоры.
Званок заліваецца, сьвішчуць палозьзя,
Сьнег скачэ, конь пырхне,—тры пляшкі у возе!..
Ляцім... Вось прыехалі, вылезлі с санак;
Сабака забрэшэ; хтось вышаў на ганак.
— «А хто там?»—так чуем.—«Свае, кажэм, людзі».
— «Дык проша-ж у хату!»—Сват нешта марудзе.
Ідзём. Вось і ў хаце. Лучына палае.
Я толькі гляджу, дзе мая маладая.
С парогу сказалі, як сьлед, «...пахвалёны!»
— «На векі!»—сказаў гаспадар на паклоны
І просіць садзіцца. Мы селі на лаве.
Ці гладка рэч, думаю, пойдзе аб справе?
Ня быўшы ў такіх перэплясах ніколі,
Сам неяк ня свой я, баюсь мімаволі.
Асталі тытун, затуманілі люлькі,—
Капшук мой быў слаўны—дастаў ад бабулькі,—
І, як-бы нідзе ні аб чым і не дбаем,
С пустога ў парожняе пераліваем:
Адны хтось маўчаць з нас, а слухаюць тые,
Ці тые замоўкнуць, каб чулі другіе.
Прайшло с паў-гадзіны. Тут сват азірнуўся,
Выходзіць у сенцы, з бутэлькай вярнуўся
І гутарку аб інтэрэсе заводзіць.
«Пачну, кажэ, проста: круціць нам ня ўходзіць.
«Прыехалі к вам мы тавар агледаці;
«Барыш на стале во, і мы ў вашай хаці!»
(Вось гэтак, прымерам, па добрай ахвоце
Сваты пачынаюцца ў нашай прастóце).
Тут наш гаспадар, як ні ў чым не бывала,
Вядзе ў сенцы нас, дзе кабыла стаяла!



12

«Эх, лоўкая, шэльма, і ўсё есьць ахвотне!
«Німа ў бягу лепшай. Аддам за паў-сотні.
«Гіршонак Гаенскі прыходзіў сягоньня,
«Бяз торгу клаў сорак і пяць на далоні».
Як гэта пачуў я, ўсяго аж затрэсла!
Куды тут нячыстая свата занесла?
А ён (пакой вечны!), не сьцяміўшы рэчы:
«Мы ў сваты прыехалі к вам, чэлавечэ!
«Хлапец і ня бедны, і добрай натуры,
«Завецца Міхалка, жыве каля Жмураў...»
Я лыпнуў вачыма. Тут зноў не ўспадзеўкі:
«Даруйце, васпанство: німа ў мяне дзеўкі!
«Ўсіх баб—мая баба, дый гэтая кляча,
«Ніхто ў мяне больш іх ня чуў і не бачыў!»
Каб лепей хто ляпнуў анучай па мордзе,
Як гэта пачуці у гэткай прыгодзе!..
Як вышаў я с хаты, як селі мы ў сані,
Як ехаў я с сватам,—хваліў як, ці ганіў,—
Вы сьмейцеся самі ці лайце ад ведзем:
Мы с сватам тым часам к другой дзеўцэ едзем.
Бо трэба вам ведаць, што сват мой, Кандратка,
Ні ў чым не атступіць, хоць шло-б ня ўсё гладка.
Прыехалі. Зноў гэтак сама сустрэлі.
Сват мой падбадрыўся, мяне больш асьмеліў.
Дый мне лягчэй стала: тут бачу дзяўчыну,
Хоць дзеўка, сказаць,—адпусьці, Божэ, віны!..
Сват гэтаго толькі не цяміць нічога:
Яму ўсюды проста як з моста дарога.
Гарэлка ізноў на стале загасьціла,
Пайшло дзела ладам; бяседа—аж міла.
Дзяўчыну ўжо маем—што болей нам трэба?
Дый буталь гарэлкі—к ёй хлеб і да хлеба.
Ўсё гэта ня кепска—па першай неўдачы,
Аж з радасьці сват мой чуць-чуць не заплачэ!..
А я пагледаю к дзяўчыне з-за пляшкі,—
Па целе так проста і скачуць мурашкі!
Кляну ў духу жонак, сватоў ўсіх і дзевак...
Тут быў для мяне не канец неспадзевак!
Не даў, знаць, Бог шчасьця мне ночкаю гэтай,
Ці мо пад такою радзіўся плянэтай...

Папіўшы гарэлку, дамоў маем ехаць;
Сват асалавеў мой, зрабіўся—як вехаць.
Ідзём... Бач, за печай сядзіць дзяцей двое:
Адно—хлапчанё, а дзяўчынка—другое.
— «Чые, спытаў, гэта?»—аж дзеўка с куточка:
— «Мае, мой ты мілы, сыночэк і дочка»...
Што-ж болей? Эх, болей... падлій там сівухі!—
Ну, і наварыў-жэ мне сват саладухі!
Прашло с таго часу год дваццать без мала,
На сьвет многа што прыбывала, ўбывала;
Жаніліся людзі, праўлялі хрысьціны,
Мне толькі на жонку не стала дзяўчыны...
Больш сватацца к дзеўкам мінула дурнота,
Прапала адвага, адпала ахвота...
— Так байку закончыў сваю нам Міхалка,
Вядомы ўсім чыста манюка, брэхалка.
Я слухаў, спісаў тут і вам ахвярую,—
А ну-ж прыдзе к смаку, тады дам другую.

---

## Паляўнічы і пара галубкоў.

(Легенда з індыйскай кнігі Магабгарата).

*Пасвячаю прафэсару Б. Эпімах-Шыпілло.*

Ў Магабгараце, кнізе Інд, якой лет тысячы тры лічым,
Такая повесьць там стаіць аб галубкох і паляўнічым.

I.

Быў чэлавек, якога ўсім было заняцьцем—палеванне;
У лесе, ў полі дзень і ноч, як быццам ляжэ там і ўстане.
За птушкай птушку лове ён са хцівасьцяй благой у змове,—
На рынак цягне прадаваць, прадасьць, і ўзноў ідзе і лове.
Пануе ў пушчы, бы ў якім сваім за хатай агародзе,
Ў сямьі крылатай пуд і страх сілом і клеткаю наводзе.
Паміж бацькоў, паміж дзяцей птушыных сее ён разлуку,
Ні ласкі к ім, ні жалю к ім ня меў, не знаўся з іхняй мукай.
С сумленнем дружбы не вядзе—да крыўд і мук яму зло сватам;
Закон багоў яму ні ў што; з душы і сэрца вечным катам.
І доўга так палюе ён, знімае так ахвяры ў клеткі,
Ажно прыпадак не малы спаткаў яго ў пустыні гэткі:



12*

II.

Дня аднаго ў кустох блудзіў і лёгкаго выглядваў хлеба,—
Пагоду ясную і дзень на ноч зьмяніла бурай неба.
За хмарай хмару валакло, а грозна, чорна, без устанка;
Пярун ляцеў за пяруном, што міг—маланка за маланкай.
Ліло, як з рэшата, дажджом, раўняло нізкі дол з узгорам,
І лес, і поле абняло, як пеклам, як шалёным морэм.
Заціхла птушка, зьвер заныў; лес-хата—ўжо ня быў ім хатай...
За грэх караў зямлю, ці што, так грозны Сатакрата.
А паляўнічы, хоць і мок—не пакідаў сваей работы:
Галубку ўбачыў пад кустом—за крыльля ўзяў злавіў з ахвотай.
Дабыча лёгкая была: галубка, выбіўшыся с сілы,
Хоць і хацела—не магла ляцець, чэкаў яе дзе мілы.

III.

Тым часам сьціхла бура ўжо, але і вечэр быў на сьвеце;
На небе месяц абышоў, і зоркі сталі ў небе йрдзеці.
Што тут рабіць? дамоў ісьці?—Ісьці і цёмна і далёка;
У лесе цёмным начэваць?—і небаспечна, і ня лёгка:
Усюдых сьвеціцца вада, вада зліваецца з галінаў:
Нічым нідзе дастаць агню, а тут ешчэ і рык зьвярыны...
І голад такжэ не маўчыць: пара даўно чаго паесьці...
Нічога. Рады ўжо німа. Прышлося ў лесе ноч правесьці.
Пад дрэва буйнае ідзе, шукае ў ім сабе апоры;
У знак пакоры—галаву схіліў і так яму гаворэ:
«О дрэва, будзь пристаннем мне: ў сваей з багамі мей апецы».
Сказаў, і лёг на камень там, пры ім галубка тут-жэ ў клетцы.

IV.

А гэта дзерэва было сялібай, хатай галубковай:
Сядзіць прамоклы на ім ён, і так бядуе слова ў слова:
«Куды загінула мая галубка, вечная падружка?
«Такая страшная пара! як выйдзе жывенькаю птушка?
«Мо вецер зьбіў яе куды, ці дождж пасек нешчаснай крыльлі,
«Ці вораг бедную злавіў, ці пяруны на сьмерць спалілі?
«Што мне з жыцьця, калі яго ня будзе ўжо с кім каратаці:
«Жыцьцё і сьвет тады—ня сьвет, і сам ня свой у сваей хаці.
«Палац з брылянтоў; сотні слуг хай за цябе паложуць грудзі,—

«Без ласкі—с слугамі палац астрогам, пусткай вечнай будзе.
«С падружкай мілаю і лес як найбагатшы стане хорам...
«Німа яе—німа жыцьця, усё аднэй няўцехай, горэм».

V.

Галубка чуе галубка, і сэрцэ радасьцю ей бьецца,—
Што гэтак помне ён аб ёй, такому жалю аддаецца.
Але ня доўга шчасьце ей усьмехам думкі калыхала:
Галодны тут-жэ госьць лежаў, а гэта значыла не мала.
«Ня думай, мілы, аба мне,—так галубку галубка кажэ:
«Уперад волю споўнь багоў: яны пры ўсём стаяць на стражы...
«Гасьця ты маешь у сябе: замёрз, і есьці пэўне хочэ,—
«Заняцца шчыра мусіш ім, каб не пракляў цябе і ночы».
Пачуў, стаў весел галубок, ад радасьці аж як не плачэ.
Сьпяшыць гасьцю служыць, пытаць, якую той цярпіць нестачу.
«Я змёрз», гаворэ той яму. Галуб рад памагчы ў прыгодзе:
(Бо-й дрэво ў цень хавае свой таго, хто нават сеч прыходзе).

VI.

Гальлё сухое і лісткі зьбірае, колькі сілы мае,
Кудысьці злётаў па агонь, развёў і госьця ўзноў пытае.
А паляўнічы да яго: «дай есьць, галодзен я сягоньня».
Тут бедны галубок схмурнеў: не знае, дзе яду спагоне.
То-ж ён па-птушэму жыве, жыве тым, што пашле здарэнне;
Німа запасу ў галубка. А госьць ня можэ знаць цярпення.
Падумаў трохі галубок і штосьці выдумаў такое...
«Спакоен—кажэ—госьцік, будзь, і голад твой я заспакою.
Сказаўшы гэта, над агнём тры разы звольна акруціўся,
І як маланка, як стрэла ў вагонь, як ёсьць, жыўцом зваліўся...
Ўстрос паляўнічым страх і жаль; дае зарок ня жыць так болей:
Спаліў прылады ўсе свае, галубку выпусьціў на волю.

VII.

Дый воля ўжо ей не ў карысьць. Сядзіць і сумненька бядуе:
«І лес, і сонцэ, і прастор мяне ня цешаць маладую.
«Дружок ужо на сьвеці тым; с кім варкаваць, як даўней буду?
«Нядолю-долю с кім дзяліць?.. Жыцьцё ўжо мне няспыннай жудай.

«Пайду за ім, пайду к яму. Прыймі мяне к сабе, мой любы!»
І з гэтым словам, як і ён, звалілася ў вагонь-загубу.

Ешчэ больш паляўнічым тут затрэсла скруха-нецiхота:
Лавiцi птушкi у сiло на век атпала ўжо ахвота.
Пакуце здаўся за грахi: узьдзеў пакутны ўбор жэбрачы...
Рэкой iдзе—ня пье вады, у лесе птушкi, як не бачэ.
Аж так дабрыў, дзе лес пылаў... Уляцеў i сьледу не аставiў...
Па сьмерцi ўбачыў галубкоў памiж сьвятых на небе ў славе.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Усю гэту повесьць знаем мы аб галубкох i паляўнiчым
З Магабгараты, кнiгi Iнд, якой лет тысячы тры лiчым.

---

## Ў Купальскую ноч.

Цёплым летам на Купальле,
Як ноч ляжэ безгранiцы,
Зводы, чары блiжэй, далей
Вiдны ў пушчы над крынiцай.
Ля калоды, на калодзе—
Ў кожным лесавым куточку
Кветка-папарась усходзе,
Зацьвiтае ў гэту ночку.
Хто захочэ ў цёмнай гушчы
Пашукацi, паспытацi,
Падпiльновуе Дух Пушчы
I не дасьць нiчога ўзяцi.
Вось, глядзiце! Зважна, цiха
Чэлавек iдзе, крадзецца;
Што за немач, што за лiха?
Цi-ж нiма ўжо дзе падзецца?
Вочы кроўю налiлiся,
Аб зуб зубам страх ляскочэ,
Клубам гнецца, прыхiлiўся:
Кветку-шчасьце цапнуць хочэ.
I мармочэ, як с прассоння,
Пад шурпатымi сукамi:
Цi-ж, як летась, i сягоньня
Мне с пустымi йсьцi рукамi?
Кожны год iду сюды я,
Кожны год надзею маю,

А тут немачы нямые
Круцяць, верцяць з боку, с краю.
Зьбіўся с толку, жыць ня змога;
Вечны голад кветкі-шчасьця,
То ад Бога, то да Бога
Гоне, цісьне, як з напасьці.
Стой! Здаецца, вун зірнула,
Як-бы зорка, як-бы сонцэ!
Ах, ня тое! Адвярнула!..
Гэта шышка на сасонцэ».
Ну шукаці, як шукаці!
Цемра з нетрай скачэ скокі,
Звод хахочэ ў цёмнай гаці,
Смоўж зіркае аднавокі.
Так шукае, лазе лазам,
Просіць, моліць, заклінае,
А Дух Пушчы с пушчай разам
Успамінкі ўспамінае:
«Кінь шукаць, спраўляць скавыты,
Не чэпай маіх харомаў!
Я Дух Пушчы, дух сярдзіты,
Не спушчу нідзе нікому!
Кветкі пільна я пільную,
На замкоў замкнёна сорак,
А дарожку даў такую:
Людзкіх костачак узгорак.
Не пачуеш нашай рады,
Будзе тое і с табою!
За цьвяточак для прынады
Ты заплаціш галавою!
Як на сьвет сьвет нарадзіўся,
Як душа засела ў целі,
Ўсе ляцелі к гэтай місе,
І ні водные ня елі.
Пушча знае, што бароне,
Што ей дадзена на сховы,
Крыжам ляжэ на загоне,
А не дасьць надзець аковы.
Атчапіся, атхрысьціся!
Доляй-казкай счараваны,

Ты ешчэ не дарасьціўся
Цьвет пасьцігнуці жаданы.
Бачыш, ночэнька, як сажа,
Жджы лепш раніцы, ня кветкі!»
Так Дух Пушчы с пушчай кажэ
Чэлавеку на пасьледкі.
А ён блудзе, ходам ходзе
Тамка, тутка, далей, бліжэй,
То скрадаецца, як злодзей,
То бярэцца плазам-крыжам,
То абыйме дрэва-елку,
То рукамі водзе пуста,
То пагоне с хвойкі белку,
То спужае птушку с куста.
Пад нагамі мох шапочэ,
Лісьці ласюцца па твары,
Ён шукае і мармочэ,
Як ня чуе чараў-мараў.
«Проч загіньце, ведзьмы, злыдні!
Вун вам верас, вун вам лычка;
Ці няўжо вам не абрыдне
Шаматаці мной, як тычкай.
Шоў я полем, сенажацей,
Шоў гарою і далінай,
А тут кветкі не спагнаці,
Хоць хавайся ў дамавіну!
А на што ж мне над калыскай
Аб ёй ночка напевала?
Напевала, што ўжо блізка,
А пасьля сама схавала.
А на што-ж мне на папары
Насьвістовыла жалейка,
Жальма жаліла на сквары?
Аж і сьціхла, дабрадзейка!
А на што-ж мне звонам косы
Вызванялі на прасьцягу?
Самі выгубілі росы,
Мне пакінулі боль-смагу.
А на што-ж мне на вясельлі
Пелі, гралі, чаркі білі,

Самі сьціхлі, занямелі,
Мне ўчэрашні дзень згубілі?
А на што-ж мне на калядьі
Галасілі па-хаўтурну?
Самі вылеглі загладай,
Я у жальбе сную бурнай.
А на што ўсё гаварыло:
Жджы на кветку, на Купальле!
З году ў год чэкаю мілай,
І шукаю бліжэй, далей.
Можэ тамка? можэ гэтта?
Пнуся, рвуся ў зад і ў перад—
І на лета, ўсё на лета...
Вязьнем я і кветка ў нерат.
Не трашчыце, не шасьціце,
Сухалесы, пустацьветы!
Дайце кветку, дайце жыці,
Не чаруйце у сусьветы!
Мох, чарнобель, расхіліся!
Кветка, кветка, выглянь сьмела!
Чорнай кроўю ўвесь абліўся,
Сухажыльле зводзе цела...
Стой! Здаецца, вун зірнула,
Як-бы зорка, як-бы сонцэ...
Ах, ня тое! Адвярнула!..
— Гэта шышка на сасонцэ».
І пабег, пабег па лесі,
Закруціўся дымам-пылам,
Стаў, глядзіць, на грудзі зьвесіў
Галаву над пнём пахілым.
А Дух Пушчы с пушчай разам
Успамінкі ўспамінае,
І так далей кажэ сказам,
Ночка слухае немая.
«Вырві сэрцэ, высуш сэрцэ,
Запалі агнём, як сьвечку!
Не глядзі, што кроў сатрэцца,
Не паглядывай на печку!
Як ноч прыйдзе, гэта ночка,
Выйдзі с сэрцэм, як с паходняй,

Ад кусточка да кусточка
Асьвяці мой хорам годне!
Так сьвяці, ня бойся мукі,
З верай вернай і надзеяй,—
Кветка прыйдзе сама ў рукі,
Толькі сэрцэ спапялее.
Чуеш гэта, зробіш гэтак?
Будзеш панам, слаўным князем,
А ня зробіш, сотні летак
Выць так будзеш паміж вязьзем.
Прыйдзеш, пойдзеш у нягодзе,
Віцца будзешь, як вужака,
Дзень, ці ноч, не скажэш: годзе!
Чахнуць будзеш, небарака!
Бачыш, чуеш: царство нашэ
Вечна, сільна, неўгамонна;
Духа Пушчы не застрашэ
Ні сякера, ні карона.
Не ўздымайся сухавейне,
Не вышуківай закляцьця!
Скора поўнач, скора пеўні
У тваей зайграюць хаце».
Дух гамоне, лес трасецца,
Стогнуць хвойкі і асіны,
Шум пакоцісты нясецца,
Як хто гіне, або згінуў.
Чэлавек маўчыць, марудзе,
Ў зад, у перад пройдзе, гляне.
Вось мінута, а штось будзе,
Можэ, можэ, і дастане...
Абы поўнач, як маланка,
Не змахнула цьвет закляты,—
Прахам пойдзе ўся гулянка,
Зноў год жджы на гэта сьвята!
Што?! Стаіць, глядзіць, о, Божэ!
Кветка-папараць абходзе,
Зацьвіла, як мак прыгожа,
Якбы сонцэ на усходзе.
Схамянуўся, прэ кустамі,
Як шалёны, прэцца к кветцэ;

Лес кусаецця сукамі,
А ён туж дапрэ, здаецца.
Раптам певень загалосе
Нейдзе ў вёсьцэ, ў роднай вёсцэ.
— Усё—як сон... не асталося...
Лісьць трасецца на бярозцэ.
Ні то с пуду, ні то з жалю,
Вочы трэ, глядзіць нясьмела:
— Пуста, дзіка бліжэй, далей,
Толькі штосьці зашумела.
Зашумела, замуціла,
Дзікі хохат паплыў рэхам,
Думка сьніла, не дасьніла,
Паляцела с пушчай сьмехам.
Паваліўся, як сноп жыта,—
Як сноп жыта пры сасонцэ.
Крык адно, як звон разьбіты:
«Дайце кветку! Дайце сонцэ!»

---

## На Дзяды.

Хто там стогне так на ўзьмежку,
 На капцы у полі?
Як згубіўшы к долі сьцежку,
 Як незнаўшы долі.
Ці там вецер водзіць гулі
 Так па самагубе,—
Бы сваё дзіцё матуля,
 Песьціць ды галубе?
Ці над бацькаўскай магілай
 Жаліцца сіротка,
Ці сваей шукае мілай
 Хлопец-адзінотка?
Ой, не плачэ брат над братам
 На мяжы кургана,
А бядуе так душа там
 Зьвязана, скавана.
Хто умее слухаць,—можэ
 Шмат пачуць чаго там;

Як прычытвае нябожэ,
Бы Лазар пад плотам.
Не жылося мне даўней так,
(Льецца гэткі голас),
Не такі мой быў палетак,
Іншы меў ён колас.
Шла мая ў даль дзіва-сіла,
Як-бы хвалі Нёмну;
На касе сваей насіла
Княжэцку карону.
Ніў маіх ніхто-б ня зьмерыў,
Ні зьлячыў сялібаў;
Мела ў пушчах многа зьвера,
Многа ў водах рыбы.
Заседала, расьцвітала
За гадамі годы;
Залатые думкі ткала
С шчасьця і свабоды.
Мелі страж гранічны вехі;
Гадавала дзетак
І чэкала з іх пацехі,
Як вясною с кветак.
Трох сыноў дала судзьбіна
Да майго парога,
А такіе--сын у сына,
Як нідзе, ні ў кога!
Іх пясьціла, як умела,
Ласкаю вясёлай;
Красак, сонца не жалела
Я для іх, саколаў.
І расьлі яны, расьлі так
Мае княжэнята
На багацьце, на прыбытак,
На вось тое сьвята,
Як са мною будуць разам
Жыці, панаваці,
Славы быць жывым абразам
У людзей і ў хаце...
Бегам беглі дні і ночкі,
Леты за летамі...

І павырасьлі-ж сыночкі
Самі, як не самі.
Як дубы у полі чыстым,
Як сасонкі ў боры,
Як у небе абадзістым
Тые сьвечкі—зоры,—
Так магучы, яснасьветны
На пагляд былі ўсе,
Хоць да бою з апраметнай...
Ажно сьвет дзівіўся!
Ды ўдаліся, ой, сынкі мне
Не аднэй натуры,
Як-бы тые ноткі ў гымне
Цішы і віхуры.
Працавітаго быў першы
Складу і нагібу,
Так, здаецца, што й памершы,
Ўсё араў, касіў-бы.
За другім была ахвота
К лежні, к панаванню;
За чужой-бы жыў работай,
Спаў-бы да зьмеркання.
Трэці ўсіх-бы толькі мучыў—
Склад меў быці катам,
С паганякаю на ўзруччы
К зьдзекам быў заўзятым.
Вось, такой натуры, складу
Ў іх я дачэкала;
На дармо́, як мёд-прынаду,
Думка ў думку ткала.
Не прышлось мне жыць на сьвеці
Ў славе і дастатку:
Загубілі родны дзеці,
Загубілі матку.
І сярэдні, і малодшы,
Родные дзяціны,
Як мая—пашлі к салодшай
Ласцэ без прычыны.
Ў сьвет збрылі чужы дзівіцца,
Гнуць у ёрмы шыі...

І ўтапілі ў чужаніцы
Душы маладые.
Аставаўся толькі старшы
Гаспадарыць дома,
Бо ат тых быў гаспадаршы,
Хоць быў ў іх за лома.
Аставалася адна я,
Сын адзін са мною,
Як той путнік на разстаю,
Летам і зімою.
Сяк, ці так, жылось паволі
Ў палавіне з горэм
Тым у хаці, тым на полі,
А другім за морэм.
Аж дакучыла, знаць, далей
Недзе так бадзяцца,
І сынкі зьбірацца сталі,
З-за далёк вертацца.
Як прышоў дамоў, сярэдні
Выгледаў багата,
Й не пазнаў, як зьвер пасьледні,
Ні мяне, ні брата.
Ў плуг запрог свайго браточка
На век, да скананьня,
А мяне асенней ночкай
Выгнаў на бадзянне.
Як дамоў вярнуўся меньшы,
Сьвету як увідзеў,—
Аказаўся дасьціпнейшы,
Чым сярэдні, ў крыўдзе.
Над старэйшым братам ставіў
Стражы і запоры,
Цела ранамі крывавіў,
Зьдзекаваўся ў горы.
Зьдзекі далей строіць дай-жэ,
Ласку с сэрца выжыў:
Суд судзіў, што я, не я ўжо,
І расьпяў на крыжу.
Так мая краса завяла
І маей сялібы!

Ліхата апанавала
І капцы, і ськібы.
Атплацілі роднай матцэ
Княжэняты-дзеці:
Відмай кінулі бадзяца,
Сіратой гібеці.
Ходзюць, гонюць сухавеі
Праўданьку сьвятую;
Брата брат не разумее,
Брата брат катуе.
Я на гэтым на кургане
Ўсё сяджу і плачу,
Ўсё чэкаю зьмілавання,
Дый ні скуль не бачу.
Ці апомнюцца сыночкі
У сваей правіне?
Ці загінуць сярод ночкі,
Што і сьлед загіне?..

. . . . . . . . . . . . . .

Стогнуць ветрам калыханы
Ліпы ды бярозы,
А ноч сее скрозь туманы
Золь, слату, як сьлёзы.
Лапацяць крыламі жутка
Кажаны, начніцы,
Як-бы суд спраўлялі тутка
Ведзьмы-чараўніцы.
А душа сама—без хаты,
Знаць, з вялікай мукі
То зрывае с сябе шаты,
То ў крыж зложэ рукі,
То паказвае на плечы,
То капец абойме...
Бог яго усё дарэчы
Зразумее, пойме!
Можэ з іншаго хто краю
Скеміў-бы сумленне,
Што яна там вычварае
З жалю і цярпення.

Што нам кажэ ночкай цёмнай
На мяжы ў пракляцьці,
Як Дзяды ў нас векапомны
Стануць атпраўляці.

---

## На Куцьцю.

I.

На небе зоры ўжо мігцяць,
На полі срыбны сьнег іскрыцца;
На бел-сьвет дзівы выпраўляць
Пляцецца ночка-чараўніца.
Глуш абнялася с цішынoй
I спавівае ўсё у чары,
Паўзуць і сеюць шорах свой
Старым парадкам цені-мары.
Вылазе с цемры бледны звод,
Глядзіць сьліўнём на долы, горы,
I тут і там пускае ў ход
Свае нямые загаворы.
I тут і тамка свой прыгон
Распасьцірае царство ночы;
Салодкі сон, магільны сон
Сьмяецца сьвету ўсяму ў вочы.

II.

Занылa ўсё, замёрла ўсё,—
Ня сьпіць адвечнае замчышчэ:
Там пачынаецца жыцьцё
Ў вагнях старога папялішча.
Іскрыстым, блескатным сьвятлом
Заліты княжскіе сьвятліцы,
Дружына вольная кругом
Сталоў дубовых варушыцца.
Золататканы абрусы
С сталоў звісаюць дыванамі,
На абрусох чысьцей расы
Віно красуецца каўшамі.

Духі мінуўшчыны куцьцю
На старасьвецкі лад спраўляюць.
Даўно бываламу жыцьцю
Дары належные складаюць.

III.

На беласьнежны на пасад
Усходзе князь, усходзе княжна;
За імі слуг пачэсны рад
Стаіць задумчыва, суважна.
Агні брылянтаў, як зарніц,
Зіяюць с княжэскай кароны,—
Краса бье с князеўных зраніц,
Як блеск маланак развуглёны.
Звярнулі вочы ўсе ў іх бок,
Прымоўклі гоманы дружыны;
Ўсіх званых зблізку і здалёк
Саколім вокам князь акінуў.
Бярэ коўш соладка віна,
Пье за дружыну маладую,
І княжна с князем пье да дна;
Князь рэч вядзе да ўсіх такую.

IV.

«Адзін, адзін раз толькі ў год
«Збірацца можэм з ласкі Рока,
«Каб лет іржавы карагод
«Зганяць з мінуўшчыны далёкай.
«Нас не кранулі косы зьмен:
«Царым мы ў дум жывых гэйнале,
«Хоць на падмурах гэтых сьцен
«Другіе наш пасад занялі.
«Багі другіе верх бяруць,
«Суды вядуць над нашым краем,
«Сьвяцільні-ж нашы не замруць,
«Што ў сэрцах вольных рассьветляем.
«Прашу паклікаці ганцоў
«І мейсцэ даці ім па чэсьці:
«Ад нашых стоптаных капцоў
«Якіе нам прыносюць весьці?..»

V.

Закончыў князь, махнуў рукой;
Уходзяць тры ганцы ў сьвятліцу,
Ідуць суважнаю ступой
І князю, й княжне пакланіцца.—
    А першы гэткі сьветлы быў,
    Як небам сланные прамені:
    Ў руцэ меў сьветач, што на зьдзіў
    Усе усюдах зводзіў цені.
А быў другі і з ног, і з рук,
Як гром з жывымі пярунамі:
Ў руцэ меў стрэл жалезных пук,
І лук стальны меў за плечамі.
    А трэйці быў і раб, і цар,
    І слаб, і дуж ва ўсякім дзеле,
    Як вечнасьць, молад быў і стар;
    Меў гусьлі—на грудзях віселі.

VI.

І першы князю гэткі сказ
І княжне скажэ міласьцівай:
«Я абышоў іх тройчы раз
«І відзеў, што ешчэ ўсе жывы.
    «А толькі ўсё той самы лад:
    «З вачэй не зняты йшчэ павязкі,
    «Ці йдуць у перад, ці назад,
    «Відны сьляды цямрычнай ласкі.
«А як ішоў між іх з сьвятлом,
«Яны пачулі, ах, пачулі:
«Сьляпым заморэные сном,
«Худые рукі ў высь цягнулі.
    «За мною ўсьцяж, і тут, і там
    «Іх вусны бледные шэпталі:
    «Аддайце сонцэ наше нам!
    «На што схавалі—расхваталі?»

VII.

Другі за першым князю сказ
І княжне скажэ міласьцівай:

«Я абышоў іх тройчы раз
«І відзеў, што яны ўсе жывы.
«А топчуць толькі ўсё той сьлед,
«Валочуць ёрмы за сабою;
«Ці ўбачуць корч, ці ўбачуць цьвет,
«Аднэю жаляцца сьлязою.
«А як чапнуў стралой аб лук,
«Яны скрануліся ў прассонні,
«І столькі, столькі крэпкіх рук
«К маёй пацісиулася броні.
«За мною ўсьцяж, і тут, і там
«Іх вусны бледные шэпталі:
«Аддайце славу нашу нам!
«На што схавалі—расхваталі?»

VIII.

І трэйці князю гэткі сказ
І княжне скажэ міласьцівай:
«Я абышоў іх тройчы раз
«І відзеў, што яны ўсе жывы.
«А толькі торг усё ідзе
«Над іх душою патаптанай;
«Яны, як цені, ў грамадзе
«Маўчаць і йдуць на пір паганы.
«А як я ўдарыў па струне,
«Заметушыліся, як пчолы,
«І на гарэ, і нізіне
«Мне падавалі голас кволы.
«За мною ўсьцяж, і тут, і там
«Іх вусны бледные шэпталі:
«Аддайце песьню нашу нам!
«На што схавалі—расхваталі?»

IX.

Сказаўшы так, маўчаць ганцы,
Маўчыць і князь крыху часіны,
І дасьць адвет такі ў канцы
Ганцам на іхніе навіны:
«Ня ўмруць, ня ўмруць ужо яны,
«Раз хочуць сонца, славы, песьні;

«Забьюць ім зычные званы
«Прабудным звонам на прадвесьні.
«Сваей забранай старане,
«Скаванай мучаніцы-княжне,
«Ўзнясуць пасад на кургане
«На панаваньне недасяжне.
«На дзеле—кожны йшчэ слугой,
«У думках—вольные ўжо людзі;
«Над сэрцэм іх, над іх душой
«Наш душ вітаці вечна будзе.

X.

«Вы, другі верные, ганцы,
«Як летась, сёлета, на лета
«Ўсе пагранічные капцы
«Абходзьце зноў з маім прыветам.
«Гусьлямі, лукам і святлом
«Будзіце, клічце і сьвяціце,
«І так спануйце іхнім сном,
«Каб сон іх счэз і ўсталі жыці.
«А пóкуль поўначь не прыйшла,
«Вясьці бяседу будзем далей;
«Засядзьце ўсе кругом стала,
«Хай зазьвініць віно ў крыштале.
«А чарку першую ўзнясём
«За цень мінуўшчыны у сеці,
«Другой к цяпершчыне прапьём,
«Праславім будучыну трэйцяй.»

XI.

Садзіцца княжна, князь, кругом
Садзіцца вольная дружына;
Шуміць бяседа за столом,
Плыве часіна за часінай.
І разгараецца ясьней
Паходня радасьці забытай,
І сьветазарнасьцей сваей
Вясёлкі сее самавіты.
Ямчэй нацягваецца лук,
Цэль рассекаюць агнестрэлы,

Дрыжыць паўціна і павук,
Дрыжыць прыблудак ачарнелы.
Ракочуць гусьлі звон-у-звон,
На мір-сьвет розгалас нясецца,
Як мір-сьвет, коціцца разгон
І ў думцэ казкай раздаецца.

XII.

Плыве шумліва, як рэка,
Бяседа вольная такая,
А ўжо нявідзіма рука
На небе поўнач ад'значае.
Залопаў крыльлямі пятух,—
І ціхне-ціхне ўсё ў замчышчы;
Замоўк разгул, агонь патух,
Старое згасла папялішчэ.
На пустку ўзбрыўшы, воўк завыў,
Пуціну заяц перамерыў...
А быў тут хто, або ня быў,—
І так і гэтак мала веры.
І так і гэтак свой прыгон
Распасьцірае царства ночы:
Салодкі сон, магільны сон
Сьмяецца сьвету ўсяму ў вочы.

---

## Забытая скрыпка.

I.

Доўга пад трамай лежала
Сьцішна ў вёсковым жыцьці,
Доўга лежала, чэкала
Скрыпка адна ў забыцьці.
Колькі шло лет за летамі,
Колькі шло, сходзіла сіл!—
Скрыпка дрэмала. Слаямі
Клаўся і рос на ёй пыл.
Потам залітые вочы
Гэткі ня мог сьлязіць глум,

Пальцу мазольнаму ў ночы
    Страшна крануць было струн.
Доўга чэкае і сьмягне,
    Покі хто с сэрцэм такі
Скрыпчыны струны нацягне,
    Гэткай чэкае рукі!..

II.

Шоў вёскай тэй падорожны,
    Чэзла дзе струнніца так,
Шоў і ў хаціну трывожна
    Сьмеліцца стукнуць бедак.
Зважна дамок адчыніўся.
    Просіць гасьціць гаспадар...
Скрыпка пад трамай.. зьдзівіўся...
    (Быў падарожны—песьняр).
Цягне скрыпулю с-пад трамы,
    Пыл абметае палой,—
Струны заенчылі самі,
    Жаляцца самі сабой.
Льюцца песьнярскіе словы,
    З доскай ліповай пяюць;
Зьвесіўшы людзі галовы,
    Слухаюць, думкі снуюць,

III.

«Доўга шукаў цябе, скрыпка»,—
    Гэткая песьня плыве,—
«Быў без вадзіцы я рыбка,
    «Ягадка ў буйнай траве.
«Рвалася сэрцэ і думы
    «Гэт, да незгадных сьвятліц,
«Клікалі хвойные шумы,
    Клікалі шэпты крыніц!
«Клікалі... Поўнілісь грудзі
    «Смуткам надзей і трывог...
«Шоў між людзямі ў вадлюдзьдзі,
    «Што мог, і то ўжо ня мог!

«Вёску мінаў я за вёскай,
«Плёўся праз выдмы, кусты;
«Трэбала, трэбала свойскай
«Музыкі, свойскай, як ты.

IV.

«Слаўся, сьвятая дабыча!
«Пан я сягоньня ўсіх ніў!
«Песень маіх не палічэ
«Той аж, хто зоры злічыў!
«Птушкаю з выраю буду,
«Пеці зязюлькай пачну,
«Радаўніц жалямі люду,
«Ў вочы цікава зірну!
«Громаў, маланак ахвотна
«Буду і цар, і пастух,
«Лягу расіцай вільготнай,
«Выш'ю вясёлкавы круг!
«Дзівамі кветкі купальскай
«Кожную зваблю душу;
«Буду неласкай і ласкай,
Богаў фальшывых скрышу!

V.

«Прыдзе Узьвіжэньне—стану
«Ў лесе парадак вясьці:
«Ў думкі жывіне ўсей гляну,
«Буду ўсей пушчай трасьці.
«Ночкай асенняй засяду
«За стол спраўляці дзяды;
«С *тым* сьветам буду мець раду,
«Ўспомню магілкі тады.
«Вымкну зноў птушкай на вырай;
«Сьвет не захочэ ўжо спаць:
«Будзе праводзіць ён шчыра,
«Будзе ён шчыра чэкаць.
«Грай-жэ, ты, скрыпка жывая,
«Кожнай расходзься струной!
«Хто мае сэрцэ? хто мае?!
«Гэй-жэ, за мною, са мной!

VI.

«Я пакажу ўсе вам чары—
«Чары ўсе неба, зямлі,—
«Шчасьця другога пажары,
«Дзе-б вы сагрэцца маглі.
«Праўду ў лад новы настрою,
«Новые песьні злажу...
«Гэй-жэ, за мною, са мною!
«К сонейку шлях пакажу!..»
Так прызывае—галосе
Скрыпка ў руках песьняра.
Эха пад неба няслося.
Днела ўжо; гасла зара.
Чуюць музыку суседзі—
Камень бы зрушыць магла!
Сьпеў песьняр. Глянуў, угледзіў:
Хата пустая была...

---

# За што?

I.

Ой, мае вы песьні,
Песьні весялушкі!
Будзьце мне слухмяны
Вы, мае пяюшкі.
Ці я сам у полі,
Ці я дзе з людзямі:
Цяжка мне, нялёгка,
Калі я не з вамі.
Мусіць я памёр-бы,
Каб мне вас не стала;
Мусіць паваліўся,
Як бярно павала.
Дык-жэ будзем жыці
Разам днём, ці ночай,
Пакуль сэрцэ бьецца,
Пакуль плачуць вочы!

Гаварыце, думкі,
Пакуль сонцэ ходзе,
Аб маей старонцэ,
Аб маім народзе.
Хай нясецца жальба
Там, гэй, на прывольле
Аб тэй нашай крыўдзе,
Аб тэй горкай долі!
Можэ хто пачуе
Розгалас прастачы,
Ўстане і прагляне,
Ўсю непраўду ўбачэ.

II.

У вадным куточку
Беларусі нашай
Пры узгорку лесу,
Пры лагчынцэ пашы
Меж кустоў, с-прад летаў
На пустым дзірвані
Пасяліўся Юрка,
Дзягель па празванні.
Туга йдзе с-пачатку
На такім загоне:
Ані тых будынкаў,
Ні ўзараных гоняў.
І наш Дзягель часта
Са сваёй сямьёю
Зліўся, як за грошы,
Потам ды сьлязою.
Год за годам сходзіць,
Бачуць гаспадары:
Юрка арэ, сее,
Цярэбіць гушчары;
Чынш двару заплаціць
Талакой, грашыма,
І жыве так, як-бы
Ў Бога за плячыма.
Зацьвілі загоны
Уселякім збожэм;

Як палацам, хатай
Пахваліцца можэ.
Эй, бо што мужыцка
Праца не падоле?
Дзірваны ў сад зьменіць,
А горы—на поле!

III.

Сорак лет так Дзягель
Жыў ня ў кепскім стане,
Пакуль пан стары жыў
І старая пані.
Але, як той кажэ,
Ўсё у нас ня вечна:
Годзе Юрку жыці
С хлебам і баспечна!
Новы пан прыехаў
І зьмяніў парадкі:
Прыказалі Юрцэ
Выбірацца с хаткі.
А ці-ж лёгка гэта?
Дый хто з вас не знае,
Як наш брат к зямельцэ
Бытцам прырастае.
З дзеда і на ўнука
Гэта пераходзіць,
Хаця тое поле
Родзіць, ці ня родзіць.
Бедны Юрка, бедны!
Зьвяў, як бы націна.
Шкода столькі працы,
Страшна цяганіна!
І пашоў ён рады
Па судох шукаці;
І прапаў спакой з ёй,
Прапала багацьце.

IV.

Год, другі праходзе,
Суд ідзе па судзе;

Юрка ўсё бяднее,
Багацеюць людзі.
Дзе той спрыт падзеўся,
Дзе тое здароўе?
Ў хаце непарадкі,
Проста, безгалоўе.
Тут-жэ суд апошні
І пастанаўленне:
Заплаціць расходы
І на высяленне!
А было ўжо лета
На зямлі шырокай;
Сёмуха мінула,
Петра не далёка;
Дабрыцо красуе,
Траўка зелянее.
Юрка кіне вокам—
Так і абамлее:
Ўся яго работа
Каля маткі-нівы
Пойдзе, як у процьму,
Марна, нешчасьліва.
Дарма ён і к пану,
І к усякім членам—
Бье паклон нізенькі
І гэтым, і гэным:
Станавы прыехаў
Выкідаць астаткі
З яго роднай ніўкі,
З яго роднай хаткі...

V.

Сьпета Юркі песьня,
Ўсё пашло па сьвеце:
Жонка у пясочку,
Людзям служаць дзеці.
Сам ужо да працы
Стар і слабаваты,
С торбамі папхнуўся
Ад хаты да хаты.

Пусткаю зірнула
У яго прысельлі:
Ні плужок, ні збожэ
Вока не вяселіць;
Зноў зрастаюць гоні
Лазінаю дзікай,
Зайцаў там ды соваў
Толькі чутны клікі.
Так звярцелась прахам
Доля чэлавека,
Так усё ідзе ў нас
Ад века да века.
Можэ хто ня верыць
Гэтай песьні сьлёзаў?
Дык паслухай толькі
Гоману бярозаў;
Што крыжы гавораць
Пры пуціне кажнай,
Ды званы на вежы,
Што гудзяць так важна;
А яны раскажуць
Аб маей старонцэ,
На якую глянуць
Страшна нават сонцу...

---

## Ў шынку.

Што заснуў там, шынкар? Гэй, сякі ты, такі!
На стол чаркі! Пьюць, знай, не здарма бедакі.
Не нам долю сваю ўспамінаць-праклінаць,
Налівай, выпівай, каб ня чуць і не знаць!
Ты, музыка, настрой нам скрыпулю сваю,
Я пад звон гулкіх струн аджыву, запяю!
Толькі рэж—не жалей, агнісьцей, весялей,
Так ад самай душы, ад збалелых грудзей!
Сірата я сягоньня—дзе гляну—вазьму.
Каліс бацьку я меў, пакой вечны яму;
Цегавіт быў, не раз не даспаў, не даеў,
Жаль старога—не ў час ён душой загавеў...

Дзе за вёскай пуціны ідуць на-крыж дзьве,
Там гурбок ты убачыш у цёмнай траве;
Там бярозка пасаджэна мною шуміць,
Салавейка вясной там сьпеваці ляціць...
...Свой напеў галасіла прадвесьне людзям,
Крутавата на вёсцы прыходзілась нам:
Тым нехват хлеба, корму,—падаткі другім
І той сон, і спакой аднімалі саўсім.
І стары мой у гэтым нічуць не адстаў:
Ледзь хадзіў, уздыхаў, штось пад нос барматаў.
Што рабіць? ёсьць Красулька—жывёлка адна,
Трэба ў горад, на торг,—німа рады, беда!
Сьлязіну-гарчыню абмахнуў рукавом,
За вяроўку, за цёлку, ды марш пехатом.
Толькі робіцца цёмна ў вачах бедаку:
І чамуж так усё не ручыць мужыку?
Вось і горад. Красульку таргуюць, прадаў,
Барыш лоўкі папіў, грошы добра схаваў,
Машыруе дамоў, падпевае з нуды,—
Хоць на час адкупіцца, ёсьць чым ад бяды.
Многа зьвера у пушчы у цёмнай снуе,
Болей злыдняў меж намі ё, людзі мае!
Многа сьцежэк-дарожэк ля нас лягло тутъ,
Толькі з іх мужыку—адны мукі і блуд...
Ужо ладна за горад стары адышоў,
Тут за пазуху зірк: што схаваў—не знашоў!
Ні кароўкі, ні грошы німа ўжо, німа...
Не беда: дзяга ёсьць, ёсьць пацеха адна!
Мы з дарогі чэкаем—і маці, і я;
Дзень, другі не відаць, ажно трэйцяго дня
Слых пашоў па сяле, што ў лясочку пятлёй
Хтось закончыў жыцьцё—гэта быў... гэта мой...
Гэй, што сьпіш там, шынкар? Эй, сякі ты, такі!
Болей водкі—пьюць, знай, не здарма бедакі!
Не нам долю сваю ўспамінаць-праклінаць,
Налівай, выпівай, каб ня чуць і не знаць!..

# У Піліпоўку.

... Помню, ў Піліпоўку гэта было.
Ой, спаганяў сьнег ахвоту!
Долы, дарогі, як ёсць, занясло;
Гурбы, як горы, ля плоту.
    Страшную людзі цярпелі зиму:
    Дзіка мяцеліцы вылі,
    С трэскам марозы гасілі ў сьцяну,
    Птушэк у лёце глушылі...
Ночка над вёскай. Во ў хаце аднэй
Курыцца дымна лучына.
Месьціць хацінка са жменю людзей:
Бацьку, матулю і сына.
    Бацька, сагнуўшысь, сядзіць за сталомъ;
    Блудны, прытухлые вочы...
    Печку падпёршы схудалым плячом,
    Маці паціху хліпочэ.
Далей, ля сьценкі, палочэк стаіць.
Думкі бацькоў там аж млелі:
Сын іх, Сымонка, тры дні ўжо ляжыць,
Тры дні на божай пасьцелі...
    С самых дзён малку Сымона свайго
    Так гадавалі, пясьцілі!
    Меці на старасьць падпору з яго
    Думкі супольна раілі.
Малец—як лялька, крэпячы, як дуб,
Прызыў падходзіў на лета,—
Высах, як шчэпка, стаў ціхі, як слуп,—
Песьня няпетая сьпета!
    Тры дні назад ешчэ з бацькам яны
    Шуркі у лесе стаўлялі;
    Гулка гудзелі там іх тапары,
    Елкі, асіны стагналі.
Вечэрам, дзіва! ні стуль і ні ссюль
Злёг і ляжыць, як павала;
Радзілась маці ўжо многа бабуль,
Зёлак усякіх давала.

Дарма яна яму гэтак і сяк
Піць, есьць нясе адначасьне:
Дні свае лічыць збалелы бедак,
Вось-вось часіна—загасьне.
Ўжо не чэкае сямейка дабра,
Аж тут, як волею боскай,
Доктар адзін па дарозе з двара
Ехаў, заехаў і ў вёску.
Выслухаў, выстукаў хлопца кругом,
Даў карталюшку на лекі;
Ехаць да гораду кажэ бацьком,
Ехаць хутчэй да аптэкі!
— «Сын здароў будзе, як рыба ў вадзе,
«Толькі лекарства прывозьце!»
Кінуў старым так і с хаты ідзе,
Дый толькі бачылі ў вёсцэ...
Мілі-ж тры ў горад; тры мілі—ня сьмех!
Конік худы—прыстаць можэ;
Тут ешчэ гэты нязьмераны сьнег,
Ды ночка пусткай трывожэ...
Трудная рада: да раніцы ждаць
Хвораму лекаў прышлося.
Бацька во сеў над сталом—ня йдзе спаць,
Маці над сынам галосе.
Ноч на аддых—адзін міг мужыку,
Годам зыходзе—ў нешчасьці.
Шмат іх, даўжэнькіх, ой, шмат на вяку,
Як-жэ тут к сьвету папасьці?..
Час бег... Апошняя стухла зара.
Неба бялее на ўсходзе.
Ну, Сьцёпка! Ехаці час і пара!
Годзе маркоціцца, годзе!
З гораду лекаў ты шмат навязеш,
Сын твой, як бачыш, устане!
Сільнай рукой пакіруе лямеш,
Свісьне касой на сьвітанні!

. . . . . . . . . . . . . . . . .

....Выехаў Сьцёпка. Чуць-чуць стала днець.
Конік малы, зацяганы.

Сыпка дарога; сьлед значэн ледзь-ледзь.
Дзень хмараваты, ветраны...
Ехаў, даехаў Сьцепан наканец,
Грош апаследні пакінуў,
Лекаў набраў і гайда, маладзец!
Валіць дамоў, бедачына.
Валіць... Піліпоўкай, ведама ўсім,
Дню лік—гадзіна, ня болей.
Выехаў з гораду—цёмна саўсім,
С конікам сам ён у полі.
С поўначы сівер наскочыў сухі,
Сьнегам стаў кідаць зласьліва;
Шум ад завеі панёсся глухі,
Пеклам і небо, і ніва...
Конік Сьцепанаў нага за нагой
Пхнецца ў сьнягу па калені;
Пройдзе і стане, трасе галавой;
Пугу што-раз чуе меней.
Пхнуўся, цягнуўся,—нарэшце, як стаў,
Далей ні кроку—трасецца.
Як яго Сьцёпка не гнаў-паганяў,
Хоць ты забі—ані з мейсца!
Шорах па целе Сьцепана пашоў.
Страшные родзяцца думы.
Шмат ешчэ вёрстаў дабрацца дамоў.
Пужаюць сьнежные шумы.
Што тут рабіць? Конь ня хочэ вязьці,
Дома сын лекаў чэкае...
Кінуць каня? Пехатою ісьці?
Жаль, дый і ночка-ж такая!
Ўсё-ж сын мілей!—Лезе с санак Сьцепан,
Крыжам дарогу зазначыў;
Цяжка на сэрцы, у вочах туман,
Боскаго сьвету не ўбачыш...
— «Будзь здароў, косю! Хоць жаль мне цябе,—
«Хворы Сымонка чэкае!»
Так шапнуў Сьцёпка і ў поле брыдзе,
Ў гурбах чуць ногі зьменяе.
Шоў ён, шоў дружна, а дзе і куды,
Зьбіўся і сам тут ня ведаў;

Сілы слабелі ад хуткай хадзьбы;
Думкі а сыне шлі сьледам.
Сьцісьне лекарства за пазухай ён,
Шэпчэ малітву да Бога,
І, хоць ня першы раз гэткі нагон,
Крадзецца ў сэрцы трывога:
Што, калі зьняў абрыдны яго блуд?
Як тады выйці у вёску?
— «Сядзь, адпачні!—штось яму шэпчэ тут,—
«Вось дзе, пад гэту бярозку!»
— «Праўда,—падумаў,—пара аддыхнуць,
«Многа прайшоў ты, нябожэ!»
Сеў і мацуецца, каб не заснуць,—
Ведаў, што стацца тут можэ...
Зьвіўся клубочкам і ціха сядзіць;
Лёгкасьць на сэрцы такая...
Толькі мяцеліца вые, шуміць,
Песьні яму напевае:
«Сьпі, мой Сьцепанка, дзіцятка маё,
«Я тут тваею ўжо паней!
«Гэткай пасьцелі ня меў за жыцьцё,
«Ў гэткай—і конь твой, і сані.
«Сына сьпяшыш ты, сьляпы, ратаваць?
«Ну, і на што-ж гэтак рвацца?!
«Лёгка-ж табе было век гараваць,
«З мачыхай-доляй змагацца?
«Я ашчасліўлю, мой братка, цябе,
«Ўбачышся бытцам у небе;
«Горэ, беда не падойдзе к табе,
«Думаць ня трэба а хлебе.
«Сьпі! Знаю, крыўды не раз зазнаў ты,
«Братам ня быў меж братамі.
«Я пашкадую цябе, сіраты,
«Буду галубіць сьнегамі...
«Меў-жэ прыпынак ты зносны калі,
«Гонячы быт свой цыганскі?
«Я з гулкай песьняй: «ай, люлі, люлі!»
«Спраўлю начлег табе панскі.
«Скончу я песеньку-байку сваю,
«Зоры пачнуць усьмехацца,

«Будуць глядзець на спакойнасьць тваю,
«Будуць табой уцешацца!»
Гэтак над сонным завея пяе,
Гэтак яго калыхала
І, што-ж вы скажэце, людзі мае?
— Сьцёпку на векі прыспала...

. . . . . . . . . . . . . . .

Збегла па гэтым дзён нешта са тры,
Тры дні—а шмат даказалі:
Ў Сьцёпкавай хаце у двух сталяры
Дзьве дамавіны зьбівалі.
З іх адну зьбілі для костак старых,
Сына ў другую злажылі
І пахавалі па-божаму іх,
Родных, на векі ў магілі.
Сходзіўся ўдоўку пацешыць народ,
Братнім слаўцом ад'зываўся:
«Маеш адзін хоць расход і заход,
«Крыжам адным абышлася!»

## Чатыры крыжы.

Як Лявон прашчаўся с хатай,
Як стаў ў сьвет зьбірацца,—
Пакланіўся маме, тату
І Прачыстай Матцэ.
Пакланіўся, памаліўся,
Выплёўся за вёску,
На мяжу, як сноп, зваліўся
Пад крывой бярозкай.
Паліліся самі сьлёзы,
Хоць даўно не плакаў...
Ўстаў, пашоў, як нецьвярозы,
Далей небарака.
Смольлю вецер лез у вочы,
Хмары палівалі;
Пушча страшыла у ночы,
Людзі ў дзень чэпалі...

. . . . . . . . . . . . . .

Як Лявон прашчаўся с сьветам,
Як дамоў вертаўся,—
Ні с пацехай, ні с прыветам,
Кажуць, не спаткаўся.
Ўсюды добра, дома—лепей,
Дзе гуляў дзяцінай,
Дзе ніхто цябе ня чэпе
Так, без дай прычыны.
Да сваей даплёўся вёскі
І... пляцецца далей,
Дзе магілкі, дзе бярозкі
Ля крыжоў стаялі.
Тры крыжы там небарака
Новенькіе ўбачыў...
Сеў пад імі і заплакаў—
Па сваіх, нейначэй.

. . . . . . . . . . . . .

Першы—маткі, другі—таткі,
Трэйці—Паланеі;
Ў месяц стаў ешчэ адзін крыж
На магільнай кнеі....

---

# За чаркай.

Ну, што сумен там ты, мой дзяцюк малады?..
Давай чарку на стол,—вот і ўся тут беда!
Кінь дрэмаць і ўздыхаць, уздыхні лепш тады,
Як ці жыць, ці ўміраць, будзе ўжо не наўда!
Груканём, стуканём чарка ў чарку, як сьлед,—
Бач і стане душа палаńеці агнём;
Весялей і сьмялей глянуць вочы на сьвет,
Весялей і сьмялей пойдзе ўсё хадуном.
Ты бядуеш адно, што жыць кепска табе;
Плюнь на тое—што кепска, што лепей—шукай!
Як вужака калісь і я віўся ў жальбе;
Глянь, сягоньня ўсё роўна—ці пекла, ці рай.
А было, ой, было, як малінка жыцьцё:
Быў шчасьліў, песьні пеў, на ўсё птушкай глядзеў...
Калі хочэш скажу, раскажу табе ўсё...
Дай вось чарку, а то ўжо язык прымадзеў.

Як напэўна спазнаў, дагадаўся і ты,
Праз дзяўчынку пашло, а ня лёгка пашло.
Маладые былі, шмат было дурнаты;
Дваццаць першы мне йшоў, ей семнаццаць было.
Па-суседзтву жыла, звалі Еўкай яе;
Да спадобы была як і мне, так і ўсім.
Ці глядзіць на цябе, ці то песьню пяе,—
Не было ей раўні ні у гэтымъ, ні ў чым.
Падабалася мне лепш, як сам я сабе;
Неспакой мучыў днём, ночкай сон уцекаў;
Ці ішоў за сахой, ці пацеў у касьбе,—
Павідаці яе, як збаўлення чэкаў.
Не скажу, каб мяне адганяла яна:
Ей па сэрцы я быў, як яна для мяне.
І часіна ўцекла у двоіх не адна,
І цяпер гэты час ма́ю ў сэрцы на дне.
На кірмашы хадзіў з ею разам не раз,
І гасьцінцы купляў, і ў садочку гуляў;
Ненаглядку маю я галубіў падчас,
Абнімаў, цалаваў, думкі ей асьмеляў.
А матуля мая, (рай нябескі ўжо ей),
Так любіла яе, як-бы родну дачку:
Ўсё чэкала, калі назаву я *сваей*,—
Калі Еўку сваю павяду у царкву.
Дый адна злыбеда мой сушыла папар:
Прызыў мне, як петля, ўжо на шыі вісеў...
Брату вышлі гады, бацька жыў і не стар,
Я сам дуж і здароў,—значыць, льготы ня меў.
Што рабіць у такім тут жыцьці без пуцьці—
Выйці цэлым с пятлі, не палезьці на ўрад:
Ці жаніцця цяпер і ў салдаты ісьці,
Ці жаніцца тады, як вярнуся с салдат?..
Варажыў, развважаў сам адзін і з людзьмі:
Еўка кажэ, што ей можна гэтак і так;
Маці кажэ: цяпер ажаніся вазьмі;
Бацька раіць—пасьля, бо мо' здарыцца ўсяк.
Адлажыў на пасьля, адлажыў на ўсяды...
Хутка восень прышла, і на прызыў у Шклоў
Татка з хаты павёз. Там пашло без бяды:
Папрашчацца дзядзькі атпусьцілі дамоў.

Мо' і год не мінуў, як шынель я надзеў,—
З дому вестку дастаў, што матуля ўмерла;
Сьлёзы хлынулі мне, прост, на сьвет не глядзеў;
Жаль яшчэ і цяпер—не дакучнай была...
У паходзе былі, і прыехаць ня мог
Доўг апошні, хаўтурны, радзімай аддаць;
І пасьля, да канца маей службы, ўжо Бог,
Хоць магілкі яе, не судзіў агледаць.
Ну, аб Еўцэ чаму—ты спытаеш – маўчу?
От, пісалі, што жыва, здарова, і ўсё.
Верыў гэтаму я і снаваў ў ціхачу
Думкі, як гэта мы з ёй устроім жыцьцё.
Хоць далёка стаяў, а любіў, ўспамінаў,
І ахвоты ня меў да другіх да дзеўчат:
Ёй аднэй пісьмы слаў і спакою не знаў,—
Ўсё чэкаў таго дня, калі пусьцюць с салдат.
Так сышло колькі год, аж нарэшце і срок
Маей службы прышоў—атпусьцілі саўсім.
Я вярнуўся і што-ж? Э, мой мілы браток!--
Была замужам Еўка за бацькам маім.
Што прышло ў галаву за стараго пайці—
Над адгадкай такой думак я не ламаў:
Сіратою была, а у простым жыцьці,
Хто пасватаўся перш, той і верх атрымаў.
Сам згадаеш, што я перажыў у той час,—
Колькі ў роднай хаціне паспытываў мук.
Чаму лепш не ўзяла сьмерць каторага з нас?
Хлебам хлеб ня быў мне, ўсё валілася з рук.
А яна—ўжо пры мне—ўсё хмурней с кожным днём...
Дзе шчасьлівы той сьмех, дзе вясёлы паглёд?
Часам разам неўзнак—я, яна уздыхнём,
Ды я ў поле скарэй, а яна—ў вагарод.
Так праходзілі дні ў злыбядзе, а яна—
Наша мачыха ўжо—бачу тае ў вачах;
Бацька хмур, не глядзіць і маўчыць, як сьцена:
Ношку добрую нёс, знаць, і ён на плечах.
Год ня болей прайшло нам такога жыцьця...
Як казалі ў сяле—нехта кінуў урок...
На душы дзьве паменьшала наша семья:
Еўку Бог к сабе ўзяў, я сюды с хаты ўцёк.

Гэтак спятрэла мне доля-байка на век;
Хатай стаў мне шынок, а сьвет цэлы—турмой.
Змарнаваў за нішто сам сябе чэлавек
Праз неўлад праўды ў нас, праз паглёд мілы той.

---

## Вісельнік.

Зоркі не ўбачыш, імгла непрыхільная
Сьветъ спавіла непрагляднаю сеткай;
Вецер ня мрэ і, як зданне магільнае,
Носіцца грозна па пушчахъ, палетках.
Лес расхадзіўся, пашумы сусьветные
Бьюць у тахт віхравы кожнай галінай,
Стогнуць дубы і бярозы сталетніе,
Хрыпла скрыпяць і трасуцца асіны.

. . . . . . . . . . . . . . .

Злыбедаў стогны і цьмы неспажатые,
Жудаснай дзікасьці поўны бязмеры,
Як-жэ салодзіце думкі разьбітые,
Сэрцэ з разьбітай надзеяй і верай!
Годзе душа маладая пакутаваць,
Шляхам заломным снаваць безкарысна,—
Страшна загадкі ўсебыту расплутываць,
Выхад с туманаў находзіць разблысны.
К сонцу і зорам жыцьцё тваё рвалася,
Віхры і ночы на бой вызывала...
Згасла ўсё лепшае, згасла, зламалася,—
Далей змагацца сілы не стала.
Будзь-же збаўленнемъ, петля канапляная;
Вырыхтуй сук свой, асіна-ласуха:
Хутка збагацішся ў плоднасьць незнаную,
Слаўнаю станешся—толькі паслухай!
Ты не марудзь там, пакутнік аплучэны:
Жыва вяроўку—раз, два, і гатова!
Сьмела сунь шыю!.. Ну, вось і разлучэны
З гэтай зямлёю, с пуцінай цярнёвай.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Вырылі яму жалезнай лапатаю,
Вырылі паміж крыжовыхъ дарогаў,

Кінулі цела—эй, цела праклятае
Без пасьвячэння, без модлаў, с трывогай.
Зводна пашлі толькі ўздохі пустынные:
Быў чэлавек і німа чэлавека;
Згінуў ня то ўжо саўсім каб скацінаю—
Так сабе ўрэзаў трацініну века.
. . . . . . . . . . . . . .
Сотні раз хмарамі небо ўзгамоніцца,
Сотні раз ніву спалошчэ, абсушэ,—
Памяць аб вісельным век не затопіцца,
Будзе пужаці трусьлівые душы.
З году да году у сьвята дзядовае
Хрыпла скрыпяць і трасуцца асіны.
Песьню вятрыска пяе пагрэбовую...
Вісельнік блудзе паўночнай часінай...

---

## Курган.

*Памяці С. Полуяна.*

### I.

Паміж пустак, балот Беларускай зямлі,
На ўзбярэжжы рэкі шумнацечнай
Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі,
Ўдзірванелы курган векавечны.
Дуб гальлё распусьціў карэнасты над ім,
Сухазельле у грудзі ўпілося;
Вецер стогне над ім уздыханнем глухім,—
Аб мінуўшчыне ў жальбах галосе.
На Купальле там птушка садзіцца, пяе,
У Піліпоўку воўк нема вые;
Сонцэ днём распускае там косы свае,
Ночкай зоры глядзяць залатые.
Хмары неба ўсьцілалі мо' тысячу раз,
Пяруны білі с края да края,—
Ён стаіць—гэта памяць людзкая—паказ...
Толькі гутарка ходзе такая.

II.

На гарэ на крутой, на абвітай рэкой,
Лет назад тому сотня, ці болей,
Белы хорам стаяў, недаступнай сьцяной
Грозна, думна глядзеў на прывольле.
У нагах у яго расьцілаўся абшар
Хвоек гонкіх і пахані чорнай,
Сонных вёсак шары, хат амшалых, як мар,
Хат с сямьёй душ падданых, пакорных.
Князь у хораме жыў, слаўны сьвету ўсяму,
Недаступны і грозны, як хорам;
Хто хацеў, не хацеў—біў паклоны яму;
Спуску, ласкі не знаў непакорам.
Зневажаў, катаваў ён з дружынай сваей;
Стражы князевы ў полі і дома;
Толькі модлы расьлі небу ў сэрцах людзей,
І пракляцьце расло пакрыёма.

III.

Раз бяседа вялікая ў князя была:
На пасад дачку-княжну садзілі;
За сталом він заморскіх крыніца цекла,
Бегла музыка ўкруг на паўмілі.
На вясельле-разгул наплыло, як на сход,
Госьці знатных з усюль, за паўсьвета;
Гэткай гучнай бяседы ня помніў народ,
Гэткіх скарбаў, брылянтаў, саетаў!
Дзень—другі ўжо грымела у князя гульня,
І музыкі, і чаркі зьвінелі;
Выдумлялі забаў новых кожнага дня;
Што хацелі, ўсяго госьці мелі.
Ажно трэцяга дня князь прыдумаў адну
Для дружыны пацеху, забаву:
Загадаў ён пазваць гусьляра-старыну,
Гусьляра з яго ведамай славай.

IV.

Акалічны народ гусьлі знаў гусьляра;
. Песьня-дума за сэрцэ хапала;

Ўвакруг гэтай душы дудара-званара
Казак дзіўных зглажылась німала.
Кажуць, толькі як выйдзе і ўдарэ як ён
Па струнах з неатступнаю песьняй,—
Сон злетае с павек, болю цішыцца стогн,
Не шумяць ясакоры, чарэсьні;
Пушча-лес не шуміць, белка, лось не бяжыць,
Салавей-птушка ў той час сьціхае;
Паміж вольхаў рэка, як што дзень, не бурліць,
Паплаўкі рыба-плотка хавае.
Прытаіцца да моху русалка, лясун;
Каня вечнага «піць» не заводзе;
Пад звон-песьню жывучых гусьляравых струн
Для ўсіх папараць-кветка ўзыходзе.

V.

Прывела гусьляра з яго ніўных сяліб
Дворня князева ў хорам багаты;
Пасадзілі на ганку, між клёнаў і ліп,
На цэгляным парозе магната.
Невыдумная сьвітка—убор на плечах,
Барада, як сьнег белы—такая,
Незвычайны агонь у задумных вачах,
На каленях ляглі гусьлі-баі.
Водзе пальцэм худым па сталёвых струнах,
К песьні-музыцэ ладзіцца, строе;
Вотклік бьецца ад струн па сьцюдзёных сьценах,
Заміраючы ў сковах пакояў.
Вось настроіў, навёў тон у струнах, як сьлед,
Не зірнуўшы на гулі ні разу,
І сядзіць гэты сумны, як лунь, белы дзед,
І чэкае ад князя прыказу.

VI.

«Што-ж маўчыш ты, гусьляр, ніў, лясоў песьне-бай,
«Славай хат маіх подданых слаўны?!
«Нам сягоньня зайграй, нам сваіх песень дай.
«Князь умее плацціць незвычайна!
«Запяеш па-душы, дасі ўцехі гасьцям—
«Поўны гусьлі насыплю дукатаў;

«Не пад-мысьль песьня будзе каму небудзь нам—
«Канапляную возьмеш заплату.
«Знаеш славу маю, знаеш сілу маю...
«Многа знаю і чуў аб табе я,—
«І я сам, як і ты, так табе запяю...
«Ну, пара пачынаць, дабрадзею!»
Гэтак слухае, выслухаў князя гусьляр;
Заіскрыліся вочы сівые;
Патануў у скляпеннях адзін, другі ўдар,
І заплакалі струны жывые.

VII.

«Гэй, ты, князь! гэй, праслаўны на цэлы бел-сьвет!
«Не такую задумаў ты думу,—
«Не дае гусьлярам сказу золата цьвет,
«Белых хорамаў пьяные шумы.
«Скурганіў-бы душу чырванцом тваім я;
«Гусьлям, княжэ, ня пішуць законаў:
«Небу справу здае сэрцэ—думка мая,
«Сонцу, зорам, арлам толькі роўна.
«Відзіш, княжэ, загоны, лясы, сенажаць,—
«Ім пакорны я толкі з гусьлямі.
«Сілен, княжэ, каваць, галаву сілен зьняць,—
«Не скуеш толькі дум ланцугамі.
«Славен, грозен і ты, і твой хорам-астрог—
«Бье ад сьцен, цэгел лёдам зімовым,—
«Сэрцэ маеш, як гэты цэгляны парог,
«І душу—як скляпоў гэтых сховы.

VIII.

«Глянь ты, слаўны ўладар, на палеткі свае:
«Сарачні там сох бачыш, як блудзе,
«А ці чуў ты, аб чым там араты пяе?
«Дзе і як жывуць гэтые людзі?
«Глянь у лёхі свае, ў пад'зямельлі глянь, князь,
«Што настроіў пад хорамам гэтым:
«Брацьця корчацца там, табой кінуты ў гразь,
«Чэрві точуць жывых іх, раздзетых.
«Ты ўсё золатам хочэш прыцьміць, загаціць...
«Ці-ж прыгледзіўся, хорамны княжэ?

«Кроў на золаце гэтым людзкая блішчыць,
«Кроў, якой і твая моц не змажэ.
«Ты брылянтамі ўсыпаў атласы і шоўк—
«Гэта цёртая сталь ад кайданаў,
«Гэта вісяльні петляў развіты шнурок,
«Гэта, княжэ, твае саматканы.

IX.

«Стол ты ўставіў ядой, косьці шмат пад сталом,—
«Гэта косьці бядноты рабочай.
«Пацешаешся белым, чырвоным віном,—
«Гэта сьлёзы нядолі сірочай.
«Хорам выстраіў ты, твайму воку так міл,
«Атшліфована цэгла і камень,—
«Гэта памяткі-пліты з неўчасных магіл,
«Гэта сэрц скамянеўшыхся пламень.
«Люба чуці табе скочны музыкі звон:
«Ты, дружына пьіцё асалоду,—
«А ці ўслухаўся ты, як плыве з яе стогн,
«Стогн праклящьця табе, твайму роду?!
«Ты зьбялеў, ты дрыжыш, слаўны княжэ, ўладар!
«Госьці хмурны, а дворня знямела...
«Ну, што, княжэ? пара даць за песьню мне дар!
«Выбачай, калі сьпеў мо' няўмела.»

X.

Князь стаіць, князь маўчыць; жуда, помста бье з воч;
Гулі зглухлі: ні жартаў, ні сьмехаў...
Думаў князь, выдумляў, дрогнуў шабляй на ўзбоч,
Толькі з лоскатам выбегла рэха.
«Гэй, ты, сонцу раўня, не на тое пазваў
«На вясельле цябе сваей княжны!...
«Ты—шалёны, старык! хто цябе дзе хаваў?
«Ты, знаць, вырадак цемры сермяжнай.
«Ты адважыўся мне на сьляпы перакор
Вызваняці сусьветные трэлі;
«Платы маю шмат я для такіх непакор,
«Хто сябе проці мне стаць асьмеліў.
«Я па князеўску ўсім і плачу, і люблю;
«Ты ня хочэш дукатаў,—ня трэба!...

«Узяці старца і гусьлі жыўцом у зямлю!
«Знае хай, хто тут пан: я, ці неба!»

## XI.

Патхапілі, ўзялі гусьляра-старыка,
Гусьлі разам яго сама-гуды;
Па-над бераг круты, дзе шумела рэка,
Павялі, панясьлі на загубу.
Мейсцэ выбралі здатнае, вырылі дол,
Дол тры сажні шырокі, глыбокі;
Закапалі, убілі асінавы кол,
Далі насып тры сажні высокі.
Не чэсалі дамоўкі яму сталяры,
Не заплакалі бліжніе вочы;
Змоўклі гусьлі і ён с тэй пары—да пары;
Сум і сьціша залеглі, як ночай.
Толькі князеўскі хорам гудзеў, не маўчаў;
Шалы, музыка ў тахт рагаталі;
Не адну віна бочку князь кончыў, пачаў:
Шлюб-вясельле ўсё княжны гулялі.

## XII.

Пацяклі, паплылі за гадамі гады...
На гусьляравым наспе жвіровым
Палыны узышлі, вырас дуб малады,
Зашумеў непанятлівым словам
Лет за сотню звёў час, ці і болей мо' лет;
Зацьвілі перэказы ў народзе;
Кажуць людзі: ў год раз ночкай з гусьлямі дзед
С кургана, як сьнег, белы выходзе.
Гусьлі строе свае, струны звонка зьвіняць,
Жменяй водзе па іх абамлелай,
І ўсё нешта пяе, што жывым не паняць,
І на месяц глядзіць, як сам, белы.
Кажуць, каб хто калі зразумеў голас той,
Не зазнаў бы ніколі ўжо гора...
Можна тут веру даць—толькі слухаць душой...
Курганы шмат чаго нам гаворaць.

---

# Грабар.

Ўжо даўно, у вялікім у горадзе
Жыў грабар, слаўны ў дзеле сваім;
Колькі жыў, адно рыў ён нябошчыкам
Долы-сховы сякім і такім.
Ці багач, ці бедак, днём, ці ночаю,—
Астаноўкі не знае грабар;
Ноч і дзень, як той цень, ён на могільцах
Сам з лапатай сваей—гаспадар.
Пакуль там з дамавінаю ўладзюцца,
Змыюць цела, пакуль прыбяруць,
А ў яго ні с сяго дол і выкапан,
І ня змыліцца ў меры нічуць.
Як дамоўку спускаюць вяроўкамі...
Ажно дзіў, які важны спачын:
Глыбіна, шырына дапасованы,
Не дагодзе так бацьку і сын.
А засыпе зямлёй супакойніка,
Які насып у доўжкі і ў звыш!
І дзярном-дыванам бераг высьцеле,
І с каменьчыкаў высьцеле крыж.
Доўга-коратка жыў так—няведама,
Пэўне жыў, колькі трэбала жыць;
Але вось, як на злосьць, і абрыдала
Яму гэтак што дня ямы рыць.
Безканца неспакойства штодзеннае;
Як на варце, з лапатаю стой;
Пахаваў, насып даў аднаму небарачніку -
Бач другі ўжо расстаўся з душой.
Каб за-раз ад усіх адкараскацца,
Вось тады-бы аддуха была!
Песьні-б пеў, не мадзеў сьвятам, буднямі;
А так—доля ня тое дала:
Мрэ адзін, а ўсё з ім не уменьшаецца;
На яго мейсцэ родзіцца пяць...
Пакруціў-памуціў мазгаўніцаю
Той грабар і штось выдумаў, знаць.

Ён рыдлёўку сваю жэлезяную
Кавалю пацягнуў, паказаў;
Як зьмяю, так сваю землякопніцу
Насталіць, натачыць прыказаў.
І давай ён тады дзіву дзіўную
Апраметна капаць глыбіну,
А ўсё так, ня бы як, не спыняючысь,
Верне брылы адну на адну.
Хто спытае: каму?—не атказвае
Адно толькі ямчэй капане;
Аб нічым аб другім і ня ўздумае,
Думку зьвёў аб ядзе і аб сьне.
Рые тыдзень, другі: яма большыцца;
Ўжо кладзе за аткосам аткос;
Дол глыбок, і пясок над магілінай,
Як і глыб—гэтак высака ўзрос.
Ўжо к канцу далакоп падбліжаецца,
Ўжо работы ўсяго на паўдня;
Чуць-чуць схоў не гатоў недзе некаму...
Не стрывала матуля-земля:
Ў яму рухнула зверху, хаваючы
Грабара і яго працу ўсю...
Але што-ж? Для каго-ж дол быў кóпаны?
. . . . . . . . . . . . .
Грабар яму ўсяму рыў Жыцьцю.

---

# Чараўнік.

(Забытая казка).

I.

Трох сыноў чараўнік на сьвет белы выводзіў,
Трох сыноў, што хаваў у заперці;
Шэпты-чары тварыў ён над імі на ўсходзе,—
Як жыць лепей, як лепей памерці.
Тры паказываў ім ён на сьвеце дарогі,
Тры пуціны іх долі-нядолі,
І даваў-насылаў ён сынам асьцярогі:
Што чэкае у чыстым іх полі.

А як пойдзе хто першай,—ён кажэ ім гэтак,—
Што на ўсход шляхам чорным кладзецца,—
Напаткае чужацкі крывавы палетак,
І ў крывавай скупаецца рэчцэ.
Той шлях першы і першая рэчка атрутай
Споюць так і за хатай, і ў хаце,—
На другіх будзе строіці петлі і путы
І сам гэтые путы цягаці.
А як пойдзе другім хто гасьцінцам-дарогай,
Што на захад кладзецца вужакай,—
Свой палетак любіць стане горэй чужога,
Прыпадзе к чужой рэчцэ, як пьяўка.
Той другі шлях і рэчка другая загладай
Атуманюць душу, зальюць вочы;
Будзе сонца шукаці сабе, як прынады,—
Даць, знашоўшы, другім не захочэ.
А як пойдзе хто трэцяй сьцяжынай-пуцінай,
Што сваей не мінае граніцы,
Будзе чэзнуць і вянуць націнай, паўцінай,
Сьмягнуць будзе над роднай крыніцай.
Той шлях трэці і трэцяя рэчка сьляпою
Ласкай-крыўдай апутаюць грудзі...
Ён насыпе пешчаны узгор нада мною,
І таптаці узгор гэты будзе.
Так сказаў чараўнік, і казаў доўга жыці—
Спадкі—цень свой на памяць аставіў...
А сыны сталі праўдзе-непраўдзе служыці,
У сваей кожны долі і славе.
Спадабалася першаму першая сьцежка,
А другая—другому сыночку,
Ўзяўся трэці на трэцяй, як грыб-сыравежка,
Спатыкаці, праводзіці ночку.

II.

Дні за днямі, гады за гадамі плятуцца...
Ўжо збываюцца бацькавы словы:
Ад рукі сына першага вісельні гнуцца,
Ў зямлю йдуць маладые галовы.
Захапіў яго похмур лядачны, крывавы,
Жэлезянымі клешчамі сьціснуў;

Дзе ня ступе—згібаюцца краскі і травы,
І пракляцьце шуміць безкарысна.
Ён і рад, і не рад, а пуцьця меней што-дзень
На тэй выбранай сьцежцэ, і ные;
Ўжо адны ў вочы кідаюць—здраднік, звыродзень,
На пагібель, на звод шлюць другіе.
Не сыходзе са шлаху свайго і другі сын—
Чуць ня йдзе сьледам першаго брата:
Ўжо на згубу з зямлёю і с хатай запісан,
І ўсё-ж долі завідуе ката.
Заседаць, панаваць на хватаным багацьці
Не кідае за дзьверы надзеі,
Хоць мінула даўно яго сьвята па сьвяце,
Хоць пасад свой на выдмах разьвеіў.
Загубіў сваю скуру, чужая-ж ня цешэ
Абадранай душы ў павуціне;
Проць сваіх, проць чужых крывадушэ і грэшэ,
І так вязьне, як камень у ціне.
Трэці, смоўжам прыліпшы да трэцяй пуціны,
Чэзьне чэрвем на службе ў напасьці:
Уздыхае, чэкае збаўленьчай дзяніны,
Не дае, што не мае, раскрасьці.
С кволых ніў палыны быццам зводзе, ня зводзе,
Часам косьці зачэпе нарогам;
Дома дрэме, сьцікаецца стульна, як злодзей;
Бье падданьчы паклон за парогам.
А сваяк і чужак строіць петлі і сеці,
Аплетае ўсё віднае ночай,
Зварухнуцца ня сьмее ў заплесьнеўшай клеці,
На браточкаў зубамі скрыгочэ.
Так расьце недавольства ў сыноў чарадзея—
Ў іх саміх і на іх, на ўсім сьвеце;
С ходу-выхаду выйці адна ў іх надзея:
Каб саміх адалеці і сьвет адалеці.

III.

Ні далёка, ні блізка, ні ў полі, ні ў лесе
Важны ўзносіўся хорам-сталіца,
Чэрнабожнік над ім непрагляды завесіў,
Каб нялёгка было прыступіцца.

Стуль выходзілі ветры і шум падымалі,
Туды з неба валіліся зоры,
Там адны уставалі, другіе дрэмалі,
Сьмерць, жыцьцё свае мелі запоры.
З зор сатканы былі недасяжные сьцены,
Росы ў нізе ірдзелі яскрава,
А на вышках, як сон на зямлі, пераменны
Залаты месяц радасна плаваў.
Залацісты пасад красаваўся ў сталіцы,
Зіхацела ў ім кожна часьціна,—
На пасадзе сядзела сьвет-ночка—царыца...
Звалі тые і сіе Судзьбінай.
Векавечна ў руцэ аднэй сонцэ трымала,
Пяруны у другой руцэ мела:
Іншы раз ціхім сонцэм зямлю абнімала,
Іншы раз пярунамі шумела.
Патрэсала пасады, скідала кароны;
Тым, другім была каменем-хлебам,
Выдавала народам старые законы,
Кіравала зямлёю і небам.
Не адзін аб ёй ведаў і разам ня ведаў,
Чуў, ня чуў аб ёй, бачыў, не бачыў,
Кожны толькі яе патпільновываў сьледу,
Плакаў, выў, як было што іначэй.
Весьці толькі ішлі, як туманы, і вялі
Ў самасейным паходзе сталецій,
Што пранікнуць яна можэ ў тайные далі
І аткрыць сьветы новые ў сьвеце.
Гэткай паней ясьнела у хораме зорным
Царэўладнай і разам неўладнай;
Белым шляхам адных, а другіх шляхам чорным
К царству, к рабству вела безпраглядна.
Тры браты, што пуці чараўнік тры адмерыў,
Захацелі знаць, хто ім што зрэпіў,—
Захацелі ў Судзьбіны даведацца меры,
Як жыць лепей, памерці як лепей.

## IV.

Трох братоў, сваей кожны дарогай-пуцінай
Наблудзіўшыся, выхад спаткалі:

Ім саветы далі на заўсёды ў Судьзбіны,
Як трымацца саветаў, сказалі.
Першы брат ад яе меў наказ незабыты:
— Не здарма быць хацеў царам ночы,
І сваіх, і чужых расьпінаў на крыжы ты;
Крыўдай праўдзе сьмеяўся у вочы.
Бачыш зоры і сонцэ вясёлае бачыш?
З імі рвіся ўсім сэрцэм зраўняцца,
А як сьлед свой зарнічным сьвятлом абазначыш,—
За табой кінуць зморы ганяцца.
Хочэш цішы прытульнай і ласкі патольнай,
Збудаваць Божы быт на пакутах,—
Дай другім волю ў волю, і сам будзеш вольны,
Не дасі — с сьвету сойдзеш у путах.
Брат другі яе выслухаў мудрые рэчы:
— Не туды цэлы век пёрся з дуру;
На быдлячы меняў воблік свой челавечы,
Каб напяці гладзейшую скуру.
Хто пакінуў свой дом на пасьмешышчэ нетрам,
Дом чужы таму будзе вастрогам;
Хто паклоны біць стаў з боку злыбедным ветрам,
Свой пасад таму стане бярлогам.
Вызнай, кім цябе бацька на сьвеце пакінуў,—
Станься тым, ды йдзі к меньшаму брату...
Не прыслужнем будзь ласцэ прыблуднаго сына,
Будзь пракляцьцем яму — свайму кату.
Трэці брат ад Судзьбіны наказ пераслухаў:
— Сну-траве ты занадта даў веры,
І ў сябе шанаваць чэлавечага духа
Не сумеў навучыць брата-зьвера.
Ўспомні, выклічы родные ўсе загаворы
І зводзь імі прыблудаў заломы,
Што ляглі на твае крывасейна разоры,
Што стрэчаешь за домам і дома.
Схову новую строй, больш твае скуль прыпасы-б
Не валок зводны зьмей і начніцы;
Разбудзі сам сябе і той бацькавы насып,
Што пагане нага чужаніцы.

V.

Дні за днямі, гады за гадамі йдуць важна,
Йдуць суважна за зьменамі зьмены,
Перамены ў сябе засевае брат кажны,
Шчасьцю ўзносюць свайму новы сьцены.
Асьвяціў сваё чорнае першы сумленне
Прагавіцьцем быць сонцу раўнёю,
У путахъ стужу трымаць, меці жараў насенне,
Тлець, палаць над людзьмі, над сабою.
Як сам цар-Грамавік, чуе ў жылах пажары,
Сонцы-б новые сеяў па небе,
Абярнуў-бы сялібные ў пламя абшары,
І сьвет цэлы спаліў-бы ў патрэбе.
Гэткіх думаў сягнуць недасягнутых чынаў...
Аж сябе сам сабою распражыў:
Сонцэ сэрцэ яго растапіла, як льдзіну,
А душу спапяліла на сажу.
Брат другі шоў на нетры сьляпые аблавай,
Воблік крадзены кідаў загубам,
Акрыляў сам самога асілкавай славай,
Паўставаў проць хватанаго клубам.
Як двурог-маладзік, маладзеў серад зломаў,
Вызіраў непакорай, пакорай,
На мінуўшым мінуўшые ўзводзіў харомы,
Патпіраў кастылямі патпоры.
Прыпадаў к мёртвым краскам грудзьмі і душою,
Сагрэваў сэрцэм лозы і шышкі,
Выцвітаў, аж і стаў—чым быў—чорнай землёю,—
Зьвесьць ня зьвёў недахваткі і лішкі.
Трэці брат загаворы здымаў с папялішча,
Знаць даваў моц іх сьпячым народам;
На вялікае новых прыпеваў ігрышчэ
Выступаў-атступаў чараводам.
Зводам браў-сунімаў крыўдадзейнаго зьмея,
Трос заломам, як сівер мятліцай;
Сховы новые ўзносіў паміж сухавеяў
І пускаў к ім старые крыніцы.
Гнаў крыніцы, піў з іх і у іх затапіўся...
На былом даў былому ўзрастаці:

Склеп нямы, дзе лежаў чараўнік адчыніўся,—
Сьвет нанова стаў новыхъ чэкаці.

VI.

Уставаў чараўнік, што сыноў трох выводзіў
І паказываў тры ім дарогі:
Віцца ў захадзе стаў, віўся ў чорным усходзе;
Стаў сачыць скрось глухіе парогі.
Ў фалях мутных шукае, к каму дзе патсесьці,
Нагавормі сваімі абвеіць;
Трох сыноў ён шукае, што ў чэсьці, ня ў чэсьці
На яго мейсцы пошусьці сеюць.
Азірае сыноўніе спадкі ў пустошы,
Ў быт глядзіць ад канца да пачатку;
Засыпае, ўстае на атцвіўшай пакошы,
Аджыўляецца ласкай прыпадку.
Барадой яго пошум, як лесам, калышэ,
Хмары звонам кладуцца на плечы,
Грамавік на грудзях яго гібелі пішэ,
Ведзьмы шэпчуць салодкіе рэчы.
Ён ідзе... Сям і там набіваецца ў госьці,
Упіваецца ў сэрцы нямые,
І сьцібрае на путы струхлеўшые косьці,
І пляцёнкі з асьлепленых шые.
За сабою валочэ патухшые душы,
Разбаўляе дрыгву імі ў пушчы;
Кроўую цёплай сьцюдзёные вогнішчы тушэ,
Сэрцы лёдам аблітые лушчэ.
І свае, і чужые выцягвае звадай
Жылы белые чорнымъ патрэбам,
Каб заместа усіх і ўсяго ў сьветагляду
Быць усім—і зямлёю, і небам.
Каб спустошыць, абнетрыць трупьём чэлавека,
Даць папас на магільным папасе,
І так хэўраю будучых, быўшых адвекаў
Расцвісьці, растапіцца ў безчасьсі.
Гэткай рдзее душой чараўнік сьлепаводнік,
Што сыноў навучаў трох калісьці,
А за ім сучэ сьледам, цянюючы, зводнік
І гайдае зялёные лісьці.

Шапацяць тые лісьці заснуўшым палянам—
Чуе ночка глухая, немая:
Кожны край, што дачэсна завецца забраным,
Гэткіх казак забытых шмат знае.

---

## На папасе.

### Абразок.

---

Вясенняя ноч. Непадалёк ат гасьцінца — хвойнік. Тры падарожные зьбіраюць гальлё.

---

1-шы падарожны, (прыносючы галіну).

I пуста-ж, пуста ў гэтым лесе!
Нідзе галінкі не найці;
Вось тутъ абсохні і сагрэйся,
Найдзі дарогу ў безпуцьці.
А помню, ўсё было іначэй:
Папас тут меў ты, як папас;
Нічога воз гальля не значыў,
Агонь ня зводзіўся, не гас.

2-гі падарожны, (кідаючы сук).

Цьфу! Каб ты ўсё пашло тут прахам!
Ну, і галоцюць людзі лес:
Па сук і то з вялікім страхам
На хвойку чуць я, чуць узлез.
Ешчэ паўгода, год, і будзе
Без блыску вогнішча начлег;
Не раз, не два хтось блудам зблудзе
Усякай пóгані на сьмех.

3-ці падарожны, (кідаючы лазіну).

Вось вам дубец лазы лазою!
С карэння выдзер, як ё, ўсю;
Змарыўся, змогся, чуць устою.
Каб толькі выкрасіць агню.

Хай блысьне полымя пад неба,--
Пара́ манаткі абсушыць...
Я падыду па торбу с хлебам,
А вы вазьмецесь распаліць...

1-шы падарожны.

Я рад-бы славы доказаці,
Дый сваю губку замачыў.

2-гі падарожны.

*А* я свой недзе цыр затраціў,—
Даўно і люлькі не курыў.

3-ці падарожны.

Ну, добра! Зараз я вярнуся,—
Запаланее мігам лом:
Сярнічэк мне дала Кастуся,
Ў мяне яны тут с капшуком.
(Выходзіць).

1-шы падарожны, (к другому).

Садзіся, ваша, атпачынем!
Напэўне, спорна умахаў?
Дарожка—хай яна загіне:
Карэння столькі і канаў!
Дух чэлавеку ўпрост выймае,
Ня чуеш костачкі аднэй...
Садзіся, ваша, вось дзе с краю,
Ног зацяганых пажалей.

2-гі падарожны.

О, дзякуй, дзякуй, чэлавечэ!
Я рад спачыну; балазе,
К таму сказаць, і акалечыў
Свой большы палец на назе.
(Садзіцца).
Як неяк холадна на сьвеце,
Хоць май даўно ўжо на дварэ.
Але, але, дзе наш той трэці?
Ня ўжо ўсё хлеб ешчэ бярэ?..

3-ці падарожны, (патходзючы).

А вось і я прышоў нарэшце!
Крыху задлякаўся с канём...
Агоньчык толечы разьвесьці,—
А там закусім, аддыхнём.

(Дастае запалкі).

Запалім... А! вось і навука!
Што гэта значыла-б такі?
Другую маем закаклюку:
Маé замоклі сярнікі.
Не дам нічога з імі рады;
Ў пацёмку трэба папасаць.
Вось не пашэнціла, дапраўды!
Ці-ж думаў хто так прападаць?!

1-шы падарожны.

Э, плюнь, суседзе, на ўсё гэта,—
Каб нам такой бяды павек!
Сьцюдзёна, цёмна, ды ўсё-ж лета—
Ня зчэз ніводзін чэлавек.
А можэ хто ешчэ над'едзе
І зніме гэты клопат з нас?
Дый першыня, ці што, суседзе,
Ў дарозе мець такі папас...

2-гі падарожны.

Мо' помніш леташнюю восень:
Ўвесь сьвет быў глух і дзік, і пуст;
Шум не сьціхае гонкіх сосен,
Здаецца, плачэ кожны куст.
Здаецца, пеклава вясельле
Ўзнялося, круціцца, сапе;
Ні блыску зорак, ні прысельля,
Конь толькі пудзіцца, храпе.
Цурком дождж льецца, як із луба;
Скаголе вецер, як той зьвер,
А мы пат хвойкамі аж люба
Начлег спраўляем, як цяпер.

3-ці падарожны, (прыслухаючысь).

Пастой, суседзе! нешта чую:
Як быццам фыркнуў мой гняды...
Кром нас ніхто тут не начуе,—
Каб не набраціся бяды?!

1-шы падарожны.

Сядзіце вы, а я патскочу
І кіну вокам на вазы:
Мо' сена хто наскубсьці хочэ,—
Вось шэльме дам, дык дам лазы.

(Атходзючы, чэпляецца лапцем за сук і валіцца).

А каб цябе паляруш мучыў!
Чуць-чуць ня вывярнуў нагу...
На сук на самы неяк лучыў.
Ну, ўжо готова, ўжо бягу.

(Па неякім часе варочаецца з незнаёмым).

Вось вам і злодзея на рукі
На вашы гэттака здаю...
Ня многа меў я з ім дакукі,
Пачуў ён сілу, знаць, маю.
У спрэчку доўгую ня ўходзіў:
Пашоў, куды сказаў яму.

Назнаёмы.

Пакінь плясьці! Я вам ня злодзей,
І лаяць так німа чаму.
Я гэткі самы падарожны,
Як вось і вы, мае людцы;
Закінуць тое толькі можна:
Я без каня, а с коньмі вы.
Але, як вы, шукаў начлегу,—
Яго між вамі думаў мець,
Дый не туды, як бачу, ўехаў.
За блуд прыходзіцца жалець.

2-гі падарожны.

А як васáна нам пазнаці,
Што, як сюды ішоў, ня меў
Нічога злога даканаці,
Што нават думаць не пасьмеў?..

3-ці падарожны.

А праўду, праўду сват гаворэ,
Мы тое скажэм усе тры:
Куды ідзеш? Дзе быў учора?
Што ты за штука?

Усе тры.

Гавары!

Незнаёмы.

На рукі гляньце з мазалямі,
Грудзям прыгледзьцеся худым,
І кій, і торба за плечамі
Найлепей скажуць аб усім.
З гразёй ня будзеце мешаці,
Далей атпусьціце ісьці...
І вас чэкаюць дзеткі ў хаце,
І вы бязпутнікі ў жыцьці!
Вось, лепш асьвецім гэту кнею—
Сьвятлу з нас пэўне ўсякі рад...
Я гаварыці казкі ўмею,
І песень так-жэ ўмею шмат.

1-шы падарожны.

Як бачым, ты глядзіш іначэй.

2-гі падарожны.

Відаць, ня злодзеевы род.

3-ці падарожны.

А хто-б падумай? Так прастачы
І твой убор, і твой паглёд!

1-шы падарожны.

І казкі ўмее, і за песьняй
Відаць ня пойдзе ў кішаню.

2-гі падарожны.

Адно беда,—што, хоць ты трэсьні,
Ня можэм выкрасіць агню!

Незнаёмы.

Усё, усё мець зараз будзем:
Заўсёды ё ў мяне сьвятло,

І з ім мы тут не замарудзім
Лясным патсуседзям на зло.

(Запаліваючы лом).

Гары, гары, ламок, агніста!
Вы, братцы, сядзьце у кружок,
І да зары да залацістай
Нас будзе слухаць сасьнячок.
Аткуль—ці песьнею, ці казкай
Начаць вам думкі весяліць?

3-ці падарожны.

А ўжо, калі там ваша ласка,
То й песьню можна закаціць.

1-шы падарожны.

А посьле скажэш, дабрадзею,
Хто ты, аткуль, куды ідзеш?
Цаніць людзей і мы умеем,
Хоць маем гэткіх што раз меньш.

Незнаёмы.

Ну вось і слаўна! Што больш трэба?—
Агонь, суседзеў грамада;
Навокал лес, над лесам неба,
А там—і зорак чэрада.
Люблю я гэткіе прыцуды!
Тут чэлавек—як чэлавек;
За думкай думка мкнецца ўсюды,
Сон не чэпляецца павек.

(Пяе).

Жыў на сьвеце Лявон,
Молад, дужы быў ён,
Толькі з воляй і доляй не бачыўся:
Сонны сэрцэм, душой
Дрэмаў ў хаце крывой,
А выходзіў—сьлезамі сьлед значыўся.
Аж вось чуе Лявон
Са ўсіх клікі старон,
Што ён дурэнь, жыве па быдлячаму,
Дый сам тут зразумеў,
Што дум сьветлых ня мёў,

Што падобен быў дрэву хадзячаму.
Зварухнуўся Лявон,
Як вада, як агонь,
Пазнаў сілу ў сабе небывалую;
Ўжо беда—не беда,
Ўжо нуда—не нуда,
Запеў песьні свае разудалые.
Земля стогне, дрыжыць,
Як пяе, як крычыць,
Як прасьвету сабе дамагаецца,
Аж ат песень такіх
Страх напаў на другіх,
І вось чорная моц падымаецца.
І пашло ўсё ўверх дном.
Сьвісты, енкі кругом,
Груганы на дабычу злетаюцца:
Шчасьце даць бедаку
Ня ўсім шло на руку,—
Не ў руку, што Лявон прачухаецца.
Дарма сілен Лявон
І адважны так ён,—
На падмогу дарма ён надзеіцца:
Галава у баю
Даў за праўду сваю,—
Толькі памятка—насып віднеіцца.
Ляжыць, дрэмле Лявон,
На грудзях вырас клён;
Калі-ж вецер на сьвеце расходзіцца,
Шуміць шумна той клён:
Ешчэ ўстане Лявон—
Гэй, Лявоны у нас не пазводзюцца!

(Перэстаўшы пець).

Вось і канец вам песьні-байцэ,
Ці ў ёй панятна толькі ўсё?..
Калі не так што—выбачайце,
Даконьчэ вашэ вам жыцьцё.

1-шы падарожны.

О, песьню важную такую

Ня пойме толькі гліны ком...
Цяпер нехай-жэ мы пачуем
Штось трохі аб жыцьці тваём.

2-гі падарожны.

А я крыху галья падбаўлю.

3-ці падарожны, (да другога).

Я памагу табе крыху.

1-шы падарожны.

Аброці коням я папраўлю.

(Атходзюць усе тры).

Незнаёмы, ( ўсьлед падарожным).

Я атпачыну на маху.

(Адзін).

О, люд мой ла́патны, патульны,
За што цябе я так люблю?
За што твой гоман неразгульны
І думкі ўсе твае лаўлю?
Ты лёг мне каменем на сэрцы,
Які ня ў сілах зваліць я...
Што тут пачаці ў паняверцэ?
Жыві ў жыцьці і без жыцьця.
Ідзеш, брыдзеш, а на дарозе—
То косьць, то камень, то бадыль;
У брата станеш на парозе,
А ён табе... О Божэ, крый!..
Нясі ў мяцеліцы, ў разводзьдзі,
Свайго цярпення нясі крыж.
Калі-ж праглянеш ты, народзе,—
Арлінымм лётам узьляціш?
Пасьцель пуховую пасьцеліш
Сваім замучэным дзецям,
Нясьмелых песьнею асьмеліш,
Якой сягоння бедзен сам?..
Як страшна збуджэным хадзіці
Між наспаў, зломаных крыжоў!

У мокры пень агонь красіці,
Склікаць аплучаных дружкоў...
Так цяжка, цяжка, дзе не глянеш,
Касою крыўды хоць касі!
Калі-ж, народзе, ты устанеш
І сонцу голас падасі?

Падарожные, (патходзючы).

А вось і мы! Цяпер зноў сядзем...

Незнаёмы.

Цяпер зноў сядзем... ну, і што-ж?
Ага! гістор'ю нашу зладзім,—
Адточым востра ўсё, як нож;
А можэ трапім ею ў грудзі,
У грудзі з дзерэва людзей...

Падарожные.

Што ты?! Ці-ж мы такіе людзі?
Жартуеш хіба, дабрадзей!

Незнаёмы.

О не, крый Божэ! Ось з няўцёку
Зляцела слоўца з языка...
Так штосьці ў сэрцы мне ня лёгка,
Ну, і паднесла бедака...
Хто я і скуль—для вас цікава;
О, не вялікі гэта цуд:
Радзіўся, рос,ляцеў за славай,
Ляцеў, ажно спынуўся тут.
Убачыў дзень я ў сельскай хаце;
Бацькі у беднасьці жылі:
Канёк, кароўка—ўсё багацьце,
Ды гонеў двойчы—ўсей зямлі.
Чытаць, пісаць крыху навучылі,
Але ня выўчылі саўсім;
Сам с часам кніжны лад асіліў
І толк у ім даваў другім.
І мёд салодкі, і атруту
Суліць страніца стала мне;
Я ею думкі ўсе апутаў:
Не знаў—на яве я, ці ў сьне.

Цямноты ўсю паняў нездарнасьць,
Я сілу знання ўсю паняў;
Свайго жыцьця я відзеў марнасьць,
Аж на сябе я рукі ўзняў.
Але ня суджэна было мне
Душой без часу загавець,
І сам не знаю ўжо сягоння—
Жалець таго, ці не жалець.
Ішлі гадочкі за гадамі.
Я ў сілу рос і ў розум рос,
Дый не расьце пацеха з намі,
Як там не жалімся на лёс.
Што раз зваднейшые ўсё леты,
Што раз цяжэй на грош і хлеб.
Пайці у сьвет—бацькі мне сьветам,
А хата мне—астрожны склеп.
Сьмяецца неба непагодай,
Шыбець скаціну нейкі звод,
Зямліца дзеліцца няўродай,
За годам выплаканьшы год.
Аж бацьку горэ з ног зваліла,—
Пашоў на той сьвет без пары;
У год капай зноў тры магілы:
Злёг брат, і дзьве зляглі сястры.
Пашло нешчасьце за нешчасьцем;
Я кут пакінуць мусіў свой...
Дзе ступіш—сьмешкі ды напасьці,
Хоць налажы ты галавой.
Пазнаў куткоў чужых сьцюдзёнасьць,
Нагайку службы я пазнаў,
У сьлед мая шла безпрытоннасьць,
З ёй вецер песьні напеваў.
А думкі рваліся да сонца,
Туды, да ціхіх, добрых зор,
Да волі, шчаснасьці бязконца
С пустынных ніў, з гаротных гор.
Ліў нейкі мне таёмны голас
Праявы дзіўные ў душу;
Іх чую, як чуе сонцэ колас,
І думаў, зло сваё скрышу.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Іду... Куды ісьці сягоння?
Аднэй німа, а шмат дарог...
Адлогам родные сьпяць гоні,
Іржа на вышках есьць нарог.
На траме ўверчана анучай
Ляжыць няклеплена каса;
На сьцежках мох расьце калючы,
На ім—чырвоная раса.
Руцэ народнай набіваюць
Плугі чужые мазалі,
Чужые коні папасаюць
На абезволеннай зямлі.
Йдуць песьні, казкі ў дамавіну;
Якіе дзед сьпеваў складаў;
Свае жалейкі люд закінуў,
Чужым сьвісьцёлкам мейсцэ даў.
Узносе пасынкам пакорным
Беда цямнічные муры
І сеткі путае праворна,
Чэпае могілак крыжы.
Адно чуваць, як быццам штосьці,
С-пад сонных наспаў, з-за мяжы,
Дзе дрэмлюць прадзедавы косьці,
Дзе час варочае крыжы,—
Штось варушыцца у бязсільлі.
Ці-ж бы там быў жывых папас?..
Ня ўжо нябошчыкаў зьмянілі,
Ня ўжо нябошчык кожны з нас?

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Але ўжо блізка і сьвітанне;
Пара́ ўзнімацца ўжо, пара!
Пакуль к нам з неба сонцэ гляне,
Жджэ не адна мяне гара́.
І вам пара́ вазы ўжо ладзіць,
К дарозе коні рыхтаваць:
Раней лепш стануць у парадзе,
Чым на папасе перэспаць.
Цяпер, каторы з вас пасудзіш
Мяне за злодзея свайго?

1-шы падарожны.

Ты не тутэйшы мусіць будзеш,
Або і горэй ад яго?

2-гі падарожны.

Цікава, вельмі ўжо цікава
Ўся гэта гутарка твая,
Але такую меці славу
Не пахваліўся-б, браце, я.

3-ці падарожны.

Так с кута ў кут век вандраваці,
Як мне здаецца—без патрэб...
Ці-ж то ня лепш сядзець у хаце
І у спакоі есьці хлеб?

Незнаёмы.

Э, што!.. Бывайце, людзі жывы!
Дзе толькі торба і мой кій?..
Гэй, сыпма далей, там, на нівы,
Хоць гром грымі, хоць віхар вый!

Ешчэ спаткаемся калісьці—
За год, за колькі мо' гадкоў,
Як зьвянуць сёлетніе лісьці,
Як прыдзе Радаўніца зноў.

(Атходзе, напеваючы):

Жыў на сьвеце Лявон,
Молад, дужы быў ён...

1-шы падарожны.

І дзіўны-ж гэты чэлавечак!
Чаго ён хочэ ат другіх?..

2-гі падарожны.

Ці-ж мала ёсьць такіх авечак?
Ат, толькі сьмех глядзець на іх!

3-ці падарожны.

А я скажу вам, егамосьці:
Сыходзе с поля маладзец;
Злавіў там с кніжэк штось, чагосьці,
Ну і вар'юецца ў канец.

(Чуваць конскі топат).

1-шы падарожны.

А гэта, што зноў за праява:
Каго нячысьцік нясе так?

2-гі падарожны.

Бадай, запутаная справа,—
Вун, вун—адзін, другі ездак.

3-ці падарожны.

Сюды на вогнішчэ к нам едуць,
А з імі—нейкі важны чын.

1-шы ездак, (шыбка пад'ежджаючы).

Ці не маглі вы бачыць, ведаць—
Сюдою путнік шоў адзін?

Падарожные.

Не, не, паночкі! мы не знаем,
Мы тут начуем толькі ўтрох,
І зараз самі ад'ежджаем:
На рынак ладзімся, на торг.

2-гі ездак.

Паедзем дальшэ, тут нічога
Нам не паказвае на сьлед.

3-ці ездак.

А як вы ўбачылі-б такога,—
Злавіць, зьвязаць—і к нам, чым сьвет!

(Ад'ежджаюць).

1-шы падарожны.

Чэкайце толькі, пóкуль буду
Нагу яму я патстаўляць.
Каб чуць раней, а ўжо без труду
Маглі-б гуртом беднягу ўзяць.

2-гі падарожны.

А шкода, шкода было-б хлопца!
Тыкі-ж ён нейкі чараўнік...

3-ці падарожны.

Ні думаць! Як мы—рос у вёсцэ,
Як мы—такі ён сам' мужык.

1-шы падарожны.

Зайдзі ка мне—я даў-бы хлеба.

2-гі падарожны.

Апраткі-б я не пажалеў.

3-ці падарожны.

Каб начэваць было патрэба,—
Папас найлепшы ў мяне-б меў.

1-шы падарожны.

Запрўды, так гаворэ важна.

2-гі падарожны.

А ўжо-ж, ганяюць не здарма́!

3-ці падарожны.

І песьню так пяе працяжна!..

1-шы падарожны.

Душу, здаецца, рве яна.

2-гі падарожны.

А ці ты помніш усю чыста?

1-шы падарожны.

Пачатак помню я увесь.

2-гі падарожны.

А я сяродак галасісты.

3-ці падарожны.

А мне канец у вушы ўлез.

(Расходзюцца напеваючы:)

Жыў на сьвеце Лявон,
Молад дужы быў ён,
Толькі з воляй і доляй не бачыўся...

## VII. Перэклады с польскаго.

# С Конрада Вальленрода.

*А. Міцкевіча.*

Сто лет мінала Крыжацкай навале,
Як кроў с паўночных смактала паганаў.
Прусы ўжо шыі ў ваковы згіналі,
Або ўцекалі з радзімых палянаў;
Немец за ўцёкшым пускаўся ў дагонкі,
Нішчыў да самай літоўскай старонкі.

Літвінаў дзеліць ад ворагаў Нёман:
З аднаго боку льсьняць стрэхі сьвятыняў,
І лесу—схову багоў—чуваць гоман;
З другога—ўбіты на ўзгорку пустыні
Крыж, знак нямецкі, рад к небу сягнуці,
Грозна пільнуе літоўскіх загонаў,
Як-бы ўсю чыста зямлю Палемона
Хацеў-бы зьверху здушыць, загарнуці.

Гэтта літоўскай семья маладзежы
Ў шапках бабровых, ў сьвітках мядзьвежых,
З лукам праз плечы, с стрэламі пры боку
Снуе і сочыць за Немцам здалёку;
А там - нескратна, ў збраенні каваным
Немец сядзіць на кані аседланым,

К землям уставіў незабраным вочы,
Стрэльбу набіў і ружанцам ляскочэ.

Пільнуюць тые і гэтые броду.
Так Нёман з даўнай гасьціннасьці рупны,
Сялібы лучучы братніх народаў,
Стаўся граніцай для ўсіх недаступнай,
І той мог толькі прайці яе сьмела,
Каму на волі жыцьцё надаела.
Адно галінка літоўскага хмелю,
Наджана тофілю прускага красай,
Пнецца па вербах і цінавым зельлю,
К любаму пнецца, як з даўнага часу:
Сьлед кіне ў рэчцэ вяночкам нявілым,
І на чужыне ўжо лучыцца з мілым.
Ды салавейкі пад Коўнай з дубровы
Са сваякамі гары запушчанскай
Свае літоўскіе баюць размовы,
Дзелюцца спольна і дружбай, і ласкай,
Якбы граніцы незнаючы новай.

А людзі?.. Людзі ўпіліся бітвою;
Даўная Прусаў з Літвою зажыласьць
Пашла ў непамяць; падчас толькі міласьць
І людзей годзіць... Я знаў людзей двое...

Гэй, Нёман! Хутка к тваім сумным водам
Рынуць навалы нясьці зністажэнне,
І ў бераг, з вечных галоцючы ценяў,
Тапор чужынца бязлітасна ўесца;
Стрэл салавейкаў разгоне ў гародах.
Што быту лепшаго выснуюць сплёты,
Парве ўсё чыста ненавісьць народаў,
Парве ўсё чыста... Каханкаў-жэ сэрцы
Злучацца ў песьнях ізноў Вайдэлёты.

---

## Трох Будрысаў.

*А. Міцкевіча.*

Стары Будрыс трох сынаў, як сам, ёмкіх літвінаў
На дзядзінец заве і гаворэ:

Коні с пашы вядзеце; зброю, сёдлы браць с клеці!
А спраўляцца мне жвава і скора.

З Вільні вестку мне далі, што ўжо там наказалі
Тры вайны на тры сьвета староны:
Вольгерд рускіх біць едзе, Скіргел—ляхаў-суседзеў,
А князь Кейстут заграбіць Тэўтоны.

Дзяцюкі вы ня зломкі, для радзімай старонкі
На вайне пашукайце ўспамогі...
Ня йду сёлета з вамі,—знаю—трапіце самі;
Трох вас ёсьць і тры ёсьць вам дарогі.

Вось адзін хай пасьпее за Альгердам ў Рассею
Па-над Ільмень, пад мур Навагроду;
Там—саболі і лісы, і злацістые місы,
І ў баяраў там грошы—як лёду.

Едзь другі да Кейстута, а ўвіхайся там крута,
Крыжакам дай, як сьледна, па пятах;
Меруць там на асьміны брыліянты, бурштыны,
Дарагіх шмат ксяндзоўскіх арнатаў.

Скіргел с трэцім памчыцца там, дзе Вісла бурліцца;
Беднату там убачыш ліхую,
Але возьмеш за тое узбраенне стальное,
І мне стуль прывязеш сынавую.

Бо дзе я ня быў толькі, спадабаў адны Полькі,—
Так панадны мне стан іх дзявочы,
Твар іх бела-ружовы, як смоль—чорные бровы,
Як дзьве зоркі, так сьвецюцца вочы.

Маладым чэлавекам, я стуль быў прад паўвекам
Сабе вывез палячку за жонку;
Хоць яна ўжо ў магіле, я ўбываю на сіле,
А ўсё-ж міла гляджу ў ту старонку.

Даўшы так асьцярогу, блаславіў на дарогу;
Яны ўзялі бронь, селі, пабеглі.
Сходзе восень, зіма йдзе, сыны ўсё там—вайна дзе;
Будрыс думаў, што ў бітвах палеглі.

Па сьняжыстай дарожцэ, мчыцца ў зброі хтось к вёсцэ,
    А пад буркаю нешта хавае:
Кубел—гэта, знаць,—ноша, а ў ім рускіе грошы...
    Не!.. Палячка—твая сынавая.

Па сьняжыстай дарожцэ мчыцца ў зброі хтось к вёсцэ,
    А пад буркаю нешта хавае:
Мусіць с Прусаў, мой сыну, цягнеш кубел бурштыну...
    Не!.. Палячка—твая сынавая.

Па сьняжыстай дарожцэ трэці нехта прэ к вёсцэ,
    А пад буркай вяліка дабыча.
Будрыс—што?—не пытае, толькі госьці склікае,
    На вясельле іх трэцяе клічэ.

---

# Пані Твардоўская.

*А. Міцкевіча.*

Пьюць, ядуць і люлькі смалюць,
Таўкатня ўкруг і сваволя,
Ледзь карчмы тэй не развалюць...
Хі-хі, ха-ха, гэй-жэ, го-ля!
    На канцы стала Твардоўскі
    Сеў, патпёрся, выпнуў бруха,
    І крычыць на чым сьвет боскі,
    І усяк туманіць юха.
Салдату, ўдаваў што зуха,
Ўсіх ён лае, разганяе,—
Сьвіснуў шабляй каля вуха,
Ўжо с салдата зайца мае.
    Старшыне, што місу з мясам
    Паражніў з вялікім смакам,
    Пырснуў квасам і тым часам
    Старшыню зрабіў сабакам.
Пстрык! шаўца у нос кароткі,
Тры да лба прыткнуў краночкі,
Цмокнуў цмок, і гданьскай водкі
Сы лба вытачыў паўбочкі.

Тут, як водку піў с келіха,
У келіху сьвіст зрабіўся;
Глядзь на дно:—Гэй, што за ліха!
Ты чаго, кум, сюды ўбіўся?
На дне ў чарцэ бачыць—чорцік:
Чысты немец, знае ўвагу;
Пакланіўся і, як хорцік,
На падлогу дае цягу.
Скочыў, вырас на два локці,
Нос, як гачык—знаць, што не-людзь,
І савіные пазногці
На худых нагах віднеюць.
«А! Твардоўскі... як дуж, браце?!»
Так гаворэ і падходзе:
«Ці-ж ня хочэш на'т пазнаці
«Мафістофаля, дабродзей?
«Там, пад Лысаю-Гарою,
«Што душу нам атступаеш,
«Патпісаўся ты крывёю,
«А цяпер і ані дбаеш!
«Надало-ж табе забыцца,
«Што, як два мінуць гадочкі,
«Меўся ў Рыме ты явіцца,
«Каб цябе ўзяць за грахочкі.
«Ўжо сыходзе год і сёмы,
«І кантракт далей ня служэ,
«А за чары, ой, даўно мы
«Жджом цябе у пекле, дружэ.
«Але хоць чэкаў я леты,
«Помста ўрэшці даканана:
«*Рым* завецца шынок гэты...
«Кладу арышт на васпана.»
Даць хацеў Твардоўскі цягу
На сказ гэтакі чартовы,
Але той злавіў за дзягу:
«А дзе, кажэ, гонар слова?»
Што рабіць? чэрта насьпела,
Схопе ў пекла тут, і годзе.
Дый Твардоўскі знае дзела,
І таму мазгі заводзе.

«Гэй, ты, чорце! глянуць зволь-ка
«У кантракт, дзе пункты ўвідзіш,
«Што як лет мінецца столька,
«Па маю душу як прыдзеш,—
«Буду права мець тры разы
«Запрагчы цябе ў работу,—
«Ты-ж найгоршые прыказы
«Мусіш споўніць што да-ёты.
«Глянь, над ка́рчмай малеванне:
«Конь грывясты, хвост, як вехаць;
«Тут жывым нехай ён стане,
«Мушу я на ём праехаць.
«Біч с пяску скруці мне, бесе,
«Каб каня меў чым пагнаці;
«Хором выбудўй у лесе,
«Каб было дзе папасаці.
«Зруб стаўляй з зернят арэху,
«Прыкажы знасіць іх раку,
«Жыда пэйсамі лаць стрэху,
«Места гонт—крый зернем маку.
«Глянь, цьвячок такі прымерна:
«Ў цаль—таўсты, даўгі—тры цалі;
«Бі у кожна маку зерна
«Па тры гэткіе гантали.»
Мафістофель духам скочэ,
Каня корме, пое, чысьце,
Біч даўгі са жвіру точэ,
А ўсё жыва і агнісьце.
Сеў Твардоўскі, выпнуў жылы,
Ўзяў за повад, кон здаровы,
Знай, трымайся што ёсьць сілы,
Аж тут зірк: палац гатовы.
«Так, так! выйграў, пане бісе;
«Ды работа жджэ другая:
«Ты скупайся ў гэтай місе—
«Толькі ў ёй вода сьвятая.»
Чорт спужаўся, ўвесь сагнуўся,
Пот яго сьцюдзёны крые;
Ўсё-ж, пан кажэ—слуга мусе,
Чорт скупаўся аж па шыю.

Потым выскачыў, як з жару,
І Твардоўскаго зноў страшэ:
«Я цяжкую вынес кару,
«Але й ты у моцы нашай.»

«Раз ешчэ—і будзе квіта—
«Па кантракту ёсьць нагонка...
«Глянь, вун баба каля сіта,
«Гэта, чорце, мая жонка.

«Я на год у Вэльзабуба
«За цябе жыць астануся,
«А праз той час мая люба
«Жыць с табой, як з мужэм, мусе.

«Службу, любасьць, шанаванне
«Хай ёй вашэ прысягае,
«Зломіш хоць адно заданне—
«Ўся умова прападае.»

Што той кажэ, чорт пільнуе,
Вокам кідае на самку,
Быццам бачыць, быццам чуе,
І зблíжаецца пад клямку.

А Твардоўскі пры ім сучэ,
Быццам гнецца, а ўсё бачэ;
Скочыў дзюркай чорт ат ключа,
І дагэтуль недзе скачэ.

---

# Ў дагонку.

(Czaty).

*А. Міцкевіча.*

С-пад прысад агарода бледны ўбег ваевода
У палац свой са злосьцю й трывогай;
Дзе ў бакоўку дзьвер—стануў, у пасьцель жонкі глянуў,
Глянуў там і не ўбачыў нікога.

Ў дол патупіўшы вочы, ўвесь дрыжыць, штось мармочэ,
Вусы тузае, думае дзіка;
Адышоў ат пасьцелі, жутка зрэнкамі стрэліў,
Казака́ ту-ж Навума паклікаў.

Гэй, казачэ, ты, хаме! Штó у садзе пры браме
Ні сабакі німа, ані стражы?!
Брацъ мне торбу барсучу і янчарку гайдучу,
С цьвека стрэльбу цягні мне ураз-жэ!

Ўзялі броню—і ходу!.. Патцякліся к гароду,
Дзе шпалеры альтану абселі...
На дзярновым пасадзе штось бялее у садзе:
Там сядзела кабеціна ў белі.

Броўкі ручкай адною закрывала касою,
Грудзі крыла рубком кашуліны,
А другою—памалу ат сябе атпіхала
Што ў калень яе кленьчыў, мужчыну.

Той прыпаўшы к каленням гаварыў ей с цярпеннем:
Дык усё, што было, ўжо далёка...
І твае уздыхання, і тваё прывітанне
Аткупіў ваевода гатоўкай.

Я, хоць верным быў гэтак табе столькі ўжо летак,
І любіць, і цярпець мушу здаля,
А ён с сэрцэм камéнным бразнуў золатам зменным,—
Ты яму прадалася без жалю.

Ён што вечара будзе песьціць белые грудзі,
С табой цешыцца ў пуху лебяжым;
Намаю на загубу цалаваць шчочкі, губы
Твае будзе цалункам уражым.

Я на коніку верным гэтым полем бязмерным
Мкну сюды, за мной—холад і слоты,
Мкну вітаці ўздыханнем і ад'ехаць з жаданнем:
Добрай ночкі і доўгай пяшчоты.

Ўсё яна йшчэ, як глуха; ён ей шэпчэ на вуха
Тые жальбы, ці новы закляцьця;
Аж прымлеўшы, без сілы ручкай грудзі аткрыла
І ў яго патанула абняцьце.

Ваевода с слугою сталі ту-ж пад вярбою,
І з-за пояса бралі набоі,—

Атсекалі зубамі, прыбівалі штымплямі
Жмені пораху й шроту удвое.

Пане!—так казак клічэ,—нейкі чорт мною смычэ;
Не магу я застрэліць той дзеўкі:
Як свой курак адводзіў, я ўздрыгнуў, бы на лёдзе,
І зьляцела сьлеза да панэўкі.

Ціха!.. Кінь, хаме, кракаць, я наўчу цябе плакаць...
На, тут с порахам гданскім сакеўку;
Ўсып патпалу а жыва, ногцем шчысьці красіва,
Ды ў свой лоб стрэль, ці ў гэтую дзеўку.

Ў права... выжэй... памалу... жджы майго самапалу:
Жаніха перш зьмяту на заўсёды!..
Ўзьвёў казак курак, сцэліў, не чэкаючы, стрэліў,
І ўгадзіў ў самы лоб ваеводы.

---

# Тры дарогі.

*М. Конопницкай.*

Ідуць тры сьцежкі с хаты
На долю і нядолю:
Ідзе адна, дзе пану
Людцы пахаюць поле;
На лева ад хаціны
Ідзе ў карчму другая,
А трэцяя—к магілкам,
Дзе брат наш спачывае...
Ад цяжкай працы, поту
Адна расіцай сьвеціць;
Хто па другой праходзе,
— З бацькоў сьмяюцца дзеці;
Палын расьце на трэцей,
І насыпы выжэй, ніжэй,
І плачэ там бярозка,
І крыж стаіць на крыжу...

Па сьцежках гэтых ходзяць
У лапцях нашы людзі.
Гэй! хто ім сьцежку ўскажэ,
Што весьці к шчасьцю будзе?..

---

## Варажбітка.

*М. Конопніцкай.*

Вецер коціцца па полю,
Жытні колас гнецца прытка;
Гэй, цыганка-варажбітка,
Варажы мне маю долю.
Варажы яе с чырвонай
Зоркі, што над хатай льсьніцца,
С таго шуму, што так мчыцца
Ад дубровы ад зялёнай.
Варажы з рукі яе мне,
З рукі правай, мазалістай,
І с крынічкі таей чыстай,
Што бурліць так па каменню.
Варажы мне добрым словам
С тэй вясёлкі многакветнай,
І с тэй кнігі, с тэй прасьветнай,
Што аб шчасьці кажэ новым.
... Тваей долі німа ў кнізе,
Ні у вадзіцы, ні на небе,
Толькі ў чорным тваім хлебе,
Толькі ў світцэ, рванай рызе.
Ні на зорку залатую,
Ні с крыніцы шумнай чыстай,
А з рукі тэй мазалістай
Мужыку тут варажу я.
Ой, ты будзеш, будзеш панам,
Ні то князям, ні гэтманам:
Тваё царства ўецца кругам,
Дзе ня пройдзеш толькі плугам.
Бачэн будзеш ты ў чырвені,
Што с крывавым потам льецца,

І ў тым золаце—прамені,
Што ад коскі адабьецца.
Скарб ты выарыш багаты
З нівы гэтай заaранай:
І таляры, і дукаты,
Толькі-ж не сабе, а пану.
А шлюб возьмеш ты с царыцай,
Што жыццё усё с табою
Не захочэ разлучыцца...
Ой, возьмеш ты шлюб з бядою.
Днём нашле сон, ночкай збудзе,
Сцерагчы будзе парога;
Ані з ёй табе у людзі,
Ані з ёй табе да Бога!
Як вясною ўсходзюць кветкі,
Падымающа хмурліва,—
Укалышэ твае дзеткі
Песьней голаду сьлязлівай.
Жджэ цябе дарога з ёю,
Ў доўж і ў шыр саўсім малая,
А ў зямлю глыбей за тое,
А ў гару—аж зор хватае.
Па ёй будуць цябе весьці
Твае волікі сівые
І званы аж вежай трэсьці
На магілкі на старые.

---

## Родны дом.

*М. Конопніцкай.*

Ці любіш дом? свой родны дом,
Што ў ночку—летавай парой—
Шэптанем ліп варожыць сном,
Сьлязу солодзіць цішынёй.

Ці любіш дом? сваю страху?
Што многа лет гняце ў маху
Крывых варот нізкі парог,
Што ласкай сьцеліцца да ног.

Ці любіш дом? ад'жыўчы пах
Пракосных зёл, насьпелых ніў,
І ружы цвет, што ў кальчуках
Сваю прыгожэсьць засяліў.

Ці любіш дом? свой родны дом,
Што гул жывых сасон вярхоў
І духаў стогн, і віхраў хор
Пераліваe ў тваю кроў.

Ці любіш дом? свой родны дом,
Што ў часе бур, плакучых хмар,
Калі ў душу ударыць гром,
Нясе прытульны думкам чар.

Раз любіш ты, і ўсей душой
Пад гэтай хочэш жыць страхой,
Кут бацькаў сэрцэм сьцеражы,
І сэрцэ ў ім на век злажы.

---

## Тры пары дня.

*М. Конопніцкай.*

Прыдзе сьвітанне да маей хаткі
І разбуджаць мяне стане:
«Гэй! бяры коску; глянь! там на ўсходзе
Сонейка скора прагляне.»
Дзе ты, сермяга? Пот яшчэ значэн:
Ночкай ня высах Пятровай.
Дзе мая коска? дзе баяўніца:
Час нам на луг за дуброву.
Прыдзе палудня да маей хаткі,
Ка мне патсядзе на лаву,
І так глядзіць там, як мае дзеткі
Жывюцца поснаю стравай.
І лусту хлеба чорнага ломе,
Рукі чагосьці трасуцца,
А што кусочэк возьме, аткусе—
Сьлёзы цурком паліюцца.

А прыдзе ночка да маей хаткі,
Стане ў куток, падапрэцца
І, ў думах-думках, стоючы гэтак,
Песьняй глухой адазвецца.
А ў грудзях сэрцэ птушкай заскачэ,
Хадыром хатка заходзе,
Як ноч аб долі цяжкай мужычай
Нудна галосе, заводзе.

---

## Доля.

*В. Сыракомлі.*

Ные сэрцэ без патолі,
Нудна льюцца сьлёзы...
Выйду клікаць лепшай долі
Ў даль, пад шум бярозаў.
Дзе ты лепшая, дзе, доля?
Прыбудзь,—хай пазнаем!
Прымем хлебам, прымем солей,
Шчыра прывітаем.
Дарма плачу, прызываю
І ў жалю малю я:
Вецер словы адбівае,—
Доля ані чуе...
Ой ты, песенька, маўчы ты!
Не нам вецер зьбіці:
Хадзі с сэрцэйкам разьбітым
Па долі тужыці.

---

## Каралі.

(Пацеркі).

*В. Сыракомлі.*

Як ішоў я ў бой кіпячы,
Як прашчаўся с хаткай,
Тут Ганулі мая с плачэм:
«Пойдзеш гінуць, братка!

«Але буду я маліцца,
«Каб ця Бог ацаліў,
«Ты-ж прынось за то гасьцінца
«Шнур даўгі каралеў.»

З ласкай Божай паручыла
Грамадзе радзімай:
Палі ворагавы сілы,
Горад здабылі мы.
Як прыціхнулі гарматы,
Як браму зламалі,
Хто саетаў, хто дукатаў—
Я шукаў каралеў

Хоць і ў шчасьці не радзіўся,
А шукаю сьмела...
Шнур каралеў замігціўся,
Як-бы вішэнь сьпелых.
Тут здабычыну схапіўшы,
Не чэкаю далей,
Чымўскарэй сьпяшу к наймільшай—
Даць ей шнур каралеў.

Па гасьцінцы, па дарожцэ
Кульгаю да дому...
Загудзелі званы ў вёсцэ,
Як па нежывому.
Прыбліжаюся к хаціне,
Аж тут людзі здаля:
«Твая Ганна ў дамавіне,—
«Ня трэба каралеў!»

Ой, заплакаў, ой, заенчыў
Цяжэй цяжкай хмары,
Перад цэркаўкай укленчыў,
Дый сьпяшу к аўтару:
Да Найсьвеншай да Марыі
Зближаюся ў жалі,
І завесіў Ей на шыі
Я тых шнур каралеў.

# Груган.

*В. Сыракомлі.*

Спанад лесаў, спанад хмараў
Груган вылетае,
Сеў пад вёскай на папары,
Груганят склікае.
На вялікай, знаць, быў згубе
Ў далёкіх старонках:
Рука правая у дзюбе
З залатым пярсьцёнкам.

—Эй, скажы, груган незнаны,
Скуль ты прыбываеш?
Скуль пярсьцёнак пазлачаны,
І руку скуль маеш?—
– За гарамі, ой, дзяўчына,
Страшны бой вядзецца;
Кроў ліецца ручаінай,
Труп на труп кладзецца.

Зарывае люд рабочы
Ссечаны галовы,
На малойцаў грудзі, вочы
Сыплюць наспы новы.
На курганах на бедачых
Воўчы рык чуваці;
Не адна галосіць, плачэ
Сірата і маці.

Сьлязьмі горка залілася
Бедная дзяўчына:
—Вось калі я дажылася
Нешчаснай часіны!
Ой, руку я ўжо пазнала!
Той, чыя,—не ўстане:
Гэты персьцень даравала
Міламу ў разстанні.

---

# Ў сьвет *).

Эй, зямелька, загон ты мой чорны!
Рые плуг, бара́на твае кветкі;
Ў табе сьпяць ураджайные зёрны,
А мы ў сьвет, тваe родные дзеткі.
    Сьвісьне коска ў тваей сенажаці,
    Бразьне серп на загоне пасьпелым, —
    А прад намі прасьвіту не знаці,
    Непагодай спавіты сьвет цэлы.
О вы, зёрны, о сноп умалотны,
О ты, жніў залатая мінута!
Жаль, нуда з намі ўсьлед плыве слотна,
А прад намі — маркотнасьць, пакута.
    Жаль, нуда залягли, як туманы
    Хмар над нашай зямелькаю-маткай,
    А загон яе ў скібы з'араны,
    А ў самой яе дрэмлюць зернятка.
Хто пасьмее зямельку вініці,
Нарэкаць на цябе хто пасьмее,
Што ў бадзянні нам страшна так жыці,
Што ў жало́бе мы гэткай марнеем.
    Жаль, нуда хай ідуць перэд намі
    І маркотнасьць, і любасьць бязко́нца,
    А ты, маці, сваймі каласкамі
    Шумі, цешся і сьмейся да сонца.
Эй, зямелька, загон ты мой чорны!
І у нас ешчэ ўцеха загосьце;
Ешчэ будзем зьбіраць тваe зёрны,
Ешчэ зложым свае ў табе косьці.

---

*) С польскаго. Аўтора ня ведаю. *Я. К.*

